


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

18 ЖНІЎНЯ 2000г. № 33-34/4065-4066 КОШТ 95 РУБ.




**БУДЗЬМА РАЗАМ!**

*Шаноўныя чытачы! Пачалася падпіска на "ЛіМ" на чацвёрты квартал 2000 года. Аформіць падпіску можна ў любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 500 рублёў, на квартал — 1 500 рублёў. Кошт ведамаснай падпіскі на месяц — 1 300 рублёў, на квартал — 3 900 рублёў.*

**Наш індэкс — 63856.**

Фота Ул. КАГУЦЕНКІ

*Ужо верасень не за гарамі.*
*Дрэва ў полі, як восень, стаіць*
*І дарога, як вечнасць, ляжыць*
*З адзінотай сваёй перад намі...*

# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Не паспелі людзі апамятацца ад трагічнага паведамлення з Масквы, дзе на Пушкінскай плошчы ў падземным пераходзе адбыўся выбух, ад якога загінула 13 чалавек і некалькі дзесяткаў яшчэ і сёння ляжаць у цяжкім стане ў бальніцах, як зноў з Расіі прыйшла інфармацыя, што ў водах Баранцава мора пацярпела аварыю атамная падлодка "Курск". Здавалася, якая нам справа да таго, што адбываецца недзе далёка ад нас. Ды не — мы, беларусы, як і заўсёды сустракалі і перажывалі гора не толькі нашых суседзяў, але і далёкіх людзей. І гэта нармальна, па-чалавечы, інакш не можа і быць...***

***А ў нас у краіне ідзе бітва за ўраджай. Здаецца, у гэтым годзе спрые і надвор'е, каб паспяхова сабраць тое, што вырасцілі. Дай то, Бог!***

### ГАТОЎНАСЦЬ ТЫДНЯ

Не за гарамі Алімпійскія гульні ў Сіднеі. Выканкам Нацыянальнага алімпійскага камітэта зацвердзіў канчатковы састаў беларускай дэлегацыі. У нацыянальную зборную ўключаны 140 атлетаў, якія найбольш паспяхова выканалі высокія адборачныя нарматывы. Яны выступяць па 21 віду спорту. Агульная колькасць нашай дэлегацыі — больш як дзвесце чалавек. Акрамя спартсменаў, у яе ўваходзяць трэнеры, кіраўнікі некаторых федэрацый, урачы і іншыя спецыялісты. Згодна з праведзеным аналізам, рэальныя шанцы на заваяванне медалёў ёсць у лёгкаатлетаў, гімнастаў, весляроў, стралкоў, барцоў, тэнісістаў. Хочацца спадзявацца, што планы нашай алімпійскай зборнай стануць явай, бо ўсё-ткі сапраўды ў нас ёсць цудоўныя спартсмены. Будзем чакаць перамог!

### ВЕСТКА ТЫДНЯ

З Швейцарыі прыйшла вестка, што адна з вуліц сталіцы гэтай краіны Берна пераймянавана і цяпер носіць імя першай у Еўропе жанчыны-прафесара філасофіі, ураджэнкі Дуброўна, што на Віцебшчыне, Ганны Тумаркінай, якой у гэтым годзе адзначаецца 125-годдзе з дня нараджэння. Вестка хоць і не такая значная, але прыемная...

### ЛІДЭРСТВА ТЫДНЯ

Паводле даных Міждзяржаўнага статыстычнага камітэта СНД, сёлета ў першым паўгоддзі найбольшая колькасць жылля была ўведзена ў Расіі — 9943 тысячы квадратных метраў. Беларусь па гэтым паказчыку заняла чацвёртае месца — 1662 тысячы квадратных метраў жылля. Буйныя аб'ёмы будаўніцтва адзначаны таксама ва Узбекістане і Украіне. А калі абсалютныя лічбы будаўніцтва параўнаць з колькасцю насельніцтва ў кожнай краіне, дык па гэтым паказчыку Беларусь знаходзіцца ў лідэрах. У нас у першым паўгоддзі было ўзведзена 166,2 метра жылля на 1000 чалавек. Нязначна адстаў толькі Узбекістан. А жылля як не хапала людзям, так і не хапае...

### ПАДЛІКІ ТЫДНЯ

1 верасня за школьныя парты сядуць 1 млн. 571 тыс. 600 школьнікаў. Яшчэ 135 тысяч маладых людзей будуць вучыцца ў ПТВ, 144 250 чалавек — у сярэдніх спецыяльных навучальных установах і 262 100 чалавек — у ВНУ. Такім чынам патэнцыяльныя пакупнікамі тавараў школьнага асартыменту будуць у гэтым навучальным годзе каля 2 млн. 113 тысяч беларусаў. Згодна з падлікамі работнікаў гандлю, самая сціплая школьная экіпіроўка з улікам канцылярскіх прыналежнасцяў, школьнай сумкі, спартыўнага абутку і адзення для школы беларускіх вытворцаў абыдзецца бацькам першакласнікаў сёлета ў 48 050 рублёў, а для 10-класнікаў такі "школьны набор" пацягне мінімум на 105 тысяч. Весела...

### ПЛАНЫ ТЫДНЯ

У гэтым годзе, як ніколі, нашы сады багатыя на ўраджай. На сённяшні дзень у насельніцтва закуплена 20 тысяч тон яблыкаў. А плануецца закупіць 70 тысяч тон, якія пойдуць на перапрацоўку — на сок, павідла, пюрэ. Дзякуючы добраму ўраджаю ўжо 1 тысяча тон яблыкаў накіравана на экспарт у Літву. Летась яблыкі наша краіна не экспартавала. У бліжэйшым будучым плануецца накіраваць за межы Беларусі яшчэ недзе 1 тысячу тон пладоў. Такім чынам будзе здабыта хоць нейкая валюта, якая вельмі патрэбна нашай краіне.

### ГАРАНТЫІ ТЫДНЯ

З 1 верасня Нацыянальны банк будзе гарантаваць грамадзянам, у выпадку банкруцтва або прымусовай ліквідацыі выбранага ім банка для ўкладу сродкаў у замежнай валюце, эквівалентнай адной тысячы долараў ЗША (цяпер гарантуецца вяртаць суму, эквівалентную 2000 долараў). Датычыць гэта валютных укладаў у банках, якія не адносяцца да ліку ўпаўнаважаных па абслугоўванні дзяржаўных праграм. За 7 месяцаў уклады ў нацыянальнай валюце ўзраслі на 52 543 4 млн. рублёў (180,4 працэнта), а ў замежнай — на 31,2 мільёна долараў (15,7 працэнта) і склалі адпаведна 81 665 7 мільёна рублёў і 230,4 мільёна долараў. Дык ёсць жа ў нас, аказваецца, і вельмі багатыя людзі!

### РОСТ ТЫДНЯ

Выраслі плацяжы насельніцтва за кватэру. Ліпеньскія тарыфы за халоднае водазабеспячэнне, каналізацыю і карыстанне ліфтам былі праіндэксаваны на 11,9 працэнта. З 5,39 да 6,03 рубля за кв. метр агульнай плошчы ўзрасла стаўка платы за карыстанне жылымі памяшканнямі. Па-за межамі ліпеньскай індэксацыі засталіся тарыфы на гарачае водазабеспячэнне і ацяпленне. Іх павелічэнне адбылося ў гэтым месяцы. Дакладней, вызначана мяжа павышэння (да 50 працэнтаў), а ўжо рэальныя лічбы дадуць аблвыканкамы і Мінскі гарвыканкам. З 15 жніўня за карыстанне 1-пакаёвай кватэрай 20 кв. м. жылой (32 кв. м. агульнай) плошчы, сям'і з двух чалавек трэба будзе плаціць у летні перыяд 2 808 рублёў (у зімовы 4349 руб.); за карыстанне 2-пакаёвай кватэрай 30 кв. м. жылой (48 кв. м. агульнай) плошчы сям'і з 3 чалавек трэба будзе плаціць у летні перыяд 4093 рублі (у зімовы — 6315 руб.); за карыстанне 3-пакаёвай кватэрай 43 кв. м. жылой (69 кв. м. агульнай) плошчы сям'і з 4 чалавек трэба будзе плаціць у летні перыяд 5364 рублі (у зімовы — 8557 руб.). Нягледзячы на ўсё, узровень вяртання затрат па паслугах ЖКГ складзе толькі 20 працэнтаў. Хто ўмее лічыць, той адразу ўбачыць, што пры аплаце 100 працэнтаў камунальных паслуг давядзецца траціць адну з зарплат члена сям'і. Няслаба...

### НАПАМІН ТЫДНЯ

Нягледзячы на ўсе папярэджанні, што трэба вельмі сур'ёзна глядзець на грыбы, якія мы прыносім з лесу, толькі ў Віцебскай вобласці, у медыцынскіх установах з дыягназам таксічная інфекцыя знаходзіцца 10 чалавек. Ахвяр атручэння грыбамі хапае і ў іншых абласцях. Шмат і памерлых. Варта яшчэ раз усім напомніць, што трэба браць толькі тыя грыбы, якія ты ведаеш добра, а не спадзявацца на тое, што, можа, пранясе і на гэты раз, бо вельмі ўжо прыгожы грыб і выкідаць яго шкада. Амаль кожны дзень сродкі масавай інфармацыі напамінаюць нам пра небяспеку. Але некаторыя нашы грамадзяне ці то не чытаюць газет і не глядзяць тэлебачання, ці то вельмі ў іх кароткая памяць, усё роўна збіраюць і ядуць атрутныя грыбы. Будзьце пільнымі — жыццё адно!

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Каля 2000 кніг перадаюць у бібліятэку Саюза беларускіх пісьменнікаў родзічы паэта Веніяміна Блажэннага. Як паведаміў прыхільнік яго творчасці Ігар Віркоўскі, прыкладна столькі ж кніг з вялікай, унікальнай бібліятэкі паэта будзе ў хуткім часе перададзена ў дзіцячы дом "Тарасава", што пад Мінскам.

●

Наладжваюцца сталыя сувязі з пісьменніцкімі арганізацыямі Расіі. Газета "Литературный Петербург" Санкт-Пецярбургскай арганізацыі Саюза пісьменнікаў Расіі N 7 за гэты год пазнаёміла чытачоў з эпіграмамі Паўла Саковіча ў перакладзе на рускую мову Алены Жабінкоўскай, а "Литературные вести" — выданне Саюза пісьменнікаў Масквы і незалежнай асацыяцыі пісьменнікаў "Апрель" — змясцілі на сваіх старонках артыкул Валянціна Аскоцкага "Островок на ветрах истории", прысвечаны паэтам-іфліўцам, сярод якіх быў і Алесь Жаўрук, а таксама ўспаміны Віктара Астаф'ева пра сумеснае падарожжа з Васілём Быкавым, іншыя матэрыялы, прысвечаныя Беларусі.

●

Добрае супрацоўніцтва працягваецца з польскім інстытутам, што ў Мінску. У лістападзе плануецца адзначыць 70-гадовы юбілей вядомага беларускага паэта з Польшчы Алеся Барскага (Аляксандра Баршчэўскага), які маецца прыехаць у Мінск з лекцыяй "Беларуская літаратура Польшчы". У студзені гэтага года сумеснымі намаганнямі Саюза беларускіх пісьменнікаў і польскага інстытута была арганізавана імпрэза, прымеркаваная да 75-годдзя паэта і перакладчыка Віктара Шведа.

ДАТЫ

# Светлай памяці Песняра

13 жніўня — дзень смерці Якуба Коласа. Як і кожны год, сёлета каля помніка народнага песняра на Вайсковых могілках у Мінску сабраліся, каб ушанаваць памяць паэта тыя, каму ён дарагі і блізкі, — пісьменнікі, навукоўцы, працаўнікі музеяў, рэдакцый газет і часопісаў, родзічы пісьменніка.

На магілу былі ўскладзены жывыя кветкі і адбыўся памінальны мітынг. Словы пра песняра, пра значнасць яго творчасці ў цяперашні час сказалі член-карэспандэнт НАН Беларусі М. Мушынскі, старшыня праўлення Беларускага фонду культуры У. Гілеп, галоўны рэдактар часопіса "Роднае слова" М. Шавыркін, паэт Р. Тармола-Мірскі. Прагучалі ўрыўкі з твораў Я. Коласа і вершы, прысвечаныя светлай яго памяці.

**Святлана СУБАТ**



*Фота С. ЛУК'ЯНАВА*

УГОДКІ

# Абаронца мовы свайго народа

## ДА 160-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Альгерда АБУХОВІЧА

Язэп Дыла ва ўспамінах "Пісьменнік-дэмакрат Альгерд Абуховіч", апублікаваных у сакавіцкім нумары часопіса "Беларусь" за 1958 год, прыгадваў сустрэчу, якая аказала ўплыў на яго далейшае жыццё, паколькі ўпершыню сур'ёзна далучыла да беларускасці: "Я сядзеў і слухаў, як зачараваны, бо ўпершыню з вуснаў пана, хаця і ў паношанай вопратцы, прытым ад чалавека ўжо са срэбрам у валасах чуў "дзіва" — мілагучныя вершы на той мове, якой я, жывучы да дзевяці гадоў у сям'і дзеда і бабкі, карыстаўся, якую я лічыў прыгожай і якую я ў гімназіі бараніў перад сваімі аднакласнікамі, што яе ганілі і высмейвалі. Пісьменнік у маіх вачах цяпер паўставаў як абаронца мовы свайго народа, як вястун і чараўнік роднага слова".

Абаронца мовы свайго народа... Чаму ж пра гэтага абаронцу мы так мала гаворым? Чаму згадваем куды радзей, чым, скажам, Францішка Багушэвіча, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча? Прычына — не толькі нацыянальны нігілізм. Сталася так, што напісанае А. Абуховічам, за рэдкім выключэннем, да нашых дзён не дайшло. А ён жа плённа займаўся і перакладамі. Красамоўнае сведчанне наконт гэтага таго ж Я. Дылы: "На працягу некалькіх гадоў свайго маленства і наведвання пісьменніка я меў магчымасць паслухаць пераклады Абуховіча з "Фауста" Гётэ, з "Разбойнікаў" Шылера, некаторых вершаў Гюго, Байрана, Дантэ. Уражанне ад пачутага ў мяне было моцным". Я. Дыла працягваў: "Трэба таксама зазначыць, што ў Абуховіча былі пераклады з Пушкіна, Лермантава, Міцкевіча, Канапніцкай, Кандратовіча-Сыракомлі".

З багатай мастацкай спадчыны А. Абуховіча да нас дайшлі ўсяго некалькі яго баек і мемуарныя запісы. Да вяртання імя пісьменніка з небыцця шмат зрабіў слуцкі настаўнік і краязнаўца, цяпер нябожчык Рыгор Родчанка. Р. Родчанка выпусціў у 1984 годзе ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" нарыс жыцця і творчасці гэтага аднаго з пачынальнікаў нацыянальнай літаратуры — "Альгерд Абуховіч-Бандынэлі", а ў 1991 годзе ў той жа "Мастацкай літаратуры", таксама дзякуючы намаганням Р. Родчанкі (укладанне, прадмова і каментарыі) з'явілася першае асобнае выданне твораў пісьменніка.

Свае беларускія творы А. Абуховіч падпісваў "Граф Бандынэлі". Ва ўжо згаданых мемуарах ён прызнаваўся: "Гэта прозвішча маёй бабкі, апошняй з гэтага роду, каторы выдаў такую знакамітасць, як папеж Аляксандр III".

Альгерд Якаў (як і многія на той час, меў двайное імя) Абуховіч нарадзіўся 6 жніўня 1840 года ў маёнтку Калацічы (цяпер аднайменная вёска ў Глускім раёне). Заможная сям'я Абуховічаў належала да радавітай шляхты. Бацькі пастараліся даць адзінаму сыну належную адукацыю. Спачатку наведваў заняткі ў Слуцкай гімназіі. Прыкладна ў 1855—1856 гадах паехаў на вучобу ў Жэневу. Гады праз тры перабраўся ў Парыж, дзе знаходзіўся, відаць, да 1862-га ці да 1863 года, калі пачалося паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. У ім, хутчэй, прымаў непасрэдны ўдзел, хоць гэта дакументальна і не пацверджана.

Пасля разгрому паўстання, паколькі пра ўдзел А. Абуховіча ў ім ніхто не здагадваўся, змог вярнуцца ў Калацічы. Але доўга там не затрымаўся, бо ўзнікла непаразуменне з родзічамі. Некаторы час жыў на ўдзельніка паўстання 1863 года Расудоўскага, а пасля пачаў здымаць кватэру на тагачаснай Іванаўскай вуліцы ў Слуцку.

Калі А. Абуховіч стаў пісаць, невядома. А з твораў, якія дайшлі да нас, найперш вылучаюцца мемуарныя запісы, што ставяць іх аўтара ў шэраг першых беларускіх мемуарыстаў.

Альгерд Абуховіч быў надзвычай чуйным да слова. Да месца прыгадаць дзесяты па ліку раздзел мемуараў — "Літаратурнае апраўданне". З яго відаць, што з вершамі А. Абуховіча мог пазнаёміцца Ф. Багушэвіч. Ён жа зрабіў заўвагу, што аўтар выкарыстоўвае мясцовыя словы: "У мяне не ўсюды бываюць уласцівыя беларускай мове акцэнты". Як сведчыць А. Абуховіч, тады ён адказаў свайму літаратурнаму апаненту чатырохрадкоўем:

*У гаворцы ёсць ружніца*
*Між маею і Тваей:*
*Маей — пушчы, Птыч граніца,*
*Ты — Панарскі салавей!..*

У працяг гэтай дыскусіі А. Абуховіч адстойваў права пісаць пасвойму: "Мне перш за ўсё ідзе аб тое, каб выказаць, што я хачу, каб пачулі мысль маю і каб словы карэнныя беларускія пры помачы нашай літаратуры атрымалі як найшырэйшае абывацельства. І дзеля гэтага я не сцясняю свайго дыялекту, ужываючы словы і звароты агульнабеларускія. Гэтак паступаючы, я кладу ў літаратуру свой прыродны дыялект беларускай мовы, даючы найлепшае з яго. У канцы невядома яшчэ, каторы дыялект беларускі прыгажэй".

Дайшло да нас яшчэ некалькі твораў А. Абуховіча. Сярод іх байка "Старшына", у якой пісьменнік выказаў сваё стаўленне да рэформы 1861 года. У байцы ж "Суд" мараль відавочная: "Круцялёў чым разбіраць, лепш абодвух пакараць". А ў байцы "Воўк і Лісіца" аўтар выкрывае хітрасць і скупасць лісы, якая пашкадавала даць ваўку паесці. Напісаны ім вершы "Ваўкалак", "Дума а каралю XII".

Пасля смерці пісьменніка 10 жніўня 1898 года яго рукапісы, шматлікія кнігі з асабістай бібліятэкі былі складзены ў лазовыя карзіны, абшытыя палатном, а то проста скручаныя і перавязаныя. Увесь гэты скарб занеслі на гарышча дома. У 1928 годзе дом быў куплены новымі гаспадарамі Барташэвічамі. Недзе ў пачатку трыццатых гадоў на іх данеслі, што хаваюць золата. Золата, зразумела, не знайшлі, а кнігі, рукапісы пагрузілі на падводу. Дзе яны пасля гэтага падзеліся — невядома.

На думку Р. Родчанкі, "...рукапісы... або спалілі, або здалі ў макулатуру. Першае верагодней. У тыя дні, напрыклад, скасавалі Слуцкі трайчанскі манастыр і яго бібліятэку. Старажытныя кніжкі з манастырскай бібліятэкі пагрузілі ў некалькі дамавін, вынеслі іх на бераг Случы і там спалілі. Гэта "мерапрыемства" было пахаваннем рэлігіі...

Падобны лёс мог напаткаць тады і рукапісную спадчыну Абуховіча".

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

СВЯТЫ

# "Культура — вехі супрацоўніцтва"

Вось ужо дзевяты раз Украіна адзначае сваё галоўнае дзяржаўнае свята — Дзень Незалежнасці. Мінулыя гады ў двухбаковых адносінах Украіны і Беларусі былі адметныя ўзаемным імкненнем да пашырэння і паглыблення стасункаў, асабліва ў духоўнай сферы, сферы культуры і мастацтва. Натуральнае жаданне людзей сустракацца, быць ва ўзаемасувязі, падтрымліваецца прэзідэнтамі, урадамі, кіраўнікамі рэгіёнаў, міністэрствамі культуры і іншымі ведамствамі нашых дзяржаў. Пры такой актыўнай усебаковай падтрымцы раўчукі мясцовай ініцыятывы перарастаюць у паўнаводныя рэкі культурнага абмену, як на ўзроўні рэгіёнаў, так і дзяржаў, калектываў мастацкай самадзейнасці, і прафесіяналаў-майстроў мастацтва. Ужо сёння можна з упэўненасцю сказаць, што сцяжына да храма духоўнасці не зарастае, а наадварот пашыраецца і добраўпарадкоўваецца. Вырашальную ролю тут іграюць і блізкасць культур, і тое, што ўкраінцы і беларусы здаўна добрыя суседзі, і нічым не азмрочаныя традыцыі мінулага, а таксама тое, што на тэрыторыях нашых дзяржаў жывуць адпаведна: на Украіне 440 тысяч беларусаў, а ў Беларусі 237 тысяч украінцаў, якія імкнуцца сустракацца са сваімі землякамі, не жадаюць губляць сувязь з мовай, культурай, мастацтвам сваёй этнічнай Радзімы. Ды й проста таму, што там жывуць сваякі, сябры, знаёмыя.

Нягледзячы на некаторыя фінансавыя складанасці, тэндэнцыі абнадзейваюць. У апошні час, пасля некаторага спаду, расце колькасць агульных культурных мерапрыемстваў, удзел у міжнародных фестывалях, узаемных абменаў як прафесійнымі калектывамі, так і мастацкай самадзейнасцю.

Якраз гэта і паслужыла падставай для падрыхтоўкі і падпісання міністрамі культуры нашых краін Багданам Ступкам і Аляксандрам Сасноўскім у Віцебску падчас правядзення міжнароднага фестывалю "Славянскі базар" двухбаковай Праграмы супрацоўніцтва на 2000—2002 гады, якой прадугледжана далейшая падтрымка ініцыятывы калектываў устаноў культуры, распаўсюджванне і прапаганда дасягненняў нацыянальных культур і народных традыцый Украіны і Рэспублікі Беларусь ва ўсіх сферах — тэатральнай, музычнай, музейнай, кінематаграфічнай, бібліятэчнай, народнай творчасці.

Спрыяе гэтаму працэсу таксама падпісанне і ратыфікацыя ў мінулым годзе парламентамі нашых дзяржаў Пагаднення аб забеспячэнні правоў нацыянальных меншасцяў.

У пацвярджэнне сказанаму аб пашырэнні культурных сувязяў можна прывесці шмат прыкладаў — гэта і "Тэатральныя сустрэчы" ў Гомелі і "Літаратурныя вечары над Дняпром, Сожам і Дзяснон", і ўдзел майстроў мастацтваў з Украіны, асабліва памежных абласцей, у міжнародных фестывалях у Мазыры, Гродне, Гомелі, Віцебску, Мінску і Мінскай вобласці.

Нас радуе, што беларусы з цікавасцю ставяцца да ўкраінскай культуры і мастацтва. Асабліва яскрава пра гэта сведчыць свята мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску". У гэтай самабытнай акцыі, якая дэманструе ідэю "Ад мастацтва — да міру і ўзаемаразумення", Украіна прымае самы актыўны ўдзел. А "Дні Украіны" кожны раз раскрываюць беларусам усё новыя грані ўкраінскай культуры. Вось і ў гэтым годзе майстры оперы сусветнага і еўрапейскага ўзроўню зачаравалі беларускага гледача, паказаўшы "залатыя" галасы Украіны.

Станоўчыя водгукі і пра многія іншыя мерапрыемствы. Вось што гаварылася ў прэсе пра гастролі Чарнігаўскага музычна-драматычнага тэатра ў Гомелі: "Лідэр фестывалю вызначыўся літаральна ў першы дзень, ім стаў тэатр з Чарнігава. Спектакль "Ідэнтыфікацыя танга" стаўся своеасаблівым прарывам, яркай успышкай на небасхіле тэатральных сустрэч". А ў паведамленні з міжнароднага конкурсу маладых піяністаў гаварылася пра вялікае ўражанне, якое выклікалі ў гледачоў творы маладых выканаўцаў з Украіны, і адзначалася, што гэта сведчанне сур'ёзнага стаўлення дзяржавы да культуры ўвогуле і як вынік — яе высокае развіццё.

Можна сказаць і пра паспяховае выступленне нашых калектываў на III Усебеларускім фестывалі культур у Гродне, асабліва кабзара з Чарнігаўшчыны В. Нячэпы, а таксама трыо бандурыстак з Роўненскай філармоніі на фестывалі ў Паставах.

Сёлета пасольства сумесна з украінскімі аб'яднаннямі, таварыствам "Беларусь—Украіна" адзначылі 160-годдзе з дня выхаду "Кабзара", праведзена выстава работ вучняў горада Мінска на шаўчэнкаўскую тэматыку. Падзеяй стаўся і першы выпуск украінскага аддзялення ў БДУ, на выпускным вечары пасольства ўручыла выпускнікам "Кабзары", у міжнародным лагеры славяністаў адбылася сустрэча прадстаўнікоў пасольства і дыяспары з дзецьмі, якія вывучаюць украінскую мову. Плануецца сёлета адкрыццё помніка Т. Шаўчэнку ў беларускай сталіцы. Адным словам, геній украінскай паэзіі робіцца ўсё больш прысутным на беларускай зямлі, чым асабліва падкрэсліваюцца нашы гістарычна сяброўскія стасункі.

Яшчэ адным сведчаннем і гарантам добрых перспектыў ёсць стаўленне да самага святога, што ў нас ёсць, — да старэйшага пакалення. Яно заслугоўвае асаблівай пашаны і павагі да Перамогі над фашызмам і як ніколі мае патрэбу ў падтрымцы. Святкаванне 55-годдзя вызвалення ў нашых дзяржавах сведчыць пра тое, што ветэраны па-ранейшаму звязаны дружбай і павагай адзін да аднаго. Пра гэта гаварылі ветэраны Беларусі падчас уручэння ім прэзідэнтам Украіны Л. Кучмам ордэнаў і медалёў у горадзе-герої Брэсце. У Мінску, Мінскай і Гомельскай абласцях узнагароды ветэранам уручаў пасол Украіны ў Беларусі А. Дронь. Гэтая акцыя будзе праведзена ў бліжэйшы час і па іншых рэгіёнах РБ.

Цесныя кантакты з Рэспубліканскім саветам ветэранаў дазваляюць пасольству праводзіць мэтанакіраваную працу. Летась адбылася сустрэча ў пасольстве з Героямі Савецкага Саюза, якія вызвалялі Украіну і жывуць у Мінску, на святкаванне 55-годдзя Перамогі ў горад Кіеў выязджаў Герой Савецкага Саюза Дзмітрый Жмуроўскі, да помнікаў і абеліскаў ускладаліся кветкі. І такіх мерапрыемстваў можна назваць шмат.

Усё больш важкі ўклад у развіццё сяброўскіх адносін паміж нашымі народамі ўносяць калектывы дыяспары. Актыўна працуюць у сферы культуры ў Рэспубліцы Беларусь калектывы мастацкай самадзейнасці ўкраінскіх аб'яднанняў "Ватра", "Січ", "Краяны", дзіцячы калектыў "Барвінак" і іншыя. З іх удзелам праходзяць дні нацыянальнай культуры, вечары ў Доме дружбы, фестывалі і конкурсы, іншыя мерапрыемствы.

Напярэдадні гадавіны Незалежнасці Украіны мы з аптымізмам глядзім у будучае двухбаковых адносін.

Культуры нашых народаў і падобныя, і па-свойму самабытныя, у гэтым і ёсць крыніца цікавасці адзін да аднаго і зарука развіцця далейшага супрацоўніцтва.

**Станіслаў УДАВЕНКА,**
**дарадчык**
**Пасольства Украіны**
**ў Рэспубліцы Беларусь**

# Галасы пабрацімаў

## Іван ДРАЧ

### *Сходы ў майстэрні Шаўчэнкі*

*Спіраллю сходы. Імі ў смерць сышоў*
*Ён з антрэсоляў з свечкаю ў дзясніцы.*
*Калі шчэ йшоў, адчуў усёй душой,*
*Што целу трэба нізка пакланіцца.*

*Упаў чалом, дняпрова чарнаброў,*
*У несмяротнасць у чужой сталіцы,*
*Застыла дынамітам бура-кроў,*
*Застылі думы ў ціхі час дзянніцы.*

*Угору ж сходамі! Імчы мяне, спіраль*
*Тарасава, якая ажыла музейна!*
*Ты ж, слова, хоць крыху іржу здзірай,*

*Бо колькі ж нас валтузіцца кялейна*
*І пнецца ўверх за прывідам вянца,*
*А сходам тым ні краю, ні канца!..*

## Сцяпан ЛІЦВІН

### *Ты ніколі не згінеш, Украйна!*

*Пакланюся сардэчна народам краіны.*
*Хай свабода шчаслівая скрозь верх бярэ!*
*Веру сэрцам: ніколі не згіне Украіна,*
*Бо пявучы народ і ў бядзе не памрэ.*

*Пераменіцца нават сусвету аснова,*
*Што адвеку ў прадонні агнямі мігціць.*
*Мая родная, светлая матчына мова*
*Ужо на зоры далёкія ў песнях ляціць.*

*І не будзе нас доля цураццa, мой браце,*
*І паўсюдна прывеціць сваяк сваяка,*
*І не зможа ніхто дзіўны скарб адабраці,*
*Той, што продкі для нас захавалі ў вяках.*

*Покуль мова ўнукам загойвае раны,*
*Покуль слава казацкая ў сэрцы жыве,*
*Ты не згінеш,*
*не згінеш,*
*не згінеш, Украйна —*
*Неўміручы народ, што і ў горы пяе!*

## Паўло ГІРНЫК

### *Назаўсёды*

*Душу несамавіта боль скубе:*
*Ці тое мы пяём, ці там рыдаем?*
*Не прамаўчы Шаўчэнку ў сабе,*
*Не пракрычы Стэфаніка задарам.*

*Тварыў Тараса гнеў, а не журба.*
*А што паробіш, люд мой без'языкі:*
*За кратамі не катам ёсць хіба*
*Свабода тая, сцятая да крыку?!*

*Калі паэты пнуцца ў панічы,*
*А пабрацімы ціўкаюць патрохі,*
*І кобза пачарнее на плячы,*
*Бы дамавіна згубленай эпохі!*

*Не палюбі сябе. Не разгубі*
*Ні голас свой, ні слых,*
*ні злую скруху.*
*Шаўчэнка йдзе дарогамі журбы,*
*І усюды абірае кручы духу.*

*Ідзе, як і заўжды, ў трывожны час,*
*І ўжо не супыніць яго нікому.*
*Вы чуеце?*
*Мінаючы Парнас*
*Шаўчэнка зноў вяртаецца дадому!*

**Пераклаў з украінскай Валеры СТРАЛКО**

АБСЯГІ

## ВІЦЕБШЧЫНА...

### Шагалаўскія лекцыі

16 жніўня музей Марка Шагала запрасіў аматараў творчасці мастака на сустрэчу з пастарам Гюнтэрам Раймшуселем з Гановера. У праграме яго выступлення дзве лекцыі: "Цыкл Марка Шагала "Зыход" і "Жыццёвы шлях Марка Шагала праз работы мастака".

На наступны дзень госць з Ніжняй Саксоніі расказаў аматарам мастацтва аб музеі Шагала ў горадзе Ніца... Лекцыі суправаджаліся паказам слайдаў і сінхронным перакладам з нямецкай мовы.

**НАШ КАР.**

## ГРОДЗЕНШЧЫНА...

### Дамова аб супрацоўніцтве

Днямі абласны цэнтр наведала дэлегацыя мэрыі літоўскага горада Друскінінкай — пабраціма Гродна. Мэта яе прыезду — наладжванне сацыяльна-эканамічных і культурніцкіх кантактаў. Літоўскія госці агледзелі Гродна, пазнаёміліся з яго архітэктурнымі помнікамі. Адбылася сустрэча ў старшыні мясцовага гарвыканкама, дзе было абмеркавана сацыяльна-эканамічнае становішча абодвух гарадоў. У ходзе сустрэчы быў складзены праект дамовы аб плённым супрацоўніцтве паміж пабрацімамі. У хуткім часе Друскінінкай наведае гродзенская дэлегацыя. Менавіта ў Друскінінкаі і будзе падпісана ўзаемакарысная дамова.

**НАШ КАР.**

## БРЭСТЧЫНА...

### Маёнтак узяты пад ахову

Як высветлілася падчас даследаванняў, менавіта ў маёнтку Божы Дар, што пад Кобрынам, Рамуальд Траўгут прыняў прысягу і агульнае кіраўніцтва паўстаннем 1863 года. Менавіта таму гістарычная сядзіба маёнтка мае мемарыяльнае значэнне. На сённяшні дзень тут захаваліся рэшткі пейзажнага парку, каскад маляўнічых саджалак і сістэма каналаў. Як мемарыяльная сядзіба, маёнтак Божы Дар узяты на мясцовы ўлік і пад дзяржаўную ахову.

**Леанід НЕСЦЯРЧУК**

### Каб не паўтарылася вайна

Брэстчыну наведалі прадстаўнікі нямецкай маладзёжнай арганізацыі "Югендрынг". Юнакі і дзяўчаты з горада Вупертэль пабывалі на месцах масавых пахаванняў савецкіх і нямецкіх салдат, у Брэсцкай крэпасці. Такая пільная ўвага гасцей да мясцін, звязаных з гісторыяй другой сусветнай вайны, тлумачыцца не толькі турыстычнай цікавасцю. Справа ў тым, што менавіта ў Вупертале ў 33-ім годзе быў пабудаваны першы канцэнтрацыйны лагер. Зусім нядаўна маладыя неанацысты апаганілі помнік яго ахвярам. Кіраўніцтва "Югендрынгу" вырашыла па-свойму змагацца з праявамі фашызму. Прадстаўнікі арганізацыі і надалей будуць наведваць Беларусь, каб на ўласныя вочы пераканацца ў злачынствах, здзейсненых суайчыннікамі ў час Вялікай Айчыннай, і не паўтараць страшэнных і жудасных памылак.

**НАШ КАР.**

### У кожным экспанаце — сонейка

"Сонца" — менавіта так называецца выстава, арганізаваная ў абласным краязнаўчым музеі. Сем маладых мастакоў прадставілі на суд гледачоў уласныя варыяцыі на тэму сонца. Яго промні, цеплыня і пяшчота зззяюць з батыкаў, габеленаў, прысутнічаюць у керамічных вырабах і на жывапісных палотнах.

**НАШ КАР.**

## МАГІЛЁЎШЧЫНА...

### Фестываль у Мсціславе

У Мсціславе прайшоў раённы фестываль народнай творчасці інвалідаў. Была арганізавана выстава іх твораў. У экспазіцыі — жывапісныя палотны, разьба па дрэве, вышыўка, вязанне, кулінарныя вырабы. Адбыўся ў той дзень і канцэрт мастацкай самадзейнасці. Пераможцам фестывалю былі ўручаны прэміі.

**НАШ КАР.**

### На фотаздымках — Беларусь

У Касцюковіцкім краязнаўчым музеі адкрылася персанальная фотавыстава Дзмітрыя Пячкоўскага. Ён жыве ў Данецку, але штогод наведвае малую радзіму — вёску Крывая Ніва, радуе землякоў сваёй творчасцю.

**НАШ КАР.**

## МІНШЧЫНА

### "Беларусь! Зялёная, залатая!.."

Памятаеце, які пранізлівы, шчымлівы боль гучыць у "Слове пра чалавечнасць" Уладзіміра Караткевіча:

*Ранак. Светлыя далі.*
*Сонца над водамі.*
*Вербы ў дымнай расе.*
*Жаўрукі пяюць.*
*І свабода! Свабода!*
*Такая свабода,*
*Што рыданні*
*ў горле дыхнуць не даюць.*
*Беларусь! Зялёная, залатая!*
*Край мой светлы,*
*што выпіў мора пакут!*
*Да апошняй*
*бярозы благаслаўляю*
*Светлы дзень,*
*калі я нарадзіўся тут.*

Мусіць, і гэтыя радкі — натхняльны, энергетычны штуршок у творчасці юнай мастачкі Вольгі Карацэй, чыя экспазіцыя адчынена ў выставачнай зале Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея ў Мар'інай Горцы. Дарэчы, сярод работ вучаніцы Рэспубліканскага каледжа мастацтваў імя Ахрэмчыка пэўнае месца займаюць не толькі пейзажы, але і ілюстрацыі да твораў У. Караткевіча.

На адкрыцці выставы выступілі намеснік старшыні Пухавіцкага райвыканкама Тамара Шчэкоціна, загадчык аддзела культуры райвыканкама Яўген Сушко, дырэктар Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея Аляксандр Прановіч.

Гэта ўжо трэцяя сустрэча землякоў з творчасцю колішняй святлаборскай школьніцы. Дагэтуль выставы В. Карацэй прайшлі ў раённым краязнаўчым музеі і ў раённай бібліятэцы.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**





## Пісьменнік і краязнаўца

**На беразе імклівай палескай рачулкі Цна ў аднайменнай вёсцы, што на Лунінеччыне, нарадзіўся і вырас пісьменнік і краязнаўца Мікалай Калінковіч. За кароткае сваё жыццё (усяго 40 гадоў) напісаў ён шмат кніг, зрабіў адкрыцці ў краязнаўстве. Вялікім попытам, напрыклад, карыстаецца кніжка "Палескія дні Блока", гісторыка-краязнаўчыя працы пра Лунінец.**

**Землякі памятаюць і ўшаноўваюць Мікалая Калінковіча. Сёлета раённая Лунінецкая бібліятэка правяла чытацкую канферэнцыю па кнігах пісьменніка. А ў жніўні адбылося свята, прысвечанае Калінковічу. На вуліцы, якая носіць яго імя, сабраліся вяскоўцы, шматлікія госці. Каля кожнай хаты — выстаўкі ткацтва і вышыўкі. Побач — сталы з палескімі пачастункамі, садавінай, сокамі. Да мемарыяльнай дошкі, што на Цнянскай школе (тут вучыўся пісьменнік), усклалі кветкі. Адбыўся ўрачысты мітынг. Выступіў старшыня Лунінецкага раённага савета Яўген Богдан, зямляк Калінковіча. Добрым словам успаміналі пісьменніка вяскоўцы. У свяце бралі ўдзел бацька Калінковіча Мікалай Іосіфавіч, маці Вольга Іванаўна і дачка Ксеня. Гучалі песні і вершы, выступалі работнікі аддзела культуры і мясцовыя самадзейныя артысты...**

**Зараз вядуцца падрыхтоўчыя работы па ўстаноўцы помніка Мікалаю Калінковічу ў Лунінцы. Арганізатар карыснай справы — рэдактар раённай газеты "Лунінецкія навіны" Таццяна Канапацкая. Знайшлі спонсараў. Бюст пісьменніка ўжо зроблены.**

**Анатоль ХАРЛАМАЎ**

## Казка навакольнага свету

**Вы верыце, што навакольны свет — казка, гульня колераў, ценяў, настрояў, лёгкасць і прыгажосць? Не? Каб пераканаць вас у штучнай змрочнасці светапогляду, параю наведаць выставачную залу Музея сучаснага мастацтва. Менавіта тут адкрылася выстава пад назвай "Тэкстыль, шкло", якая з'явілася працягам цыкла "Беларускае мастацтва 90-ых" і ў якой прынялі ўдзел каля 30 мастакоў.**

**Шкляныя вырабы мяне не вельмі ўразілі. Але з цікавасцю агледзела экспанаты-ўзнагароды, якія раздаваліся пераможцам леташняга Славянскага базара.**

**А вось тэкстыль (батык, аплікацыя, роспіс па шоўку, ткацтва, вышыўка...) увагу прыцягнулі надоўга. Цудоўныя творы! З аксаміту і ў жанры аплікацыі Л. Кірылава зрабіла свае "Мадонну", "Серэнаду", "Экзотыку". Работы цікавыя па тэхніцы, змесце і колеры. Ідэю працы з кавалачкамі тканіны мастачка перанесла і ў свае касцюмы "Эксклюзіў II". Нестандартнымі можна назваць і касцюмы Л. Густава, якія зроблены з... гальштукаў. І хаця адзенне нібыта ў класічным стылі, а выглядае авангардным.**

**А батык Э. Малішэўскай немагчыма паўтарыць, нават перакапіраваць. Малюнак на тканіне, як працяг думак і пачуццяў, у працах П. Бондара і М. Голубевай. Доўга можна разглядаць і "Кампазіцыю з лялькамі" сям'і Мартынавых. Кожная дэталь лялечнага адзення — старанная і вытанчаная работа, а сама кампазіцыя — як добрая дзіцячая казка.**

**Святлана ЖУРАЎСКАЯ**

## Жэгота з Малой Бераставіцы

**Такім псеўданімам карыстаўся гісторык, археограф, архівіст Ігнат Анацэвіч. А выбраў яго таму, што родам з Малой Бераставіцы (цяпер Бераставіцкі раён). Нарадзіўся І. Анацэвіч у 1780 годзе, памёр 18 лютага 1845-га). У 1811 годзе скончыў Віленскі універсітэт. З'яўляўся супрацоўнікам Археаграфічнай камісіі. Даследаваў архівы і бібліятэкі Пецярбурга, Рыгі і іншых гарадоў, выяўляючы матэрыялы, што ўяўляюць навуковую цікавасць. Знаёміўся і са зборамі прыватных асоб Гродзенскай губерні. Вынікамі пошукаў станавіліся публікацыі ў перыёдыцы. Найчасцей выступаў на старонках часопісаў "Северный архив", "Северная пчела", "Вестник Европы". Вывучаў гісторыю Вялікага Княства Літоўскага. Вядомы і як калекцыянер: збіраў першакрыніцы. Апрацаваў нямала матэрыялаў для "Актаў Заходняй Расіі". Сярод артыкулаў І. Анацэвіча ёсць і такія, што тычацца гісторыі Беларусі. На жаль, галоўная яго праца "Гісторыя Літвы" так і засталася неапублікаванай. Некалькі яе тамоў, паводле завяшчання І. Анацэвіча былі перададзены Ю. Крашэўскаму.**

*НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ*

# Сплачванне доўгу гісторыі

Кнігі, як вядома, бываюць цікавыя і нецікавыя, актуальныя і неактуальныя. Памайстэрску напісаныя і так, што пры знаёмстве з імі міжволі думаеш, а ці не лепей было б аўтару падшукаць нейкі іншы занятак. Але ёсць яшчэ кнігі, якія адзінкавыя ў сваім родзе. Ужо гэтага дастаткова, каб запыніць на іх увагу, паставіцца да іх з асаблівым інтарэсам. Калі ж да ўсяго аўтар выступае літаратарам, які дасканала валодае словам, цаны такім кнігам няма.

Адна з іх і выйшла ў выдавецтве "Беларусь" у 1998 годзе, а называецца коратка і разам з тым надзвычай шматзначна: "Я". Аўтар вядомы беларускі пісьменнік Уладзімір Ліпскі. Шмат якія яго кнігі, у тым ліку і напісаныя для дзяцей, знайшлі свайго ўдзячнага чытача. Але гэтая, ніколькі не сумняваюся, — кніга для ўсіх і для кожнага. Незалежна ад узросту. Правільней, з ёй лепей пачынаць знаёміцца, калі яшчэ ўваходзіш у свет, толькі пачынаеш адкрываць яго таямніцы і задумваешся над яго загадкамі. Будзе добра, калі ў знаёмстве гэтым дапамогуць дзіцяці старэйшыя: тата з мамай ці дзядуля з бабуляй. Пасля ж, надросшы, трэба яе чытаць самому — удумліва, засяроджана, не спяшаючыся, унікаючы ў сэнс і роздумна ставячыся да ўсяго, пра што захоплена расказвае аўтар.

"Праўдзівы аповяд пра твой і мой радавод" — такі падзагаловак гэтай кнізе У. Ліпскі даў невыпадкова. За гэтым вызначэннем увесь яе сэнс. За ім асноўная дамінуючая думка пісьменніка, які заглыбляецца ў вытокі свайго роду і адначасова расказвае пра радавод усіх нас. Інакш і быць не можа. Усе мы жывём на адной зямлі, усе мы жывём адной сям'ёй. Іншая справа, што ў гэтай сям'і, як і ў сям'і звычайнай, не заўсёды пануюць спакой, узаемапаразуменне, згода. Але яны нярэдка і адсутнічаюць, і таму, што мы не задумваемся над сваім радаводам, слаба ведаем свае карані.

Уладзімір Ліпскі дапамагае гэта зрабіць. Расказваючы пра цікавыя людскія лёсы, узнаўляючы падзеі проста даўнія і тыя, што пачынаюцца ў глыбіні стагоддзяў, ён настойліва праводзіць адну і тую думку, што прыводзіць да высноў, з якімі пагаджаешся адразу, незалежна ад таго, як яны выказаны: "...у кожнага чалавека сваё Я. Непаўторнае! Кожны чалавек — Асоба!", "...кожны чалавек — асобная планета", "мы даўжнікі перад гісторыяй".

А таму і даўжнікі, што ведаем яе слаба. А каб ведаць лепш, трэба найперш ведаць свой радавод. Праз гэтае веданне і сплачваецца доўг гісторыі. А яно няпроста даецца. Трэба шмат працаваць, як гэта рабіў У. Ліпскі, гадзіны праводзячы ў архівах, бібліятэках, наведваючыся ў розныя раёны Беларусі, шукаючы тых, хто носіць прозвішча Ліпскіх, у Польшчы, Літве, Германіі, Амерыцы, Канадзе, Аўстраліі. І станавіўся пры гэтым даследчыкам, які шмат у чым можа паспрачацца з вопытнымі навукоўцамі, хто ў пошуках невядомых фактаў з'еў, як кажуць, пуд солі.

Наколькі плённа працаваў У. Ліпскі, відаць хоць бы па тым, што па-новаму прачытаў жыццёвую і творчую біяграфію класіка нацыянальнай літаратуры Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, устанавіў вытокі яго неўміручай камедыі "Пінская шляхта". Наколькі ж у цэлым значна зробленае У. Ліпскім, відаць са слоў, сказаных аўтарам пасляслоўя "Усе мы — аднакроўцы" старшынёй Камітэта па архівах і справаводстве Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Міхальчанкам: "Гэта першае ў беларускай літаратуры падарожжа ў часе, у асобах, у лёсах аднаго канкрэтнага роду чалавечага. Пісьменнік Уладзімір Ліпскі напісаў кнігу сапраўды цікавую і карысную, бо пакуль жывы хоць адзін прадстаўнік гэтага прозвішча, а іх толькі на Беларусі некалькі дзесяткаў тысяч, яе будуць чытаць і перачытваць".

У развагах А. Міхальчанкі вельмі важная такая выснова: "Гэта кніга ніколі не скончыцца, бо працяг і дадатак да яе напішуць сваім жыццём яшчэ шмат людзей. Без перабольшвання можна назваць гэты твор споведдзю роду Ліпскіх".

Сапраўды, кніга "Я" — кніга-ўчынак. У пэўнай ступені яна і кніга-памяць. Але перад усім — кніга-споведзь. Перад часам, у якім жыве аўтар. Перад днём сённяшнім. Але яна і споведзь перад Будучыняй.

Апошняе таксама надзвычай важна. Нямала вядзецца гаворкі аб занядбанні гістарычнай памяці. Выказваюцца слушныя меркаванні ў адсутнасці агульнанацыянальнай ідэі, што магла б згуртаваць усіх нас незалежна ад палітычных поглядаў, схільнасцяў. Але нярэдка, будзем справядлівымі, усё зводзіцца да чарговых заклікаў, да часцей правільнага, але не падмацаванага канкрэтнай справай. І вынікі, на жаль, атрымліваюцца не такія, як хацелася. А гэта прыводзіць да пастаяннай палярнасці ў грамадстве, а гэта не спрыяе кансалідацыі нацыі.

Выйсце простае: трэба менш гаварыць, а больш рабіць. Як гэта і робіць У. Ліпскі. А наколькі могуць быць плённыя вынікі, ён і даказаў сваёй кнігай, што стала "праўдзівым аповядам пра твой і мой радавод". І верыцца, што з цягам часу напішуцца кнігі і пра іншыя роды людскія. Напішуцца тымі, хто прадоўжыць добрую справу, распачатую У. Ліпскім. А паколькі карыснае пачынанне не заўсёды заслугоўвае ўхвалы, будзе справядліва, калі Уладзімір Сцяпанавіч за гэтую кнігу атрымае Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**



ВАНДРОЎКІ

# На музычным беразе Дуная

***Румынскі горад Брэйла не так даўно прымаў удзельнікаў IV Міжнароднага фестывалю "Сустрэчы новай музыкі". Пабываў там і прадстаўнік нашай краіны — кампазітар Дзмітрый Лыбін, чый твор выконваўся ў адным з фестывальных канцэртаў. З ім гутарыць карэспандэнт "ЛіМа".***

**— Нагадаю чытачам, што летась вы прадстаўлялі Беларусь на вельмі прэстыжнай для кампазітараў імпрэзе "World music Days", якую Міжнароднае таварыства сучаснай музыкі правяло ў Румыніі і часткова ў Малдове. Што адбывалася гэтым разам?**

— Румынія, нягледзячы на вялікія фінансавыя цяжкасці, знайшла магчымасць наладзіць свой міжнародны фестываль новай музыкі. У ліку яго арганізатараў — Міністэрства культуры, цэнтр культуры горада Брэйлы, Саюз выканаўцаў, румынская секцыя Міжнароднага таварыства сучаснай музыкі. Акцыю падтрымалі шматлікія спонсары, сярод якіх кампанія "Coca-Cola", банкі... Таму ў сціплы тэрмін — толькі тры дні — удалося стварыць максімальна насычаную мастацкімі падзеямі атмасферу.

Канцэрты фестывалю прадставілі творы кампазітараў Аўстраліі, Бразіліі, Беларусі, Вялікабрытаніі, Грэцыі, ЗША, Ірландыі, Іспаніі, Італіі, Паўднёвай Карэі, Румыніі, Чэхіі, Швецыі, Японіі. На жаль, не з усіх краін змаглі прыехаць госці, але ж сама музычная панарама атрымалася досыць багатая.

**— Што запомнілася?**

— У першы ж вечар уразіла выступленне дуэта з Чэхіі — Ірэны Гаўлавай ды Войтэха Гавела. Гэта сямейная пара наладзіла канцэрт медытацыйна-імправізацыйнай музыкі, раскрыўшы праз яе і свае творчыя таленты, і выканальніцкае майстэрства: абое гралі на самых розных іструментах, спявалі... У высокіх вартасцях румынскай скрыпічнай школы пераканала выступленне трыо "Aperto": выдатная тэхніка, музычнасць, тонкае валоданне малавядомымі сучаснымі прыёмамі выканання.

Незабыўнае ўражанне ад канцэрта румынскага музыканта-перкусіяніста Аляксандру Матэі. Віртуозны выканаўца на многіх ударных інструментах! А п'еса "Флоры" падалася проста фантастычнай: музыкант граў на дзвюх драўляных дошках, што калісьці выкарыстоўваліся ў візантыйскіх манастырах у якасці сігнальнага інструмента. А як ён адначасова, нібы арганіст на двух мануалах, іграў на марымбе ды віброфоне, а як вынаходліва скарыстоўваў смык кантрабаса!

Безумоўна, падзеяй стаўся **першы ў Еўропе** канцэрт, цалкам складзены з твораў кампазітараў Аўстраліі. Яго падрыхтавалі музыканты румынскага ансамбля "Traiect" пад кіраўніцтвам прафесара, кампазітара, артыстычнага дырэктара "Сустрэч новай музыкі" Сарына Лерэску. Дарэчы, выдатны калектыў: нездарма ў гонар яго напісала п'есу Эве Дункан, старшыня суполкі аўстралійскіх кампазітараў, госця фестывалю ў Брэйле. Музыка Аўстраліі — своеасаблівая з'ява, у якой адчуваецца ментальнасць людзей іншага кантынента, хаця ўласна кампазітарскую мову можна лічыць еўрапейскай мовай канца 90-х. Не, гэта не еўрапейская музыка, хаця брытанскі ўплыў у ёй адчувальны.

Сенсацыйны поспех меў канцэрт музыкі для трамбона. Сусветна вядомы англійскі трамбаніст Бары Уэб наладзіў захапляючы "тэатр аднаго акцёра": ён прадэманстраваў неабмежаваную гукавую палітру свайго інструмента, маніпуляваў сурдзінамі, скарыстоўваў ударныя эфекты, з артыстызмам асвойваў прастору залы, пасляваў падчас глядацкіх авацый пераапранацца і мяняць грым. Дапаўняў мастацкі вобраз нейкімі маскамі. І нават спяваў!

У вельмі дэмакратычнай атмасферы прайшоў канцэрт славутага румынскага джазмена Джоні Рэдучану. Яму ўжо за 70, калісьці скончыў Маскоўскую кансерваторыю па класе кантрабаса, цяпер жа выступае як джазавы піяніст і вельмі, дарэчы, арганічна грае разам з маладымі калегамі.

Канцэртныя ўражанні дапоўніла тэарэтычная канферэнцыя, прысвечаная праблемам сучаснай оперы. У цэнтры дыскусіі апынулася думка пра складанасць кампазітарскага пісьма ў гэтым жанры: ці не варта, маўляў, творцам адкінуць амбіцыі і пісаць не для "будучыні", а для сённяшняга пакалення публікі?

**— Дзмітрый, вы пакуль нічога не сказалі пра ваш уласны твор, прадстаўлены на фестывалі...**

— Дзякуючы плённаму творчаму знаёмству з ансамблем "Traiect" і маэстра Сарынам Лерэску, якія ігралі маю музыку летась падчас "World music Days", я атрымаў заказ на новы твор. Увесь адправіў партытуру ў Бухарэст, а ў сярэдзіне чэрвеня атрымаў запрашэнне прыехаць на фестываль, да якога рыхтавалася прэм'ера... Задума ж новага твора нейкім чынам была звязана з удзелам беларускіх кампазітараў у чарговай акцыі Міжнароднага таварыства сучаснай музыкі, якая мае адбыцца ў Японіі ў 2001 годзе. Я задумаў кампазіцыю пад назвай "Што прыносіцца да ўзбярэжжа", для сямі інструментаў, заснаваную на нетрадыцыйных спосабах гукаатрымання і інтанацыйных спалучэннях, якая павінна выклікаць алюзіі з рознымі эпохамі ў еўрапейскай музычнай культуры. Штосьці кшталту "аскепкаў" еўрапейскай музычнай спадчыны (беларускай у тым ліку), прынесеных да японскага берага... Урэшце, прапанова з Румыніі завяршылася пасляховай прэм'ерай у Брэйле. Я быў уражаны надзвычай дакладным прачытаннем, разуменнем аўтарскай партытуры, хаця не меў папярэдніх сустрэч з музыкантамі, не слухаў іх на рэпетыцыях. Прыемна было даведацца, што самае першае выкананне адбылося крыху раней у Малдове, куды румынскія музыканты выязджалі на тамтэйшы фестываль сучаснай музыкі.

**— Яшчэ адзін прыклад таго, як дзяржава ў крытычных фінансавых умовах дбае пра развіццё сучаснай музычнай творчасці...**

— Так, і ў Малдове фестывалі сучаснай музыкі — традыцыя. Як і ў Румыніі. Дарэчы, Брэйла, невялікі горад на Дунаі, мае цудоўны культурны мікраклімат. Тут нарадзіўся буйны кампазітар сучаснасці, грэк паводле свайго паходжання, Яніс Ксенакіс — і яго радзінны дом паказваюць як адну з адметнасцяў горада. Тут ёсць выдатны тэатр, у назве якога ўшанавана імя Марыі Філоці, адной з нямногіх за ўсю гісторыю Румыніі народных артыстаў гэтай краіны. У тамтэйшай оперы ставяцца творы сучасных румынскіх аўтараў. Ёсць у Брэйле і свой Міжнародны конкурс вакалістаў, пра ўзровень якога сведчыць удзел у журы аўтарытэтных спецыялістаў з "Ла Скала", Венскай нацыянальнай оперы... І вось — фестываль сучаснай музыкі, пра які нам застаецца толькі марыць.

**— Але гэта ўжо тэма для асобнай і, на жаль, далёка не новай гаворкі...**

**С. БЕРАСЦЕНЬ**



*На здымку: Дзмітрый ЛЫБІН (справа) з мастацкім дырэктарам "Сустрэч новай музыкі" Сарынам Лярэску.*

# Мой незычлівы рынак

НАТОЎП шумеў і ціснуўся да базарнага прылаўка. Пажылы мужчына ў пабурэлай вушанцы трос у паветры паперкай:

— Вось квіток з лабараторыі!.. І чэк аб аплаце ёсць!..

— За што вы яго праганяеце?.. Не чапляйцеся да яго!.. У вас тут столькі пустых месцаў... — крычалі людзі.

Тут натоўп расступіўся, і з яго выскачыў тоўсты расчырванелы дзяцюк. Злосна адмахнуўшыся рукой, ён павярнуўся і хутка пашыбаваў да сваёй базарнай канторкі.

Крыху пазней, кіруючы да выхаду з рынку, я зноў напаткаў пажылога мужчыну ў пабурэлай вушанцы і рынкачнага кантралёра.

— Пазаву міліцыю! — кіўнуў кантралёр галавой у бок двух міліцыянтаў, што хадзілі паблізу. — Надзенуць наручнікі...

Мужчына з торбай толькі пакруціў галавой.

— За што гэта ён вас? — запытаў я, калі адышоў кантралёр.

Па дарозе да выхада гандляр расказаў сваю гісторыю. Летам ён засаліў бочку агуркоў. Усю зіму елі. А калі пацяплела на дварэ, захоўваць іх стала небяспечна. Колькі б ні было тых агуркоў, але гаспадару шкада, калі дарэмна гіне ўраджай. Перад святам павёз іх у горад, хоць дарога няблізкая: спачатку на аўтобусе, затым на электрычцы. На базары ж агуркі прадавалі нядорага. Нестандарт у чатыры разы дзешавей, чым у магазіне. Але горш іншае. Паўдня прасядзеў на Байкальскім рынку ў Мінску — ніхто не купляе. Учора, кажуць, куплялі, сёння не бяруць. Стыхія рынку. Людзі падказалі: на бліжэйшым Аўтазаводскім рынку ніхто не прадае агуркі. Паехаў туды. І вось тут як коршун наляцеў той кантралёр: плаці за месца! Як ні тлумачыў, што ўжо адзін раз заплаціў, што ў яго толькі тры кілаграмы агуркоў — ці аплаціш яшчэ за іх кошт хаця б дарогу, — нічога не дапамагло...

У той гісторыі мяне больш усяго здзівіў розны падыход вяскоўца і рынкавага кантралёра да гандлю прадуктамі. Слухаючы выступленні дзяржаўных чыноўнікаў з высокіх трыбун, здаецца, што яны робяць усё, каб вырашыць харчовую праблему. А калі пабываеш на базары, не ведаеш, што і думаць.

...Прывакзальны рынак у Баранавічах, нядзеля. З цяжкасцю праціскваюся скрозь сустрэчныя людскія патокі. З таго боку, дзе гандлююць свежай гароднінай, асабліва цесна. У адным месцы выстраіліся ў рад мужыкі і бабы, што прадаюць моркву, буракі, часнок проста з рук. Да іх праціскваецца пажылы мужчына з павязкай на рукаве:

— Тут гандляваць нельга! Марш адсюль!..

Я быў на тым базары і летам. На тарцовай сцяне суседняга магазіна прачытаў аб'яву: "Гандляваць на прылеглых да рынку вуліцах строга забараняецца". А побач з аб'явай выцягнуўся змяёй доўгі рад мужчын, жанчын, дзяцей з пастаўленымі на асфальт кошыкамі суніц, клубніц, бутэлькамі малака, пукамі зялёнай цыбулі... Рынак, зразумела, быў перапоўнены, людзі са сваёй паклажкай прыладжваліся паблізу хто дзе можа. Ды як там прыладзішся, калі недзе з-за вугла цікуюць ужо чыноўнік і міліцыянер.

Гогаль у "Сарочынскім кірмашы" параўноўваў сельскі гандаль з вадападам, што напаўняе ўстрывожанае наваколле гулам і хаосам цудоўных няясных гукаў. А яшчэ са страшыдлам, якое шавеліцца ўсім сваім тулавам на плошчы і па цесных вуліцах, крычыць, гагоча, грыміць. Сённяшні рынак можна параўнаць толькі са страшыдлам. А вось з вадападам наўрад. Нічога цудоўнага тут не чуваць. Бо і гандлююць цяпер зусім не тыя шчодрыя вяскоўцы, якіх апісаў славуты пісьменнік.

Шукаючы на сучасным рынку шчырага селяніна, нам давялося б прайсці паўз рады машын, з якіх прапануецца мука, крупы, алей або заморскія бананы, апельсіны, кавуны. (Яны, праўда, то з'яўляюцца на прырыначнай плошчы, то на хвалі адміністратыўнага свербу знікаюць некуды). Не трэба спыняцца і каля прадуктовых палатак з такім жа таварам — іх можна ўбачыць на любым гарадскім рынку. Вось уваход у круглую будыніну мінскай Камароўкі. Тут знадворку туляцца да сцяны, трымаючы ў руках бутэлькі малака, кошыкі з яйкамі, сушанымі грыбамі, фасоляй, старыя бабулькі і дзядкі. Яны тоўпяцца і ўнутры, на прыступках побач з жабракамі — так што і адрозніць іх адзін ад аднаго вельмі цяжка. Вядома, ніякіх цудоўных гукаў тут не пачуеш.

А далей — зусім іншы малюнак: дыхтоўныя прылаўкі, загружаныя гарамі кілбас, мяса, рыбы, гародніны ў цэлафане, і за імі — маладыя мажныя хлопцы і дзяўчаты. Па іх чысцюткіх руках і небеларускім вымаўленні відаць, якія яны "вытворцы". Такіх жа гандляроў мы сустрэнем і за выхаднымі дзвярамі круглага будынка — пад драўлянымі паветкамі. І толькі ля самага ўвахода на сезонную частку рынку за прылаўкамі пад адкрытым небам, дзе ў дождж і адлігу не прайсці з-за лужынаў, а ў мароз не стаць з-за ледзяных грудаў, зноў сустрэнем старэнькіх дзядкоў і бабулек, якіх і па вопратцы можна пазнаць — нашы, беларускія вытворцы. На іх сёння толькі і трымаюцца вёскі. Праўда, побач заўсёды сядзяць і маладыя прадаўцы. Але ва ўсіх у іх садавіна-гародніна амаль што аднолькавая на выгляд і па адной цане — такой самай, як і пад паветкамі. Іх можна ўбачыць тут вечарам і ранкам, не так, як тых старых, што спяшаюцца паспець на зваротны рэйс аўтобуса ці электрычкі.

Увечары, калі пачынаюць здымаць з прылаўкаў непрададзеныя рэшткі, сюды пад'язджаюць на крытых грузавіках і мікрааўтобусах важныя дзяцюкі, прыстойна апранутыя, з чорнымі валасамі і загарэлымі тварамі. Яны пакрыкваюць на маладых прадаўшчыц, а тыя лісліва ім усміхаюцца...

Ёсць тут і такія гандляры, да якіх не пад'язджаюць машыны, хоць і сядзяць яны за прылаўкам да схілу дня. Свой тавар яны носяць у руках і прыходзяць сюды, як на службу: у адзін і той жа час, на адно і тое ж месца. Многія пакупнікі іх ведаюць у твар. А тое, што прадаюць гэтыя гандляры на базары, яны купляюць на Камароўцы — оптам у пяць гадзін раніцы. Калі нехта з суседзяў прадае свае прыпасы па дзяшоўцы, могуць і ў яго прыхапіць. А прадаюць затым па сваіх цэнах. Зразумела, каб несці сваю службу спраўна, яны павінны жыць у горадзе.

Нечым падобныя на іх сапраўдныя вяскоўцы, што маюць уласныя аўтамашыны. Яны таксама з раніцы прыпаркоўваюцца на рынку ці побач і прадаюць прадукты са скрыняў і мяшкоў. Такіх на вёсцы мала, болей сярод "механізаваных прадаўцоў" гарадскіх перакупшчыкаў, што карыстаюцца неразваротлівасцю спажыўсаюза. У глухіх кутках нашага краю можна закупляць прадукты за бясцэнак.

Сённяшні базар нічым не нагадвае усеагульнае свята. Тут усё строга рэгламентавана і зацверджана дзяржаўнымі дакументамі. Вось, напрыклад, што гаворыцца пра гэта ў "Памятцы суб'ектам гаспадарання, якія займаюцца гандлёвай дзейнасцю на міні-рынку па вуліцы Гамарніка" (Мінск): кожная прыватная асоба павінна мець пры сабе пасведчанне асобы з прапіскай (пашпарт), даведку, выдадзеную мясцовым выканаўчым і распараджальным органам, аб наяўнасці падсобнай гаспадаркі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і пагалоўя жывёлы; даведкі аб утрыманні ў прадукцыі радыенуклідаў і нітратаў.

Такія строгія прадпісанні развешаны, бадай што, на кожным рынку. Здзіўляюся, чаму пры такой строгасці сярод гандляроў вельмі шмат тых, хто ніколькі не падобны на шчырага селяніна — а толькі ж адзін ён мае падсобную гаспадарку. Тлумачэннем тут могуць служыць словы кіраўніка Камароўскага рынку, выказаныя ім некалі: "Няма падстаў называць перакупшчыкамі прыватных прадпрымальнікаў, паколькі абсалютная большасць з іх фармальна законапаслухмяныя грамадзяне, маюць неабходныя дакументы, якія пацвярджаюць факт таго, што яны з'яўляюцца вытворцамі прадукцыі, прывезенай на наш рынак. **Перапраўляраць дакладнасць гэтых дакументаў — па-за нашай кампетэнцыяй**" (выдзелена мной. — **А. С.**).

А ў "дакладнасці" дакументаў якраз уся сутнасць. Праведзеная ў Брэсцкай вобласці праверка паказала, што ніякага парадку тут няма: даведкі не рэгіструюцца ў кнігах, іх выдаюць розныя людзі, копіі не пакідаюцца ў сельсавеце. Парушэнні выяўлены ва ўсіх арганізацыях, якія працуюць з прадпрымальнікамі — у сельсаветах, санэпідэмстанцыях, падатковых інспекцыях. Мне самому аднойчы ў прыгарадным аўтобусе нейкая кабета паказала даведку, атрыманую ў сельсавеце, на тэрыторыі якога жывуць яе бацькі (хоць сама стала гандлюе ў Мінску). Ланцужок пасрэднікаў, у існаванні якога, кажуць, зацікаўлены пэўныя чыноўнікі, цісне найбольш на не вельмі заможных вяскоўцаў. Бо да іх прад'яўляюцца такія ж патрабаванні, як і да самых багатых. Перш за ўсё у аплаце за гандлёвае месца.

У памянёнай вышэй "Памятцы" вызначана аплата за продаж "гародніны, вырашчанай на тэрыторыі РБ, — 760 тыс. руб.". Лічба як была пастаўлена летась пры адкрыцці рынку, так і не мяняецца. Тое ж можна ўбачыць і ў Стоўбцах на прывакзальным рынку. Тут вывешаны "Стаўкі разавага збору", згодна з якімі за продаж прадукцыі жывёлагадоўлі — малака 1 слоік (3 л.) вылічваецца 1 працэнт мінімальнага заробку, прадукцыі раслінаводства (звыш 20 кілаграмаў) — 15,4 працэнта. Хаця мясцовыя гандляры кажуць, што тых ставак ніхто не прытрымліваецца. Якія ж стаўкі дзейнічаюць (а яны павінны пастаянна мяняцца ў адпаведнасці з інфляцыяй), ні на адным рынку я не бачыў. Затое спрэчак аб аплаце можна ўсюды пачуць вельмі многа.

На Уручскім міні-рынку ў Мінску кантралёр насядае на вяскоўца, што стаіць з вядром бульбы:

— Плаціце шэсцьсот рублёў!

— За адно вядро? — здзіўляецца той.

— Мне ўсё роўна колькі. У нас адна стаўка.

— Але ж я нядаўна прадаваў тут цыбулю, і мне сказалі за месца трэба плаціць дзвесце рублёў. Як пенсіянеру. Разам з суседкай мы купілі адно месца на дваіх — па сто рублёў.

— Тут стаяць забаронена! — не здаецца кантралёр. — Ідзіце на другое месца! Для пачатку... — і сам адыходзіць.

Пра льготы вытворцам сельгаспрадукцыі гаварыў некалі і дырэктар Камароўскага рынку. Але ні ў якім дакуменце гэтыя льготы чамусьці не агаворваны. Праўда, самі кантралёры вар'іруюць расцэнкі ў залежнасці ад колькасці прадуктаў. Але ўсё тут залежыць ад іх настрою і характару. Пастаянныя гандляры добра ведаюць кантралёраў і паміж сабой іншы раз, як я чуў, абменьваюцца водгукамі:

— Той вунь малады — пакладзісты. Лішняга не возьме.

— А гэты вось пузан — ён тут начальнік. Такі ўжо шкадлівы. Раней півам гандляваў, ды прагарэў...

Яшчэ горшае становішча ў тых вяскоўцаў, хто захоча прадаць свае прыпасы дзенебудзь на вуліцы, каля магазіна. Іх на "чорным воране" адвозяць у аддзяленне міліцыі, штрафуюць, тавар забіраюць. І нягледзячы на гэта, на наступны дзень у тым жа месцы сядзяць новыя дзядкі і бабулькі. Гараджане іх чакаюць. У Стоўбцах, напрыклад, іншым часам толькі сыдзеш з прыгараднага аўтобуса, насустрач ужо бягуць пакупнікі: "Тварагу не прывезлі? А яечак?" І гэта побач з малаказаводам і шасцю прадуктовымі магазінамі.

У Мінскіх гастраномах рэдка ўбачыш чаргу. Усе едуць на базар. На Камароўцы штодня пераварочваецца да 400 тысяч чалавек, у нядзелю — да мільёна. Колькі ж трэба транспарту, каб іх перавезці? Ці зручна гэта для мінчаніна — цягнуць немаведама адкуль важкія сумкі, губляць дарагі час? Можа, лепей было б наблізіць гандаль, разгрупаваць яго раўнамерна па горадзе? Тут вельмі б дарэчы былі паслугі вяскоўцаў, чые прадукты карыстаюцца вялікім попытам (непастэрызаванае малако, гароднінную расаду можна купіць толькі ў іх!).

Замест таго, каб паставіць паблізу ад магазіна паветку для продажу прадуктаў з асабістай гаспадаркі (як зрабілі каля універсама "Рыга" ці гастранома на бульвары Талбухіна), улады пакуль што ахоўваюць дзяржаўны гандаль ад канкурэнцыі з боку простых сялян з дапамогай узброеных людзей. Туды, дзе працуюць магазіны, стаяць латкі кааператараў, сапраўдных вытворцаў прадуктаў харчавання не пускаюць. Улады самі ператвараюць руплівых гаспадароў у злачынцаў.

Не ў прыклад вясковым дзядкам і бабулькам вопытныя гандляры могуць пры выпадку і пастаяць за сябе. Так, сёлета у пачатку года амаль месяц яны не без поспеху трымалі страйк. А як выказалі свой пратэст супраць засілля гандляроў з Каўказа арганізаваныя падмаскоўныя сяляне? Яны бясплатна раздавалі з грузавікоў бульбу гараджанам. Перакрывалі аўтастрады даведзеныя да адчаю польскія земляробы. Выводзілі на фешэнебельныя вуліцы Парыжа табуны свіней, кур, індыкоў і іншай жыўнасці французскія хлебаробы, што не хацелі змірыцца з нізкімі цэнамі на плён рук сваіх. Вясковы ж прыватнік, які зрэдку бывае ў горадзе, не падасць голасу ў сваю абарону — ціхенька сабярэ свой ванзэлак і падыбае куды-небудзь далей ад уедлівага міліцыянта.

Між тым, ніхто не будзе адмаўляць, што сяляне сёння — гэта малазабяспечаная катэгорыя грамадзян, і сацыяльна арыентаваная эканоміка скіравана сваімі льготамі перш за ўсё да іх. Здавалася б тады, чаму не даць вяскоўцам магчымасць матэрыяльна падтрымаць сябе. Гэтая падтрымка прынесла б добрыя вынікі для ўсіх нас — прыбаўкай прадуктаў, зніжэннем цэн.

**Анатоль СІЛЯНКОЎ**



ЛіМ ЧАСАПІС

## "Росныя далі"

**На Старадарожчыне, як і ў іншых кутках Беларусі, нямала талентаў. Сярод іх і тыя, хто працуе ў галіне літаратуры. Гэта не толькі выхадцы са Старадарожскага раёна К. Цвірка, М. Парахневіч, А. Усеня**




**і цяпер нябожчык Я. Непачаловіч, а і мясцовыя аўтары, якія па-ранейшаму не развітваюцца з зямлёй маленства ці прыехалі сюды. Асобныя творы іх былі прадстаўлены ў кнізе "Арэскія вытокі", выпушчанай у 1996 годзе. І вось чарговая — "Росныя далі", што мае падзагаловак "Зборнік вершаў паэтаў Старадарожчыны. Выпуск другі". Атрымалася яна аб'ёмнай — больш як 14 улікова-выдавецкіх аркушаў, дзевятнаццаць аўтараў. Змешчаны не толькі вершы, а і тэксты песень, што пакладзены на музыку. Вылучаецца падборка Альберта Міхайлава (пра яго ў адным з бліжэйшых нумароў "ЛіМа" раскажам падрабязней). Аўтар шматлікіх песень, А. Міхайлаў у іх звяртаецца не толькі да сённяшніх рэалій, а і пільна ўзіраецца ў мінуўшчыну, аб чым, у прыватнасці, сведчыць яго верш, пакладзены на музыку І. Завацкім "Князь Гальшанскі":**

***Князь Гальшанскі, вяльможны,***
***З даўніны ўзышоў.***
***Санавіты, заможны***
***Над дрымотай лясоў.***
***Над абсцягамі плыняў***
***І зацішкам балот,***
***Ганарлівы, няспынны***
***І шукальнік прыгод.***

**Прыпеў вясёлы, бадзёры: "Ой, княжа, княжа, Княжа-ягамосць, Ты сягоння, княжа, У Дарогах госць. З гарнеца мядухі Князю налівай, — З падарожнай кружкі Выпівай!" Як і бывае звычайна ў падобных "раённых зборніках", значнае месца ў творах займае тэма замілавання роднымі мясцінамі.**

**Не абыходзіць іх і Марыя Захарава. Нарадзілася ў вёсцы Паставічы Старадарожскага раёна. Скончыла Гомельскі кааператыўны інстытут, працуе намеснікам старшыні райспажывтаварыства. Але гэта не перашкаджае ёй пісаць вершы, да асобных сама стварае музыку. Ёсць у М. Захаравай і верш "Сіла песні": "Спявайце, родныя, спявайце штосьці, Хай вашым спевам поўніцца сусвет! Няма на свеце большай прыгажосці, А прыгажосць вам уратуе свет!" А Ганна Верамей — родам з вёскі Старыцы Капыльскага раёна. Пасля заканчэння гісторыка-філалагічнага факультэта Мінскага педінстытута імя М. Горкага працавала выхавацелем, настаўнікам беларускай мовы і літаратуры, намеснікам дырэктара Языльскай сярэдняй школы Старадарожскага раёна. Цяпер на пенсіі. У вершах вяртаецца ў гады маленства, што прайшлі на Капыльшчыне. Расказвае і аб тым, як хутка праляцелі гады ("Дома"):**

***Прыехала дамоў. Ніхто не сустракае.***
***Вісіць замок звычайны на дзвярах.***
***І цішыня стаіць вакол нямая...***
***І сціснуў сэрца боль тупы ў грудзях.***
***Зірнула у вакно — нідзе нікога.***
***Ляжыць зламаны ножык на стале.***
***І куртка братава вісіць каля парога,***
***Што саграvала часам і мяне.***
***Каб боль суняць, я падышла да студні,***
***Зачэрпнула вядро і стала прагна піць...***
***Бальзам — вада! Ты палячы мне грудзі,***
***Суціш мой боль, і дай яшчэ пажыць.***

**Змешчаны творы і іншых аўтараў: Людмілы Ананіч, Тамары Дзмітрук, Людмілы Журавай, Вольгі Лелюковай, Віктара Лелюкова, Ігара Лізуры, Міхаіла Ляснёва, Алены Малец. А поруч спявадаюцца перад чытачом Уладзімір Праташчык, Аркадзь Пенязь, Наталля Розум, Уладзімір Сітнік, Аляксандр Шумскі, Алесь Шчэрба, Мікалай Чака, Віталь Юрэвіч. Выйшаў і зборнік вершаў маладых паэтаў Старадарожчыны "Расінка", у якім змешчаны вершы школьнікаў. Прадмову "Тварыце, юныя паэты!" напісаў Алесь Усеня. Ён жа і фінансаваў гэтае выданне.**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

КРЫТЫКА

Творчасць Уладзіміра Ягоўдзіка — гэта рознакаляровыя пацеркі, рассыпаныя па стале. На кожнай свой завершаны малюнак, у кожнай свая арыгінальная форма — аповесці для дарослых, для дзяцей, апавяданні, пераказы, эсэ, арніталагічныя, феналагічныя (і г.д.) замалёўкі, назіранні...

Для чытача — звычайнага спажыўца — такая рознабаковасць пісьменніцкіх інтарэсаў не мае ніякага значэння, ён кіруецца толькі ўласным густам і выбірае для сябе тую літаратуру, якая блізкая яго душы. Крытыка ж, які раптам вырашыў нанізаць усе гэтыя пацеркі на нітку, чакае няпростая, карпатлівая праца.

На першы погляд, яны ўвогуле не стыкуюцца, не збіраюцца ў адно цэлае ні сваёй формай, ні зместам: што агульнага ў тых, першых яго аповесцях "І паклікала я...", "Вочы Начніцы" з апошнімі рэчамі пісьменніка, у пераважнай большасці сваёй карацелькамі, жанр якіх адразу, не задумваючыся, асцерагаешся вызначыць?

Аднак падобнае сцвярджэнне справядліва хіба ў тым сэнсе, што творчасць У. Ягоўдзіка развіваецца ў двух накірунках: літаратура для дарослых і літаратура, адрасаваная ў першую чаргу дзецям. Прадметам сённяшняй гаворкі хочацца выбраць апошнюю, хоць адразу агаворымся, што гэтыя два накірункі часта перасякаюцца, дапаўняючы і ўзбагачаючы адзін аднаго, дзякуючы чаму, напрыклад, здавалася б, разлічаная на дарослага чытача аповесць "Вочы Начніцы" можа з поўным правам папоўніць бібліятэчку школьніка. З іншага боку, і некаторыя творы, у першую чаргу адрасаваныя, вядома ж, дзецям, могуць быць карысныя для сямейнага чытання — найперш гэта тычыцца кніг пра прыроду: "Ягадныя жмені", "Грыбок, грыбок, выстаў лабок" і інш. Паказальна, што і сам пісьменнік пастаянна ставіць перад сабой такую задачу, пра што сведчыць нават яго вершаваны "Азбукоўнік", які пачынаецца радкамі:

*Гэты "Азбукоўнік"*
*Склаў дзядзька Ягодзік.*
*Для дзяцей і для бацькоў,*
*Маіх даўніх сябрукоў...*

Як бачым, стылёва гэтыя радкі (як і сам "Азбукоўнік"), безумоўна, трэба адносіць да дзіцячай літаратуры, і ўсё ж — "для дзяцей і **для бацькоў**".

Думаецца, і пачынаўся празаік Уладзімір Ягоўдзік як дзіцячы пісьменнік менавіта са сваёй "дарослай" прозы. Той, хто чытаў яго аповесць "Вочы Начніцы", якая ў 1989 годзе выйшла ў "Бібліятэцы часопіса "Маладосць", відаць, памятае яе фабулу: лёс хлопчыка-падлетка ў адзін з самых драматычных перыядаў яго жыцця, звязаны з хваробай і смерцю маці. Свет, які адкрываецца нам са старонак аповесці, мы бачым вачыма яе галоўнага героя. І таму ў ім, гэтым свеце, шмат непасрэднага, падуладнага даверлівай, ранімай дзіцячай душы, якой выпала нямала пакут і страху: "Маці не адзывалася. Нават не варухнулася — ляжала скручаная, бокам, на гурбе ўкамянелага брыкету. У вочы мне зеўрала чорная жахлівая цемень, але я ўбачыў, сапраўды ўбачыў, што маме кепска ляжаць, што лепей павярнуць яе на спіну. Уціснуў ёй пад пахі здранцвелыя далоні і надзіва лёгка зрабіў, што надумаўся. Тады адважыўся паспрабаваць падняць яе, але зразумеў: аднаму мне дахаты яе не прывесці. А яшчэ праз імгненне зверху гурбы пасыпаліся ўніз брыкеціны. Нехта пякучым холадам дыхнуў у патыліцу, груба штурхануў у спіну.

Упаў як падкошаны, прытуліў да сябе маміну галаву са з'ехаўшай на патыліцу хусткай, задыхнуўся ад роспачнага здушанага крыку:

"Мамачка, не памірай!.."

Галоўны герой аповесці натура творча адораная (настаўніца малявання Марына Юр'еўна бачыць у ім, Валеру Літвінчуку, будучага мастака), таму і на свет, які нам адкрываецца, мы пазіраем нібы праз каляровае шкельца — усё тое ж, знаёмае, блізкае, але ў фарбах больш кантрасту: цёмнае здаецца яшчэ больш змрочным, а светлае яшчэ больш прыгожым і нават казачным: "Пад кухонным акном замерла, выхапленая святлом, вялікая гурба, падобная на спіну нейкай згорбленай жывёліны. Якой? — гадаць няма калі. Святло нібы набліжае да хаты нізенькі дрывотнік, дзе ўпала мама, і аж даходзіць да змрочнай сцяны хлява. А там, за хлявом, ужо ўяўляюцца мне пад снежным шарпаком нашы соткі, і ў самым канцы іх — старая чорная ў камлі бярэзіна з высачэзнаю кронаю, доўгімі абвіслымі косамі-галінамі. Бярэзіна як бярэзіна, да леташняга года нічым не адметная сярод сваіх сясцёр, што хоць рэдка, але растуць на абедзвюх вуліцах вёскі. Яшчэ летась вясною я піў з яе салодка-кіславаты сок, а бліжэй да восені прыкмеціў аднаго дня з таго боку, дзе ўстае сонца, і з таго, дзе яно заходзіць, дзіўныя нібы сплеценыя цёмна-зялёныя мячыкі на танклявых галінах. Паказаў дзеду і спытаў: што гэта?

"Амяла... — пачуў, як заўсёды, разважлівае ў адказ. — Ці, як інакш яе называюць людзі, — ведзьміна пята, або вока Начніцы..."

Аповесць "Вочы Начніцы" ў многім аўтабіяграфічная, таму зачараванасць галоўнага героя светам прыроды, цікавасць да міфалогіі, народных казак, відавочна, спісана аўтарам з сябе — таго, далёкага. Але тое, далёкае, аднак, не вынішчылася ў душы ні часам, ні рознымі перыпетыямі жорсткага лёсу. Наадварот, яно падштурхоўвала і падштурхоўвае на напісанне ўсё новых твораў.

Уплыў фальклору на творчасць У. Ягоўдзіка — гэтага магнітнага поля, пад уздзеяннe якога непазбежна трапляе ці не кожны беларускі пісьменнік, што бярэцца пісаць для дзяцей, — найбольш адчувальны ў ягоных аповесцях-казках, дастаткова вядомых — прынамсі, некаторыя былі інсцэніраваныя і ставіліся не толькі ў беларускіх, але і "блізказамежных" тэатрах. У гэтых творах традыцыйныя для нашага фальклору персанажы, традыцыйныя "правілы гульні" — гэткія "літаратурныя шахматы", калі прызначэнне кожнай фігуры-персанажа вядома з самага пачатку. Зразумелая і канчатковая мэта ўсяго дзеяння, аднак, па волі аўтара, перш, чым дайсці да фіналу, фігуры-персанажы могуць рабіць такія нечаканыя і непрадказальныя хады, што прымушаюць зацікаўленага чытача неадступна ісці за імі да самага канца. Дзякуючы таму відавочная сувязь твора з фальклорам не толькі не шкодзіць яму, твору, але і надае своеасаблівы нацыянальны шарм.

Разумеючы гэта, У. Ягоўдзік у сваіх казках часам свядома ідзе на непасрэдныя фальклорныя запазычанні. Так, у аповесці "Калі тупне Зайка..." Варона, каб не быць з'едзенай Ваўком, падманвае яго гэтак жа, як гераіня вядомай народнай казкі, гераіня, якую Варона да таго ж лічыць сваёй маці: "Каб не пэцкацца з пер'ем, на што лісіная парода здатная, Ваўчыца пасадзіла маю маці ў два рэшаты і шпурнула іх з гары..." — расказвае яна Ваўку. Той верыць і запіхае ў рэшаты Варону. Што з гэтага ў выніку атрымалася, здагадацца няцяжка. Але сюжэт казкі "Калі тупне Зайка..." развіваецца ў іншым рэчышчы, закранаючы пытанні, актуальныя ва ўсе часы і ў любым узросце: што такое сапраўднае сяброўства, смеласць, зло... Зразумела, калі твайму чытачу восем-дзесяць гадоў, пошук адказу на іх вядзецца ў іншай плоскасці, чым калі яму за дваццаць альбо за шэсцьдзесят, — праз цікавае здарэнне, прыгоды, наданне звярам і птушкам чалавечых якасцей. У нашым выпадку Заяц аказаўся вылякам, Барсук — сквапным і баязлівым, Вожык і Вавёрка — тымі, хто ведае кошт сапраўднаму сяброўству, і г.д.

Здаўна вядома, што лепшыя, як і горшыя якасці характару добра праяўляюцца ў нейкіх незвычайных, нават экстрэмальных сітуацыях. Што можа здарыцца ў лесе незвычайнага, тым больш экстрэмальнага? Ды што заўгодна! Хоць бы гэта: Воўк, уладар лесу, прагаладаўся, ды так, што страшна з ім сустракацца. А Ліса тут як тут, рада паслужыць: маўляў, загадай, хто да раніцы не навучыцца выць па-воўчы, той трапіць табе на сняданак. Такім чынам, адзін з канцоў клубка, у які зматаны сюжэт аповесці, знойдзены, і цяпер застаецца толькі пацягнуць за яго, каб ён сам пачаў разматвацца, прымушаючы маленькага чытача заваражана сачыць за ім, не задумваючыся пра тое, чым усё гэта не толькі можа, але і павінна скончыцца: як звычайны клубок нітак — яшчэ адным кончыкам-хвосцікам, так казка — перамогай дабра над злом (зразумела, кемлівым Вавёрцы ды Вожыку ўдалося не толькі ўратаваць сябе і Барсука з Зайцам, але і пакараць Ваўка і Лісу).

У аповесці-казцы "Янка і Ружа", адным з самых адметных твораў Уладзіміра Ягоўдзіка, кола праблем, якія закранае аўтар, не проста пашыраецца, яно дасягае тых сфер, якія, на жаль, не дужа часта адлюстроўваюць у сваіх творах нашы дзіцячыя пісьменнікі, відавочна (і несправядліва), прымаючы іх за вельмі ўжо дарослыя. Найперш гэта праблемы адносін да роднай мовы, да гісторыі роднага краю. Нават назва казачнай краіны, у якой адбываецца дзеянне, сугучна старажытнай назве нашага краю — Летавецкая дзяржава, у якой ёсць і свая Белая Вежа, і Святлыньрака, у ноч на Купалле тут шукаюць папараць-кветку, а калі збіраюцца на святы, танцуюць "Мікіту" ды "Юрачку".

"Якая мая зямля?.. Самая прыгожая ў свеце, — гаворыць галоўны герой аповесці Янка. — Там рэкі — як дзівосныя срэбныя паясы, а глыбокія азёры — быццам блакітныя вочы. Там пушчы трымаюць на зялёных плячах неба. А каля пушчаў — жытнёвыя палеткі, дагледжаныя сады. На маёй зямлі жывуць цудоўныя людзі. Працавітыя, спагадлівыя. Суседзям яны не

Алесь БАДАК

# Вяртанне князя Кука

ЧЫТАЮЧЫ Уладзіміра ЯГОЎДЗІКА



чыняць крыўды, але за гонар і славу дзядоў умеюць пастаяць".

А Нянька, якую Ружа, маленькая валадарка краіны, прызначыла сваім першым міністрам, вучыць хлопчыкаў і дзяўчынак: "У роднай мове шмат цудоўных слоў. Мова яднае нас з далёкімі продкамі, якія стагоддзямі назапашвалі мудрасць. Менавіта яны назвалі зямлю, дзе мы жывём, Вялікім Летавіцкім краем. Нашы сцягі заўсёды луналі ў небе і ніколі не схіляліся перад заваёўнікамі".

Менавіта ім, хлопчыкам і дзяўчынкам, даводзіцца абараняць родную зямлю ад суседзяў-заваёўнікаў — літаратурны прыём, які робіць сур'ёзную праблему больш даступнай і блізкай юным чытачам.

Значнасць узнятых праблем, алегарычнасць вобразаў — увогуле характэрная рыса казак У. Ягоўдзіка. У гэтым сэнсе цікава параўнаць яго аповесць "Сонейка, сваці!" з "Крадзеным сонцам" К. Чукоўскага. Абодва творцы сюжэт будуюць на тым, што з неба знікае сонца. Але калі ў К. Чукоўскага гэта адбываецца дастаткова проста, быццам такое можа здарацца штодня ("Горе! Горе! Крокодил Солнце в небе проглотил!"), як, зрэшты,і працэс вяртання сонца "на месца" (Мядзведзю нічога не значыць намяць бакі Кракадзілу), то сюжэт У. Ягоўдзіка дастаткова драматычны (галоўнаму герою Яську, каб вызваліць сонца з палону, даводзіцца змагацца са страшным Цмокам). Апроч таго, пісьменнік як бы між іншым звяртае нашу ўвагу на сур'ёзную праблему ў адносінах чалавека да прыроды, бяздумнае знішчэнне якой падчас носіць незваротны працэс. Другі важны момант: праз адносіны да сонца пісьменнік паказвае розныя рысы чалавечага характару, высмейвае гультайства, скваппасць. Калі той жа Яська-каваль бядуе, што без сонца людзям будзе цяжка жыць, то, напрыклад, паніч разважае па-іншаму: "Такой бяды — сонца не будзе свяціць!.. На печы паляжу. Ні мурашкі табе, ні камара..." Скваппасць яго і ўвогуле не ведае межаў. Калі царэвіч Гуз Другі гатовы загубіць Яську, каб займець карону, то панічу дастаткова паабяцаць печ, якая сама варыць есці, каб ён, па сутнасці, пагадзіўся стаць злачынцам. Хоць, пэўна ж, і без таго ёсць у паніча кухарка, што гатуе яму ежу.

Абапіраючыся на беларускія фальклорныя традыцыі, У. Ягоўдзік уводзіць у свае казкі герояў-асілкаў, ведзьмаў, цмокаў, цароў, прынцэс і г.д. Але фальклорныя персанажы не вяртаюць чытача ў далёкае мінулае — наадварот, аўтар як бы набліжае іх да нашых дзён, прымушаючы першага міністра старажытнай дзяржавы падушку прымаць за лятаючую талерку, Балотніцу сачыць за тым, што адбываецца ў свеце, з дапамогай экрана на жалезным стале (чым ні Інтэрнэт?!), кіраваць людзьмі на адлегласці простым націсканнем кнопак "страх", "смех", "плёткі" і г.д.

Увогуле, калі глядзець на творчасць пісьменніка больш шырока, няцяжка зразумець, што далёкае і блізкае мінулае для яго не проста крыніца натхнення, але і духоўны храм, у які час ад часу трэба заходзіць, каб душа не агрубела і не аслепла ад бяспамяцтва. Толькі за апошнія некалькі гадоў з-пад яго пяра выйшлі кнігі, у якіх у той ці іншай форме ўзнаўляюцца гістарычныя падзеі, што некалі адбываліся на тэрыторыі нашай краіны, расказваецца пра беларускія святыні і славутыя мясціны, пра сустрэчы з вядомымі людзьмі роднага краю: "Белыя рысы на чорным полі", "Сем цудаў Беларусі", пераказ "Аповесці мінулых гадоў"... Кнігі, пабудаваныя на канкрэтных фактах, імёнах, у якіх аўтарскае "я" сыходзіць на другі план. Таму, хто добра знаёмы з творчасцю Уладзіміра Ягоўдзіка, прынамсі, чытаў яго аповесці "Вочы Начніцы", "І паклікала я...", такі адыход ад "магістральнай лініі" сваёй творчасці, магчыма, здаўся нечаканым і кароткачасовым (а сяму-таму і дачасным). Аднак нечаканасці ў гэтым яго кроку, здаецца, менш за ўсё. Як і выпадковасці.

Цяга да канкрэтыкі заўважаецца ўжо ў ранніх творах пісьменніка. У той жа аповесці "Вочы Начніцы" аўтар палічыў неабходным пазначыць, што ў адным з раздзелаў "выкарыстаны ўспаміны М. І. Ієські" — хто-небудзь іншы такое ўдакладненне палічыў бы неабавязковым, лішнім. А апавяданні "Крыж", "Бог Фукуракудзю", "Лёс", "Звярынец палкоўніка Чачэнскага" ды некаторыя іншыя і ўвогуле дзе ў большай, дзе ў меншай ступені жанрава мяжуюць з эсэістыкай, дакументальнай прозай. У пэўным сэнсе гэта быў яшчэ пошук свайго месца ў літаратуры, але пошук з улікам тых крытэрыяў, якія выпрацоўваліся гадамі і абапіраліся на лепшыя традыцыі беларускай літаратуры.

Пошук прымусіў пісьменніка крыху збочыць з шумнага бальшака, на якім было не працісннуцца сярод "сюжэтнікаў", тых, хто актыўна працаваў у жанры аповесці, рамана. Аказалася, што тут, у некалькіх кроках ад бальшака, прасторна і дастаткова ціха. Вакол хай сабе і не цалік, але кожны крок аддаецца гулкім рэхам, у які бок ні кіруйся. Так з'явіліся нізкі твораў-карацелек "Вянок для Лялі", "Ягадныя жмені", "З поўным кошыкам", "Ці вернецца князь Кук?", "У царстве Вадзяніка", "Лясныя дзеці", якія разам склалі цэлую энцыклапедыю, прысвечаную прыродзе роднага краю — птушкам, жывёлам, кветкам, ягадам, грыбам...

Калі ў адным са сваіх апавяданняў Э. Хемінгуэй пісаў, што жывёлы створаны для таго, каб на іх палявалі, то У. Ягоўдзік, таксама, як фальклорны герой князь Кук, абаронца птушак, у сваіх мініяцюрах адстойвае правa на жыццё ўсяго, каму гэта жыццё аднойчы дадзена, як бы адначасова палемізуючы і са Львом Талстым, які ў свой час шкадаваў, што пацукі такія агідныя, і іх нельга палюбіць. У. Ягоўдзік з любоўю піша пра ўсіх: і пра ластаўку, і пра вожыка, і пра драпежнага ваўка, і нават пра крата, і не толькі таму, што "ў кажушку з кратовых шкурак ніякі мароз не страшны".

Гэтую своеасаблівую "энцыклапедыю прыроды", большая частка якой была сабрана ў кнізе "Бабуліна варта", выдадзеный летась выдавецтвам "Беларусь", — па сутнасці, выбраным з таго, што створана пісьменнікам для дзяцей, — на жаль, наша крытыка прагледзела — ва ўсялякім разе, пакуль. Зрэшты, тут няма нічога дзіўнага: кнігі, адрасаваныя дзецям, яна ніколі асабліва не песціла сваёй увагай, а сёння, калі рэцэнзіі на такую літаратуру пішуцца ад выпадку да выпадку рэдкімі энтузіястамі, — тым больш. Аднак, у нашым канкрэтным выпадку, думаецца, віной не толькі ленасць рэцэнзентаў. Пра творчасць Уладзіміра Ягоўдзіка нельга пісаць з ходу, прымяняючы да яго стандартны набор ацэнак, які часам вандруе з рэцэнзіі ў рэцэнзію. Ды і, пішучы пра яго, трэба быць не толькі (а часам, і не столькі) крытыкам. Бо каб не проста пранікнуць у яго мастакоўскі свет, але і пачуваць у ім сябе ўтульна, трэба найперш умець зірнуць вакол ягонымі вачыма — гэта значыць, не толькі з любоўю да прыроды, але і з непадробнай цікавасцю да ўсяго, што ў ёй адбываецца.

Падумаем і пагодзімся: такога кшталту проза ў нашай літаратуры з'ява надзвычай рэдкая, а калі гаварыць пра жанравае вырашэнне абранай аўтарам тэмы, аб'ём зробленага ім, то і досыць унікальная. Нізкі апавяданняў У. Ягоўдзіка аб прыродзе (якія, наколькі мне вядома, ён працягвае пісаць) з часам могуць мець такое ж значэнне для беларускай літаратуры, якое ў свой час мелі "Запіскі пра лоўлю рыбы" і "Запіскі ружэйнага паляўнічага Арэнбургскай губерні" С. Аксакава. Тыя самыя запіскі, пра якія з захапленнем пісаў М. Чарнышэўскі: "Что может быть живописнее этого описания! А глупые тетерева, утки, дупеля, вальдшнепы, гаршнепы и им подобные и не подозревают, что судьба наделила их таким историком, как г. Аксаков; не подозревают, что в описаниях г. Аксакова они лучше, красивей и вкуснее, чем нежели на самом деле. Какой-нибудь дрянной ястреб, способный напугать одних воробьев, доставляет нам столько удовольствий, и все потому, что его описывает г. Аксаков".

Хоць Уладзіміра Ягоўдзіка, здаецца, мала хвалюе, ці заўважыць і па-належнаму ацэніць яго творчасць крытыка. Ён ідзе сваім шляхам, з якога сёння яго ўжо нікому не збіць. У творчасці, як і ў жыцці, ён бывае вельмі розны, а таму і непрадказальны. Учора пісаў аповесці, сёння піша кароткія апавяданні, верачы сам і прымушаючы верыць нас, што на адной машынапіснай старонцы можна сказаць не менш, чым у цэлым рамане. А заўтра можа здзівіць выхадам сваёй кнігі "Год-карагод" — своеасаблівым ілюстраваным календаром для падлеткаў з аўтарскімі адступленнямі і разважамі. Зрэшты, не толькі для падлеткаў — як і ўсе астатнія яго творы. А пакуль нехта з крытыкаў ці проста чытачоў збярэцца паразважаць у друку, што ж гэта за рэч такая — "Год-карагод" і да якога жанру мастацкай літаратуры (і ці мастацкай увогуле) яе аднесці, У. Ягоўдзік напіша яшчэ нешта. Што? Пра гэта ён, магчыма, пакуль што не ведае і сам. Несумненна адно: гэты твор, як і ўсе папярэднія, будзе напісаны з любоўю да свету і да нас, чытачоў.

КНІГАПІС

# Паміж Усходам і Захадам

Імя беларускага гісторыка, доктара навук Яўгена Мірановіча добра вядома не толькі ў Польшчы, але і на Бацькаўшчыне. Як адзін з актывістаў Беларускага гістарычнага таварыства ў Беластоку, ён ужо нямала зрабіў у справе даследавання гісторыі беларусаў у XX ст. Акрамя таго, да сённяшняга часу нястомна займаецца грамадска-культурнай справай. Быў рэдактарам, а цяпер старшыня праграмнай рады тыднёвіка беларусаў у Польшчы "Ніва". Яшчэ ў 1993 г. у Варшаве па-польску выйшла яго кніга "Беларусы ў Польшчы, 1944—1949 гг.". Пазней былі шматлікія артыкулы ў часопісах "Bialostoczyzna", "Białoruskie zeszyty historyczne" і інш., выступленні на навуковых канферэнцыях, у тым ліку і ў Рэспубліцы Беларусь. І вось у мінулым годзе пад аўтарствам Яўгена Мірановіча выйшла на беларускай мове "Навейшая гісторыя Беларусі". Фінансавую падтрымку аказала польскае міністэрства культуры і мастацтва.

Кніга ўяўляе сабой пераважна вучэбны дапаможнік найперш для школьнікаў, студэнтаў-беларусаў у цяперашняй Польшчы. Лічым, што не меншую цікаўнасць да яе магла б праявіць і навучэнская, студэнцкая моладзь Беларусі. Аўтар выдання не абмяжаваўся выключна асветніцкай мэтай, а паспрабаваў у даступным для чытача выглядзе выкласці канцэптуальныя падыходы ў асвятленні гісторыі Беларусі. Як адзначана ва ўступе, у польскай гістарыяграфіі гісторыя Беларусі на фоне іншых суседзяў Польшчы займае выключна мала месца. Кваліфікаванай ліквідацыі гэтага прагалу і прысвечана згаданая кніга, што складаецца з 9 раздзелаў.

Навуковец пачаў аналізаваць ход гістарычнага развіцця беларускіх земляў з інкарпарацыі іх у склад Расійскай імперыі ў канцы XVIII ст. Асаблівую ўвагу ён звярнуў на фарміраванне ў беларускай нацыянальнай ідэі ў XIX — пачатку XX ст. Значны ўклад у гэта ўнеслі Беларуская Сацыялістычная Грамада, газета "Наша ніва". Пры гэтым нельга пагадзіцца са сцвярджэннем, што прычынай спынення ў 1907 г. дзейнасці БСГ стала яе выбарчае паражэнне. Трэба ўлічваць тое, што ў немалой ступені фармальны роспуск партыі на з'ездзе ў Докшыцах быў вымушаным ва ўмовах "трэцячэрвеньскай" рэакцыі. Далей разгледжаны ўдзел беларусаў у першай сусветнай вайне, рэвалюцыях 1917 г., міграцыя насельніцтва. Асобны раздзел прысвечаны змаганню за дзяржаўнасць — стварэнне БНР і БССР, падзел Беларусі ў 1921 г. "Лёс Беларусі вырашаўся без беларусаў", — так коратка і даволі трапна ацэнены Рыжскі мірны дагавор ад 18 сакавіка 1921 г.

Разглядаючы гісторыю Савецкай Беларусі ў 1920—30-я гг., Яўген Мірановіч слушна выдзеліў значныя падзеі і працэсы — нэп, беларусізацыю, барацьбу супраць "нацыянал-дэмакратызму", калектывізацыю, рэпрэсіі. Нэпаўская лібералізацыя эканомікі рэспублікі цесна звязана з нацыянальным адраджэннем, узлётам у развіцці беларускай культуры. Паводле аўтара, згортванне беларусізацыі і ўдар па "нацыянал-дэмакратызму" былі непазбежныя, бо перашкаджалі таталітарнай уніфікацыі. Калектывізацыя названа другім этапам грамадзянскай вайны. "Юрыдычнае становішча сялян нагадвала сітуацыю да адмены прыгоніцтва ў Расійскай імперыі ў 1861 г., — робіць выснову даследчык. — Бальшавікі напрыканцы 30-х гг. вярнулі амаль усе элементы расійскага феадальнага права..."

"Грамадства і гаспадарка", "Прагматыкі і партызаны", "Грамадаўская рэвалюцыя", "Камуністы і прыхільнікі лаяльнасці", "Стаўленне санацыйнага лагера да беларускага пытання" — назвы гэтых параграфаў сведчаць аб тым, што ахоплены многія праблемы заходнебеларускай рэчаіснасці 1921—1939 гг. Грамадаўская рэвалюцыя — так ацэнена дзейнасць у 1925—1927 гг. Беларускай сялянска-работніцкай Грамады. Для працоўных Заходняй Беларусі Грамада "давала надзею на змены, была сілай, якая заступілася за іхнія чалавечыя і грамадзянскія правы", "уголас сказала пра польскую кръсавую ўладу тое, што аб ёй думала большасць беларусаў", была масавай "арганізаванай формай пратэсту супраць прыніжаючай рэчаіснасці".

Аналізуецца таксама дзейнасць іншых заходнебеларускіх партый і арганізацый — КПЗБ ("набольш уплывовая і моцная партыя"), клуба "Змаганне", Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі, Цэнтрасаюза, Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі (беспаспяхова спрабавала "перанесці нямецкую фашысцкую ідэалогію на беларускі грунт"). Бясспрэчнай і ўжо добра асветленай у гістарыяграфіі з'яўляецца высноaccess аб тым, што прыняты амаль усімі польскімі ўрадамі курс на адмаўленне беларускага пытання аказаўся згубным для Польскай рэспублікі.

Імкненнем разабрацца ў супярэчлівых падзеях у заходняй частцы Беларусі пасля вераснёўскага (1939 г.) паходу Чырвонай Арміі прасякнуты раздзел "Яднанне пад савецкім скіпетрам (1939—1941)". "У польскай літаратуры сфармаваўся даволі адназначны вобраз беларуса гэтага перыяду, які ставіў трыумфальныя аркі для прывітання савецкага войска... Проціглегласцю беларуса найчасцей быў паляк-патрыёт... Тым часам рэчаіснасць была больш складанай". Уз'яднанне Заходняй Беларусі з Усходняй восенню 1919 г., усталяванне там Савецкай улады, пераўтварэнні ў эканоміцы, сацыяльнай сферы, адукацыі, культуры, арышты і дэпартацыі — усё гэта выкладзена аўтарам з выкарыстаннем архіўных звестак, успамінаў людзей.

Адступленне Чырвонай Арміі ў 1941 г., нямецка-фашысцкі акупацыйны рэжым, партызанскі рух, Армія Краёва, Беларуская Цэнтральная Рада і калабарацыя, страшэнныя разбурэнні і гібель людзей — гэта таксама адлюстравана ў выданні. Яўген Мірановіч паставіў пад сумненне існуючыя ў гістарычнай літаратуры лічбы людскіх страт. Аналізуючы статыстычныя і іншыя матэрыялы, ён заявіў, што да канца вайны Беларусь назаўсёды страціла каля 4 млн. чалавек. Сярод адмоўных наступстваў ваеннага ліхалецця згадваў і такое: "У Беларусі не стала сіл, якія маглі б хаця прыпамінаць аб ідэі незалежнасці, аб сваіх нацыянальных сімвалах", бо ўсё гэта было скампраметавана ў час нямецка-фашысцкай акупацыі, што старанна выкарыстоўвала савецкая прапаганда.

У працы асветлены розныя аспекты грамадска-палітычнага, сацыяльна-эканамічнага і культурнага жыцця БССР у пасляваенныя дзесяцігоддзі. У духоўным жыцці беларускага грамадства сярод іншых выдзелена русіфікатарская тэндэнцыя.

Апошні раздзел — "Суверэнная Беларусь" — адведзены для актуальных праблем: драматычных наступстваў для беларускай нацыі Чарнобыльскай катастрофы, захадаў у рэфармаванні эканомікі, складанасцей у працэсах дэмакратызацыі, нацыянальна-культурным адраджэнні. Яшчэ ў пачатку манаграфіі даследчык адзначыў, што сучасная Беларусь фармальна працягвае заставацца незалежнай дзяржавай, хаця гэта не заслуга яе грамадзян, а ў асноўным сітуацыі ў Расіі і міжнароднай кан'юнктуры. Нельга з гэтым поўнасцю пагадзіцца, бо ў XX ст. беларусы змагаліся за сваю дзяржаўнасць. І гэта добра адлюстравана ў кнізе. А на залежнасць ад знешняга фактара ўказваў яшчэ ў 1921 г. у выданні "Адвечным шляхам: Дасьледзіны беларускага сьветагляду" Ігнат Канчэўскі: грунтоўная адзнака беларускай гісторыі — духоўнае ваганне паміж Усходам і Захадам.

**Аляксандр ВАБІШЧЭВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук,**
**дацэнт Брэсцкага**
**дзяржуніверсітэта**

# "Выбраныя творы" Кузьмы Чорнага

**"Беларускі кнігазбор" папоўніўся аднатомнікам "Выбраныя творы" Кузьмы Чорнага (укладанне і прадмова Міхася Тычыны, каментарыі Міхася Тычыны і Язэпа Янушкевіча). Кніга стала добрым падарункам прыхільнікам творчасці**



**аднаго з самых выдатнейшых беларускіх пісьменнікаў у сувязі са 100-годдзем з дня яго нараджэння. Перад укладальнікам стаяла няпростая задача: выбраць з надзіва багатай спадчыны класіка нацыянальнай літаратуры некалькі твораў, якія б, па магчымасці, далі больш-менш поўнае ўяўленне аб ім, як аб мастаку слова. Задача няпростая тым больш, калі ўлічыць, што Збор твораў Кузьмы Чорнага, выпушчаны ў 1972—1975 гадах у васьмі тамах, а ўся яго творчасць, перафразіруючы вядомае выказванне самога Кузьмы Чорнага, — гэта цэлы свет. Але, думаецца, М. Тычына паспяхова знайшоў выйсце са становішча. З раманаў у том увайшлі не яшчэ нядаўна хрэстаматыйнае "Трэцяе пакаленне", а "Пошукі будучыні" і "Млечны Шлях". Аповесці прадстаўлены творамі "Лявон Бушмар" і "Заўтрашні дзень". І, канечне ж, змешчаны шматлікія апавяданні, а таксама дзённікавыя запісы і артыкулы "Небеларуская мова ў беларускай літаратуры" і "Слуцкія сурвэты". Наконт гэтага ў каментарыях гаворыцца: "Вядома, Чорны застаўся б Чорным, класікам нацыянальнай літаратуры і тады б, калі б лічыўся аўтарам толькі рамана "Зямля" альбо "Бацькаўшчына". Тым не менш і ў яго ёсць мастацкія творы, у якіх талент пісьменніка выявіўся асабліва ўражліва і глыбока, выявіўся ў сваёй "рэальнай шматграннасці і філасофскім адзінстве", калі карыстацца ў даным выпадку словамі самога Чорнага. З усяго невычэрпнага багацця чорнаўскай творчасці мы паспрабавалі зрабіць пэўны адбор — гэта апавяданні, аповесці, раманы, дзённік, асобныя артыкулы розных перыядаў, якія і сёння гучаць надзіва надзённа, а ў сукупнасці ствараюць стэрэаскапічны творчы партрэт выдатнага пісьменніка". Пра кожны з прадстаўленых твораў можна гаварыць шмат, бо знаёмства з імі дае мажлівасць прасачыць, як Кузьма Чорны працаваў над цыклам твораў, "якія, разам узятыя, павінны даць карціну развіцця чалавечага грамадства за час ад паншчыны да бясkласавага грамадства..." І ўдакладняў: "Цыкл гэтых твораў будзе ісці не толькі па лініі храналогіі, а адначасова і па лініі ідэёвых катэгорый (носьбітамі і творцамі якіх ёсць чалавечыя вобразы): бацькаўшчына, уласнасць, закон, сваяцтва і г.д." Але, думаецца, асаблівае стаўленне павінна быць сёння перш за ўсё да рамана "Млечны Шлях", задуму якога пісьменнік вызначыў так: "Беларускі чалавек сярод сваіх еўрапейскіх суседзяў у час Айчыннай вайны". А гэта тое, над чым задумваецца сучасная літаратура. Беларуская — ставячы ў цэнтр увагі беларуса, руская — рускага, украінская — украінца... Кожная літаратура глядзіць на свет вачамі свайго суайчынніка, але кожная літаратура разглядае яго не ізалявана, а ў стасунках з іншымі народамі, няхай і не ў прамой сувязі. Кузьма Чорны рабіў гэта яшчэ тады, калі маштабнасць падобнага погляду на чалавека адсутнічала. Не мог не рабіць, бо ў час суровых выпрабаванняў яшчэ быў больш упэўнены: "чалавек — гэта свет". І раскрываў свет у чалавеку. І ў тым жа "Млечным Шляху" выказваў вуснамі аднаго з герояў сваё запаветнае: "Няхай жыве ўсясветная дбайнасць аб кожным чалавеку, які толькі хоць дзе на зямлі радзіўся на свет. І чорнае праклянцце таму, хто паліць і разбурае!" Актуальны і артыкул "Небеларуская мова ў беларускай літаратуры", у якім Кузьма Чорны закранае праблемы захавання чысціні беларускай мовы, пазбаўлення яе выпадковых слоў, а то і звычайных русізмаў: "Літаратурная мова павінна быць моваю чыстаю, беларускаю. Карэнні яе — у мове народнай. Літаратары павінны навучыцца моўна думаць па-беларуску. Яны павінны абудзіць у сабе або пастарацца ўспрыняць (калі не давялося мець яе змалку) беларускую моўную стыхію. Бо калі гэтага не будзе, яны будуць, як і цяпер, шкодзіць нацыянальнай форме культуры. Беларуская фразеалогія ў беларускай літаратурнай мове будзе спрыяць вырашэнню праблемы беларускага стылю нашае паслякастрычніцкай літаратуры". А "Выбраныя творы" Кузьмы Чорнага ў цэлым — магчымасць далучыцца да літаратуры, якая не падуладна часу.**

Юрась ВАЙСЁНАК

ПАЭЗІЯ

Раман
ТАРМОЛА-МІРСКІ



## Вяртанне

*У сучках-радзімках сцены дома*
*І высокая ў радзімках столь.*
*Давядзецца дому быць вядомым —*
*Тры разы гарэць, нібы салома,*
*Зведаць радасці і зведаць боль.*
*І найперш па сэрцы ўдарыць гэта,*
*Пройдзе па душы ўспаміну смык:*
*Месца нараджэння ўсё ж паэта,*
*Слова першае тут... Першы крык...*
*Я іду па вуліцы Высокай —*
*Вуліцаю Кірава іду,*
*(Праўда, бальшавік чаго тут стойкі?)*
*Я ў мястэчку самы адзінокі*
*Ад пра лёс наш невясёлых дум.*
*Я шукаю, Госпадзі, прытулку*
*Там, дзе нарадзіўся, жыў і рос,*
*Дзе было і мякка мне і мулка*
*І куды вяртае мяне лёс.*
*Эх, ці так вяртацца б мне дадому*
*З беспрытульным целам напаказ...*
*Я гару... Гару, нібы салома,*
*У чацвёрты... Мо ў апошні раз.*

## Буква закона і буква праўды

*Буква закона*
*над буквай праўды*
*Так часта вісіць,*
*як дамоклаў меч,*
*Што самі законнікі*
*былі б рады*
*Такому закону голаў адсеч.*
*Уражанне, пісалі яго букваеды,*
*Не асіліўшы алфавіт,*
*Але ж усумніцца ў іхніх ведах*
*Не дазволіць*
*ніякі сінкліт.*
*Пераканалі сябе*
*яны ж самі,*
*Не такія ўжо дзівакі:*
*Памылкі,*
*зробленыя вякамі,*
*Могуць быць правіламі*
*на вякі.*

●

*Выжывае не цела,*
*Выжывае наш дух...*
*Душа адно адляцела —*
*І цела агонь патух.*

*Душа прыстанішча знойдзе*
*У цела каробцы другой,*
*Зноў па зямлі пойдзе*
*Левай-правай нагой.*

*Сустрэне любімае цела,*
*Што не хадзіла ў нябыт,*
*Здагадка мільгне ценем:*
*Бачыліся нібы...*

## На паўстанку

*Днём шукаеш адзіноту,*
*А начамі боязна,*
*Бо здаецца,*
*што сышоў ты*
*На паўстанку з поезда.*
*Матлянуў хвастом вагон,*
*Па баках адхон, адхон.*
*Стаіш з бляскам рэйкавым,*
*Быццам паміж рэкамі...*
*У начную у пару*
*Не да адзіноты,*
*Нават дрыжыкі бяруць*
*Ад развагі ўпотай.*
*Мроіцца дзіцячы шум*
*Пад сціхотным небам,*
*Не адчуць — крануць душу*
*Родную патрэба.*
*Ды няма каму прыйсці*
*На твой паратунак:*
*Ты ўсіх з гвалтам "адпусціў",*
*Каб пажыць між думак.*
*А яны, як на бяду,*
*Усе забаставалі,*
*Больш на працу не ідуць*
*У чэрапе-падвале.*

## Набалелае

*Зрабіла лепей, чым магла.*
*Нагаварыла больш, чым трэба.*
*Не рассяваецца імгла.*
*Не прабіваецца ў нас неба.*
*Калі ж рассеецца туман,*
*А не рассеяцца не можа,*
*Між намі будзе зноў падман*
*І не пусты халодны ложак.*
*На дапамогу пагукаць*
*У самы раз бы нам Пракруста:*
*Нагам жа нашым і рукам*
*Ламанне трэба... Ды каб з хрустам!*
*Душа і сэрца зацяклі*
*Ад нерухомасці гультайскай,*
*У схоў дамашні мы ўцяклі,*
*Сядзім, як за сцяной кітайскай.*
*Мы храмам аб'явілі склеп,*
*Падцяжкамі зрабілі стропы,*
*Сілкуе нас вада і хлеб,*
*А сілкаваць павінен клопат...*

## Трызненні...

*Спаць хочацца.*
*Не вечным сном.*
*Няхай свет перавернецца ўверх дном,*
*Пакуль я стану ў сне варочацца.*
*Тады я ўверсе апынуся*
*На гэты раз абавязкова,*
*Купалаўскія сны аб Беларусі*
*Не будуць толькі словам...*
*Жраць хочацца.*
*Баліць жывот мой хворы,*
*Па ім, як быццам топчуцца*
*Аднойчы ўбачаныя мною горы.*
*Выходзіць, я ўсё роўна ўнізе.*
*Куды ўжо можа быць ніжэй!*
*Да твару Месяц твар наблізіў*
*І не ўсміхаецца — іржэ:*
*Ты пахваляўся нашым падабенствам,*
*Бязмозглы і зямны чарвяк...*
*Усе маладзічкі ў маленстве!*
*Вось толькі ты не мог быць ім ніяк.*
*Замнога гонару такому пшэку...*
*Ты можаш быць падобным на Машэку*
*Сваім разбойным словам... Зломіш голаў!*
*Вось табе на!*
*Цяпер не да спання*
*І не да болю нават ва ўсім целе.*
*За тое, што Машэку я раўня.*

●

*У прасторы галактыкі*
*У мяне ёсць куток —*
*Ён і мар маіх практыка,*
*Ён і думак выток.*

*Ён зялёнаю плямкаю*
*Цешыць столькі вачэй.*
*Ён халоднаю клямкаю*
*Душу апячэ.*

*Толькі ён і загоіць*
*Боль няўбачаных ран,*
*Толькі ён не загоніць*
*Сэрца сынава ў зман.*

## Нож і язык

*Лязо языка*
*І нажа лязо...*
*Разам застала іх раніца.*
*Колькі стагоддзяў побач ужо!*
*Розныя,*
*а ўжываюцца.*
*Нож арудуе па начах.*
*Язык — і пры святле стараецца.*
*Сыдуцца разам — дружна маўчаць*
*Ці моўчкі скрыгочуць і лаюцца.*
*Трэба язык за зубамі трымаць,*
*Востры нож у кішэні,*
*Каб саюз гэты не паламаць*
*За якое імгненне...*
*Двое, дбаючы пра сябе,*
*Не трасуць кулакамі.*
*Не сыходзяцца ў барацьбе,*
*Нібы каса і камень.*
*Не выкрасаць ім іскры агню,*
*Не здабываць праўду.*
*Рады яны*
*ночы і дню*
*Там, дзе іхні парадак.*
*Нам сціхотна ад іх ляза,*
*Ім — ад нашых паглядаў.*
*...Кроў з нажа*
*языком злізаў*
*Нехта за даляглядам.*

## Правялі

*З Новым годам, Чык-чырык,*
*Па апратцы толькі шэры...*
*На зімовай жа паперы*
*Пішам разам сэрца крык.*

*Я хаваюся ў каўнер,*
*Ты ў насупленыя пёркі.*
*Лёс халодны, сумны, горкі:*
*Птушкі ўсе мы з СССР.*

*Пералёт у СНДу —*
*Гэта, кажуць, перасадка*
*Наша з чаю на аладкі,*
*А папраўдзе — на ваду.*

*Вераб'і старыя мы,*
*Але чэсна ўсё ж прыкінем:*
*Правялі нас на мякіне,*
*На ізноў "рабы не мы..."*

●

*Не вісні над душой.*
*Займіся лепей целам,*
*Ты ж гэтага заўжды хацела,*
*А я пайшоў...*
*Я пагуляю з ёй адной,*
*Такі ж, як і душа нябачны,*
*Табе заўсёды з целам толькі смачна.*
*Мне ж і з душой...*
*Калі ж нацешышся удосталь,*
*Забудзешся ў салодкім сне,*
*Душа да цела зноў прымкне,*
*Як штык да карабіна. Проста.*
*У цэлае тады сабраны,*
*Ахоўваць буду зноў цябе, твой сон.*
*Які ў вас гарманічны ён! —*
*Сяброўкі зробяць кампліменцік танны...*

●

*Адпомсці мне за нелюбоў,*
*Як я адпомсціў за каханне,*
*Хоць на жыцця майго экране*
*Прамовіў столькі шчырых слоў.*

*Што ж, справа рысу падвяла,*
*Рахункам стаў апошні ўчынак.*
*Даруй... і пагаруй, жанчына,*
*Што жабраку скарб аддала.*

## Бабыль на могілках і Ева ў вёсцы

*Гэты Адам жыў бабылём.*
*Не дачакалася Ева Адама.*
*Ён зарастае за гэта быллём.*
*Ева так і не стала мадамай.*

*Ева дагэтуль у вёсцы жыве.*
*Моліцца, шэпча ля кожнага храма.*
*Як заблудзілася ў мёртвай траве*
*Евачка, ідучы да Адама.*

## Пра адметнасць

*Жыццё не даўжынёй адметна...*
*Іначай сэнс жыцця — падман,*
*Бо ў свеце з'яваю прыкметнай*
*Лічыўся б чалавек-груган,*
*Забойца,*
*здраднік,*
*проста злодзей,*
*Ахвярніка што перажыў,*
*Хто быў балячкаю ў народзе,*
*Хто распінаў нас на крыжы.*
*Жыццё не даўжынёй адметна,*
*А справамі перад вачмі,*
*Бо пахваляўся б дым ракетны*
*У космас шляхам... Не людзьмі.*

## Загадка-ластаўка

*Свет птушыны за акном.*
*Ён імклівы і дрыготкі,*
*Як трымценне аднойноткі*
*Паміж яваю і сном.*

*Геаметрыя крыла*
*Падразае дрэвы, хаты,*
*Не адкажа й матэматык,*
*Дзе ў секунду пабыла.*

*Ластаўку як наглядаць —*
*То камп'ютэр нам сакрыты,*
*Мільён сцежак можа зблытаць*
*І вярнуцца да гнязда.*

*Столькі ў лёце мікрасхем,*
*Паваротаў, рыўкоў, рухаў.*
*Робат-геній не дачухаў*
*Да такіх да тэарэм.*

*А яна — жывая плоць,*
*У гняздзе сыны і дочкі,*
*Нервы ў ёй — не правадочкі,*
*На якіх людзей аброць.*

*На крыжы, калі сядзіць,*
*Няма лепшае манашкі.*
*Звон царкоўны важны, важкі*
*Ластаўку не дасць будзіць.*

●

*Ага... Я ўсё ж такі наіў,*
*А ты ўсё ж такі хапуга.*
*За гэта горка дням маім*
*І горасна тваім папругам:*
*Не пахадзіўшы па табе,*
*Яны трашчаць, як перавяслы,*
*Бо многа ты ў жывот грабеш,*
*Аграбіўшы людзей няшчасных.*
*І праўда — кожнаму сваё.*
*Ад першага дня нараджэння*
*Тваіх баюся заваёў,*
*Як ты маіх жа паражэнняў.*

Генрых ДАЛІДОВІЧ

# ДВА АПАВЯДАННІ



ПРОЗА

## КОНІ

Калі я западле́ткаваў — перарос той узрост, каб, самае вялікае, пільнаваць ад катоў, ястраба ды варон куранят, сачыць за гусямі ці свіннямі, падпаскаваць, баранаваць, а ўжо калоў дровы, запрагаў каня, раздзьмухваў горн у кузні, круціў тачыла і зубіў з бацькам сярпы, спрабаваў весці плуг у зямлі ды касіць, — дык вось недзе гадоў пад чатырнаццаць, калі мы жылі яшчэ на хутары і пачалі збірацца пераязджаць у вёску, на былую дзедаву сядзібу, пачаў лічыць сябе не толькі сярод равеснікаў, але і старэйшых, нават і сярод сталых важнай асобаю: мяне летам, у школьныя канікулы, сваяк-брыгадзір уладкоўваў конюхам, паколькі бацька, як і іншыя мужчыны, ездзіў на далёкі пушчанскі сенакос ці абсякаў склюдам сваё дрэва на зруб.

Канечне, бацька-каваль не па вялікай ахвоце на нейкі час пакінуў кузню і падаўся да коней: каб хутчэй адбудавацца, трэба было амаль заўсёды мець пад рукой каня — часамі, ясна, і тайна, уночы... Што ж, было і такое, і я грэшны, здаралася, “наносіў шкоду сацыялістычнай маёмасці”: скажам, хадзіў упоцемкі на калгаснае поле па салому альбо па маладую бульбу...

Першы раз перад тым, як абпасадзіць, са мной гутарыў сам старшыня калгаса, Кураглядаў — бранскі ўраджэнец, былы партызан, суроватвары, якога можна было толькі пра штосьці прасіць і якому няможна было сказаць супраць ані слова, — дык вось ён, хвалячы мяне за кемную працу ў кузні, гаварыў пра сваё да мяне “великое доверие” і пра маю “личную ответственность за колхозное имущество” ды наказваў быць строгім, непадкупным ні на ніякія людскія просьбы ды “подношения”. Настаўлялі брыгадзір і бацька, дык пачаў лепш пазнаваць, што ў той час, напрыканцы пяцідзесятых, конюх — гэта не проста чалавек пры конях (найчасцей калека), а, лічы, гаспадар самай вялікай нашай будыніны і цяглавай сілы, пасля брыгадзіра, можа, і другая шышка ў Янкавінах, далей — каваль, ляснік, загадчык склада, шафёры і трактарысты, магазіншчыца, шавец ды кравец, бондар, пячнік, выпакладач, даглядчыкі на цялячай і авечай фермах, паштальёнка, шаптуха, вясёлы гаварун (не буду настойваць, што так было і ў іншых вёсках, але ў нас “табель пра рангі” быў амаль такі. Не, пра настаўнікаў не забыўся, вітаючыся з імі, здымалі шапку, як і перад дзераўнянскім ксяндзом, але “інтарэс” да іх быў малы. Участковага з суседняй вёскі не любілі, але баяліся, частавалі яго, а дзераўнянскім урачам кланяліся тады, калі пагражала смерць).

Наша канюшня была не проста доўгая і шырокая пабудова, складзеная з яшчэ нядаўніх моцных сялянскіх гумнаў. Сапраўды, гэта была маёмасць, і конюх меў звязак ключоў да яе. Кожны мог падысці, зірнуць на ёмкія, каб вывесці каня, дзверы з цяжкім замком і таблічкай “Не курыць!”, мог агледзець паблізу вялікі шчыт з багром, рыдлёўкай, сякерай і вядром, пафарбаванымі ў чырвоны колер, але не ўсякі мог увайсці ў канюшню — конюхаву вотчыну. Калі ж хто трапляў туды, то адразу ж бачыў конюхавы ўладанні: злева — жэрдкавы застаронак, дзе стаялі скрыні з вобмешкай і аўсом, старыя і новыя аглоблі, колы, драбіны, дугі, сахары, граблі, справа — шчыльна абабітую дошкамі кладоўку, дзе на сценах віселі нетухкі і на ветры ліхтар, непрамакальныя плашчы з балахонамі, фуфайкі, хамуты і вупраж (пад кожным была напісана клічка каня), пад імі стаялі рабочыя дугі, вёдры, кірзавыя і гумовыя боты, валёнкі, бочка з каламаззю, ляжалі скруткі вяровак, шчоткі, сякера, малаток, скрыначка з цвікамі, а таксама былі табурэт і стол, а на стале — два тоўстыя “зэшыты”: у адным конюх запісваў, калі і колькі чаго даў коням, у іншым — калі, каму і якога даў каня. Вось ён мог ужо ўжыць тры ключы і ўзяць тое, на што былі ласыя і іншыя.

За кладоўкай і застаронкам быў шырокі і доўгі калідор, а паабапал яго — стойлы, прасторныя і шчыльна абгароджаныя для жарабят, вузкаватыя і перакладзеныя пасярод жэрдкаю для сталых коней. За стойламі — гумно, з аднаго боку на сена, з іншага на салому, сячкарня (кола і нажы ў ёй магла зварушыць толькі конская сіла), на самым канцы — высозныя і шырозныя, каб уехаць з калясьмі сена, дзверы, што зашчэпліваліся знутры на два вялікія крукі. Праўда, тыя дзверы стуляліся не зусім шчыльна, дык праз дзюру заходзілі паласавацца мышамі ці вераб’ямі і галубамі каты, а ўлетку — ужо на ахапкі сена і саломы — чамусьці любілі прыходзіць несціся куры і нават часамі выводзілі тут позніх куранят (яйкі і кураняты — законная конюхава здабыча. Тыя, што былі да бацькі і пасля яго, з пугамі ганяліся за падшыванцамі, што прагнулі пасягнуць на яе, тую здабычу. Пры бацьку і пры мне, вядома, той дар быў наш, толькі, бывала, яго ўпотай ад нас палавініў даглядчык Антон). Яшчэ адзін ключ быў ад суседняй “хаткі”, дзе варылі для коней бульбу, але я туды не заходзіў: улетку коням бульбы не давалі.

А што да Антона — на гадоў пятнаццаць старэйшага, з вузкімі і няроўнымі, як след не прарэзанымі вачыма, вузкалобага і чорнакалматага, няўклюднага, буркліва-крыклівага з-за маленечкай дробязі, але дужага і працавітага, — то ён на летні час станавіўся маім падначаленым. Першы раз ён пакрыўдзіўся, што над ім, хто з маленства горбіўся на гаспадарцы, а пасля, пры калгасе, быў пры конях, узвысілі хлапчука, ва ўсім папраўляў мяне, не раз і не два абмацюкваў, хоць у нас мужчыны пры дзецях не лаяліся, аднойчы нават і адлупцаваў свайго начальніка ды так, што маё мяккае месца агнём гарэла. Я не заплакаў і не паскардзіўся бацьку, толькі прыстрашыў: “Скажу Кураглядаву, і ён цябе пасадзіць!” Антон перапужаўся, пачаў прасіць не гаварыць таму пра гэта, спакушаў яйкамі і тытунём. Я хабару не ўзяў, але пачаў паводзіцца больш абачліва, дык, бачачы, што ўмею чытаць і пісаць, хутка ва ўсім разабраўся, што са мной з ласкай у голасе гавораць людзі, непісьменны Антон неўзабаве ці то скарыўся, прызнаў маё вяршэнства, ці то пачаў паважаць, лямантаваў толькі на іншых і на коней. Нельга было не здзівіцца: любая жывёліна не любіць, калі на яе крычаць, тым больш, калі яе б’юць, ды ўсе нашы коні не толькі не баяліся Антона, але нават любілі яго, не адчуваючы ў яго заўсёдным крыку злосці і лютасці, адчуваючы бяскрыўдныя эмоцыі не зусім разумнага, зляканага ў вайну, але ў душы справядлівага і добрага чалавека. Не магло не спадабацца Антону і тое, што я не сквапнічаў, скажам, дзяліўся з ім яйкамі, дык за іх ён хадзіў у кіно, любячы глядзець фільмы пра шпіёнаў, купляў цыгарэты “БОКС” — як жартавалі самі начальнікі, “Будет Обратно Карточная Система”. Можна сказаць, у мяне быў і яшчэ адзін падначалены — вартаўнік Капач, пажылы хутаранін, які доўга не хацеў уступаць у калгас, але яму так абрэзалі яго зямлю, так прыдушылі падаткамі і штрафамі, такім частым госцем у ягонай хаце быў участковы, што і ён здаўся, закалгасніčаў, таксама пачаў убірацца ў новую “моду” — гумовікі і фуфайку, як і пачаў звыкацца, што цяпер роля яго простая: рабіць тое, што загадваюць, і маўчаць. Капач, як і Антон, меў ключ толькі ад канюшні, але паколькі яго інтарэс быў і да застаронка і кладоўкі, коней і гумна, то ён, чалавек разумны і хітры, са мной ладзіў, расказваў розныя цікавыя гісторыі (і пра Кураглядава, які ў вайну пакраў у яго куры, кажухі ды валёнкі), частаваў мёдам і смачнымі раннімі яблыкамі, гатункі якіх, на жаль, пасля Капачовай смерці звяліся.

Першы начальнік нада мной быў брыгадзір, мой дзядзька ў трэцім калене Пятро — малапісьменны, але разумны, гаспадарлівы, па-добраму вясёлы і трохі круцелісты (вельмі любіў расказваць, як служыў у польскім войску і сваімі выхадкамі даводзіў да шалу паляка-плютановага, які хацеў выбіць з яго “хлопскасць”, змусіць гаварыць толькі па-польску), а калі ён адхіляўся, то тады прыходзіў ці прысылаў мне паперкі-ўказанні ўчотчык Буднік — невысокенькі, шустры побач са сваёй мажнай, спакойнай і паважнай у вёсцы кабецінаю, непітушчы, набожлівы, не толькі паслухмяны, але нават услужлівы Кураглядаву. Я і тады ведаў, што ён у блакаду ацалеў у сваім урочышчы, яго, як іншых, не спалілі і не вывезлі ў Германію, дык да яго любілі заходзіць “у госці” партызаны, той жа Кураглядаў, любілі не толькі выпіць моцнай самагонкі і закусіць паляндвіцай, але хацелі ўзяць далікатэсаў — яек, мёду, хлеба, сала, мяса, грыбоў — і з сабою. Буднік, вядома, не мог пракарміць вялікі гурт, тоесёе прыхоўваў, пачаў клясціся, што ўжо галец, але ахвочыя да пітва і закускі малойцы не верылі, трэслі, выводзілі на расстрэл (Кураглядаў прыстаўляў да ягонай скроні рульку нагана) і так лупілі дзягаю, што гаротнік урэшце не вытрымліваў і кожны раз аддаваў тоесёе са свайго спрату. Толькі я і тады не разумеў, і цяпер, ужо сам сталы чалавек, не разумею іншага: Капач не таіў сваёй пагарды і нянавісці да Кураглядава, а вось Буднік не толькі нічога нікому не расказваў, не наракаў і не папікаў, а здаецца, не проста поўзаў перад Кураглядавым, а лічыў таго святейшым за папу рымскага, гатоў быў у ваду, у агонь ускочыць, абы яму кіўнулі пальцам, хоць здароўе яго падарвалі іменна тыя пабоі: у яго былі адбітыя печань і ныркі. За ягонае такое пакланенне Кураглядаву яго ў вёсцы многія не любілі, аднойчы нават хтосьці калом уночы вымалаціў яму ўсе шыбы ў вокнах.

Бывала, падыходзілі да мяне і без паперкі — з ліслівым зазіраннем у вочы, з пахвалой, з абяцанкай калі-небудзь нешта даць. Што ж, не ўстойваў, адступаўся ад брыгадзіравых і ўчотчыкавых наказаў, даваў каня.

Удзень коней пасвіў Антон — паколькі ён не ўмеў чытаць, я не пісаў яму паперкі, а даваў чалавеку лейцы і называў клічку каня, і па гэтым Антон рабіў тое, што трэба; начлежнічалі мы ўдвух — не, бадай, мала калі такое было, бо на начлег напрошваліся мае сябрукі, каб праехацца на кані, пасядзець каля вогнішча, ды мы, Антонавы памочнікі, павогнепаклоннічаўшы, нагаварыўшыся і нарагатаўшыся, бывала, і надрыжэўшыся ад страшных баек альбо нечаканага стрэлу ў лесе, засыналі і храплі да світання, пакуль не мусілі варочацца, прачынацца ад холаду, а коней сцярог адзін Антон (каб яны не разыходзіліся, каб наранку лягчэй абсачыць іх за кустамі, то ён путаў іх, а некаторым, самым зброддлівым, чапляў на шыю бразготкі).

Праўда, аднаго разу, яшчэ ў першы год канюхоўства, я выявіў: мой цельпукаваты і паслухмяны падначалены спрытна абшуквае, угаворвае нас хутчэй укладвацца спаць на сене непадалёку ад агню, каб затым па дамоўленасці, што была загадзя, даць камусьці каня: мужчыне — за паўбутэлек, жанчыне... не толькі за гарэлку ці апольчык сала. Жанчына, удава Стася, на год ці два старэйшая за Антона, як і ён, здаровая, грубаватая, малапісьменная, першая і паспрыяла выявіць Антонава ашуканства: неяк я абудзіўся ад незвычайнага, насцярожлівага шуму. Яшчэ паўсонны, убачыў: непадалёку цяпельца валтузяцца, нібы дужаюцца, стогнуць, нават храпуць, быццам коні, Антон і кабеціна. Прытаіўся і пачаў услухоўвацца, “Вой: адчапіся, кажу!” — пачуў Стасін голас. “Дам самага лепшага каня”, — упросліва выдыхнуў Антон. “Я сала табе прынесла”. — “Не трэба мне сала, хачу курыцу”. — “Прывык ужо да яе? Да Гэльчынай?..” — “Выдумалі людзі. Ну, Стася, прашу...” — “Дзеці ж паблізу”. — “Ды спяць яны, як барсукі”.

Барацьба пачала заціхаць, а потым Стася і Антон выпрасталіся, стуліліся.

“Ну, Антонік, пашкадуй, я ж удава...” А тады: “Ну, пачакай. Давай адыдземся. Толькі ж ты глядзі, каб...”

І паколькі яны сышлі са святла, я ўжо не бачыў і не чуў іх. Толькі, можа, праз паўгадзіны пачуў, што Антон на лузе гукае: “Клін! Клін!” І што неўзабаве набліжаюцца конскія крокі і рухаюцца ў лес, на дарогу. Зацікавіўшыся гэтым выпадкам, пазней пачаў прыкідвацца, што сплю, і праз колькі дзён залавіў змоўшчыкаў, як кажуць, на месцы, калі вясковы мужчына вёў каня за аброць, чым і яго, і Антона ўвагнаў у такі страх, што абодва пачалі ўпрошваць, каб я не сказаў пра гэта ні Пётрыку, ні Будніку. Я пагневаўся, адмовіўся “ад кроплі”, але пакрыў Антонаў грэх. Праўда, расказаў пра ўсё маці. Што да Стасі, дык маці заўздыхала: “Удава ж, дзеці малыя... Маладая... І Антон малады... Маўчы, не кажы пра гэта нікому, яны самі ва ўсім разбяруцца...” А што да таго мужчыны, што меўся даць і мне “кроплю”, то маці сказала так: “За тое, што хацеў даць выпіць, я яму падсыплю. Але конь яму трэба, будуецца ж. Грошай жа мала, дык не абысціся, каб не ўкрасці ў лесе дрэвіну. Паможаш — дзякуй скажуць”.

Маці як у ваду глядзела: неўзабаве Антон прыйшоў у прымы да Стасі, яны набылі яшчэ двое дзяцей, а тыя, каму я спрыяў у цяжкую часіну сваім парушэннем, бывае, успамінаюць: “А помніш, як ты за конюха быў?” — “Кепскі быў з мяне конюх”, — адказваю з жартам. “Не, ты мне памог лесу на кроквы прыдбаць”.

Тое было не меней трыццаці пяці гадоў таму, з добры дзесятак ужо не зазіраў у нашу канюшню, нейкую цяпер невялічкую, пахіленую, з азелянелым дахам, але, як і цяпер, у конюхавым “кабінеце” бачу ўвесь той рыштунак, тыя подпісы крэйдаю: “Клін”, “Дзяркач”, “Сівая”, “Ангор”, “Дэраш”... Гэта клічкі тых некалішніх коней, такіх жа руплівцаў, як іхні пастаянны даглядчык Антон. Кожны конь меў свой характар: скажам, “Клін” ішоў на кожны голас, “Дзеркача” цяжка было злавіць, нават абкружаючы яго лейцамі, “Сівая”, здаецца, цягала плуг, воз з сенам ці дрыўмі без стомы і спраўна прыводзіла год за годам жарабят, “Ангор” быў маленькі, але, як і “Сівая”, цягавіты і да ўсяго вадар, бо заднімі нагамі збіваў самых рослых коней: пакуль тыя збяруцца падкінуць зад, ён ужо смаляне сапернiку разы тры; “Дэраш” спакойны, але ім вельмі не пакіруеш... А як гулялі коні, як маладыя самцы спакушалі, цешылі тых сяброваk, што хацелі іхняй ласкі! Пра тое можна пісаць асобны твор!

Ну, і, канечне ж, “Васька”. Ён— адмысловая асобіна. Высокі, стройны, вогненна-рыжы, здаецца, з пароды арлоўскіх рысакоў. На ім, выпісаным здалёку жарабку, ездзіў Кураглядаў. Норавам “Васька” падабраўся пад гаспадара: дзёрзкі, нават агрэсіўны, нецярплівы, пагардлівы да іншых коней. Я, бывала, аж млеў ад страху, калі гаспадар заскокваў на ім да нас, да бацькавай кузні, і мне трэба было праходзіць паблізу яго: “Васькавы” вочы ажно гарэлі, ён не мог устояць на адным месцы, біў капытом зямлю, з роту і цугляў падала белая пена. Праўда, калі Кураглядаў адпускаў яго папасвіцца, ён цішэў, грыз траву і, як толькі гаспадар свісне, адразу ж ішоў да яго. Калі Кураглядаў набыў “козлік”, “Ваську” перадалі ў нашу канюшню, паставілі яго ў самае чыстае стойла і лепш кармілі, нікому яго для цяжкай працы не давалі — ён толькі гуляў з кабыламі, даваў сваё, як казаў Кураглядаў, “потомство” ці, самае вялікае, яго запрагалі ў брычку везці з шыкам маладых. Ён, мабыць, пакрыўджаны, што яго панізілі, сумуючы па волі, кідаўся ў стойле, а на лузе збіваў, ганьбаваў усіх коней, апроч “Ангора”. Той і яго адмалаціў і, як я сам бачыў на свае вочы, збіў нялітасціва, ажно “Васька” пачаў кульгаць на заднюю нагу. Гэта мяне вельмі здзівіла і ўсцешыла, падняло гонар за нашага “Ангора”.

(Працяг на стар. 14—15)



## ЧАСАПІС

### *Мужчыны іграюць у "ART"*



**Улетку самы модны ў Мінску спектакль "ART" (рэж. М. Пінігін) прайшоў у 50-ы раз. На сцэну розных тэатраў (Малы тэатр пад кіраўніцтвам І. Забары не мае пастаяннага памяшкання) *нязменна выходзяць трое мужчын.* Дзякуючы абсурднай жыццёвай сітуацыі — адзін з персанажаў набыў абсалютна белы холст — сябры вучацца галоўнаму: разумець адзін аднаго. Сцэнаграфія З. Марголіна стварае атмасферу незвычайнай шахматнай гульні, у якую іграюць тры *персанажы: элегантны* Серж (І. Забара), імпульсіўны Марк (С. Журавель), інфантыльны Іван (В. Манаеў).**

**Як заўважылі акцёры, на спектакль аб складанасцях мужчынскага сяброўства прыходзяць у асноўным жанчыны. Аднак не будзем забываць, што камедыю "ART" напісала модны французскі драматург Ясміна Рэза. Сёння п'еса "ART" пастаўлена ў больш чым 30 краінах свету. У Мінску спектакль ідзе два гады, і за гэты час рэжысёр М. Пінігін паспеў з'ехаць у піцерскі БДТ, дзе здзейсніў другую пастаноўку "ARTа".**

### *І пачнецца кінабум...*

**У кінатэатры "Мір" — чацвёртым у сталіцы — адкрылася зала, абсталяваная сістэмай "долбі". Лічыцца, што менавіта з прыходам сучасных тэхналогій у кінатэатры пачне вяртацца публіка.**

**І яна вяртаецца: па ацэнках спецыялістаў сёлета мінскія кінатэатры наведаюць 2,8 мільёна гледачоў, што амаль у тры разы больш, чым у 1997 годзе. Сёння кінапракатчыкі занепакоены адным — хуткай закупкай новых фільмаў. Напрыклад, славуты амерыканскі блокбастар "Гладзіятар" — гэта толькі кропля ў моры ў параўнанні з тым, што плануе паказаць мінчукам сталічнае аб'яднанне "Кінавідэапракат". Хутка на экранах сталічных кінатэатраў з'явяцца фільм-катастрофа "Ідэальны шторм" з Д. Клуні, меладрама "Эрын Бракавіч" з Д. Робертс, фільм-экшн "Місія не можа быць выканана-2" з Т. Крузам. Плануецца таксама працяг кінапраграмы "Оскар-2000", якую складуць фільмы "Зялёная міля", "Быць Джонам Малкавічам", "Таленавіты містар Рыплі".**

### *Грэх ліцадзейства*

**7 жніўня адзначыў 50-гадовы юбілей вядомы беларускі рэжысёр А. Карпаў. На творчым "рахунку" рэжысёра дзесяткі дакументальных фільмаў (самы новы — "Апошні спектакль" прысвячаецца актрысе А. Клімавай), ігравыя стужкі "Тата", "Гамункулус", а таксама экранізацыі ўласных спектакляў "Грэх ліцадзейства", у назве якога А. Карпаў адлюстраваў сваё разуменне тэатра, "На залатым возеры", "Хто там?".**

**Нярэдка кінарэжысёры становяцца цікавымі тэатральнымі рэжысёрамі. Ужо дзесяць гадоў А. Карпаў ставіць спектаклі ў Рускім драматычным тэатры імя Горкага. "Ёсць нешта ў тэатры, чаму ён жыве ў век тэлебачання і кіно. Гэта, як мне здаецца, непадавальнае пачуццё катастрофы. Магчымасці катастрофы, рэальнай вось цяпер, падчас спектакля, катастрофы існавання жывога акцёра-вобраза. Гэта не кіно, дзе ўсё гатовенькае, на стужцы. У тэатры кожны дзень наноў творыцца прыдуманае жыццё непрыдуманым жывым акцёрам, яго дыханнем", — разважае рэжысёр.**

**В. Б.**

# Жыве кінематограф?

## НАТАТКІ З РАБОЧАГА БЛАКНОТА

***Пагартала рабочы блакнот: пра многія падзеі, сустрэчы — толькі некалькі радкоў. Колькі ў жыццёвай мітусні, накідаў на паперы думак ды назіранняў, не пертаварылася ў артыкулы! Аднак цяпер, гэтыя недадуманыя да канца радкі, лёгка склаліся ў своеасаблівую хроніку падзей, агляд кінажыцця бягучага года...***

●

Нешта сімвалічнае было ў тым, што на дзесяты пазачарговы з'езд беларускія кінематаграфісты сабраліся ў зале тэатра-студыі кінаакцёра. На пачатку сходу на сцэне яшчэ заставаўся рэквізіт з нейкага спектакля: звісалі доўгія бруднаватыя занавескі і стаялі канапа, крэслы, тумбачкі...

Не дзіва, што час ад часу тут пачалі з'яўляцца акурат чэхаўскія героі: разгубленыя дзядзькі Вані, разважлівыя Астравы, прадпрымальныя Лапахіны. Першыя, у роспачы, даводзілі пра крызіс беларускага кінематографа, пра заняпад "Беларусьфільма", якому патрэбны добры гаспадар. Усмешлівыя Астравы казалі, што кінастудыя сканала ўжо пяць гадоў таму. Лапахіны сцвярджалі, што Беларусь ніколі не будзе кінадзяржавай, і каб зарабіць капейчыну на айчынным кіно, трэба патрапіць на расійскі кінарынак. Адпаведна чэхаўскай драматургіі, з'езд пертварыўся ў бясконцы дыялог: у пошуку ісціны кінематаграфісты спрачаліся адзін з адным, нават крыўдзілі, абражалі адзін аднаго. Асабліва дасталося ад іх намесніку міністра культуры Ю. Цвяткову — былому калегу, які цяпер курыруе кіно. Як сапраўдныя дзеці "партызанфільма", яны маўчалі да пары да часу. Ціхае, маўклівае існаванне змянілася хвалямі пратэсту, нечаканымі "выбухамі" (да пазачарговага з'езда падштурхнула адстаўка старшыні Беларускага саюза кінематаграфістаў Ігара Волчака). "Партызаны" мусілі забіць страшэннага Дракона — **абыякавасць** да лёсу нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм".

●

І забілі. Дакладней — забілі за іх (і таму — ці сапраўды забілі?). Нарэшце, на студыі з'явіўся гаспадар: новым генеральным дырэктарам "Беларусьфільма" стаў кінаінжынер, нядаўнішні кіраўнік аддзела кінавідэамастацтва Міністэрства культуры, а таксама Дзяржаўнага рэгістра па ліцэнзаванні кінавідэапрадукцыі Вячаслаў Шанько. (Як вядома, начальнікаў не выбіраюць, начальнікаў прызначаюць. Аднак у якасці альтэрнатывы нагадаю, што многія кінематаграфісты на месцы генеральнага дырэктара студыі планавалі ўбачыць першага сакратара БСК А. Шкадарэвіча, які нават склаў "Праграму рэканструкцыі творчай, вытворчай і камерцыйнай палітыкі кінастудыі "Беларусьфільм").

З практыкі вядома, што новы начальнік пачынае з "рэформы" ўласнага кабінета (хаця ёсць выпадкі, калі пачынаюць з рамонту мужчынскай прыбіральні). Аднак кабінет генеральнага дырэктара "Беларусьфільма" ўпрыгожыў яшчэ папярэдні яго гаспадар С. Лук'янчыкаў. Сапраўды: ну што можна "ўпрыгожыць" на кінастудыі, дзе цячэ дах, сыплецца тынк...

●

Планавалася, што прэм'ера фільма М. Пташука "У жніўні 1944" ("Момант ісціны") адбудзецца акурат 9 мая. Стужку паводле рамана У. Багамолава павінны былі паглядзець сотні ветэранаў. Аднак у дзень Перамогі былыя воіны савецкай арміі цешыліся парадам сельскагаспадарчай тэхнікі: прэм'еру "Моманту ісціны" адклалі да лепшых часоў.

Я сапраўды мела рацыю, калі патэлефанавала ў групу фільма і запыталася, калі ж **прыблізна** адбудзецца прэм'ера нашумелай стужкі. На другім канцы проваду, з усмешкаю, мне адказалі, што, прыблізна, 3 ліпеня — у Дзень вызвалення Мінска. Навошта было хлусіць журналісту, калі ўжо тады было вядома, што У. Багамолаў не даў згоду на карціну, што фільм цалкам яшчэ не "сабраны" (мантаж, як вядома, гэта карпатлівая "сборка" фільма), а М. Пташук нават плануе перарабіць пэўныя эпізоды (сёння ідзе агучанне стужкі).

Наогул пісаць пра "Момант ісціны" даволі небяспечная справа, у тым сэнсе, што журналіста могуць адразу назваць выдумлякай, маўляў, не чапай наш фільм, пра які нічога не ведаеш. А хто ведае, калі ў нашай краіне праўда можа быць хлуснёй, а хлусня — праўдай?

Памятаю, як забегла ў сакавіку на "Беларусьфільм". На першым паверсе курылі салдаты, апранутыя ў ваенную форму 40-х, гаманілі дзяўчаты, падобныя, калі меркаваць па ваенных фотаздымках, на маладых бабуль. На студыі лунаў дух ваеннага часу, спякотнага жніўня... Таксама памятаю, як летась М. Пташук паказваў мне павільён, дзе толькі будавалася дэкарацыя дома, макет драўлянага хлява, у якім будзе адбывацца адзін з галоўных эпізодаў фільма. Потым я ўбачыла дзесяткі каляровых фота з натурных здымак, па якіх у фантазіі склаўся цэласны фільм, па-за кадрамі якога застаўся расчырванелы на спякоце Пташук, стомленыя салдаты з масоўкі, запыленая ваенная тэхніка, усмешлівы акцёр Я. Міронаў.





Два гады таму, пасля здымак "Сібірскага цырульніка" М. Міхалкоў прызнаваўся: "Я хачу, каб з гэтай карціны ў нашым кіно пачалося хоць штосьці. Каб людзі зразумелі, што мы яшчэ ўмеем здымаць. З масоўкай, з шыкоўным гукам...". Для М. Міхалкова сапраўды многае пачалося з гэтага фільма: ён стаў старшынёй Саюза кінематаграфістаў Расіі — у рэжысёры, які займеў у 1998 годзе самы буйны кінапраект у Еўропе, калегі ўбачылі дзівоснага збаўцу ад жахаў кінакрызісу: ён стаў народным героем — "Сібірскі цырульнік" у Расіі паглядзела больш, чым "Тытанік", рэжысёр стаў самым услаўленым майстрам — за гэты фільм Міхалкова ўганаравалі Дзяржаўнай прэміяй.

А вось на М. Пташука сёння глядзіш з болем. Прынамсі, на юбілейнай вечарыне А. Дударава, *разам з якім рэжысёр даўно марыць паставіць "Вітаўта"*, высокі, моцнага целаскладу Пташук падаўся мне ледзь не карлікам: такі ён быў разгублены, ціхі, незаўважны сярод тэатральнага бамонду. Летась, рэжысёр прызнаваўся, што "Момант ісціны" — гэта страшэнна дарагая карціна. А вопытныя творцы павінны ведаць, чым даражэй мастацтва, тым менш яно свабоднае.

●

Таму самы услаўлены цяпер беларускі кінематаграфіст — гэта старшыня Беларускага саюза кінематаграфістаў, аператар Юрый Марухін. Летась на ІІ Нацыянальным фестывалі беларускіх фільмаў ён атрымаў спецыяльны прыз горада Брэста "За ўклад у нацыянальны кінематограф", а сёлета на "Залатым Віцязі" быў ўганараваны прызам Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі "За вернасць маральным ідэалам у кінамастацтве". Што гэта — традыцыя ўхваляць саміх сябе ці хвароба?

●

Прызнаю — яшчэ шмат у чым нам трэба вучыцца ў суседзяў-еўрапейцаў.

Гэта я зразумела пасля прэс-канферэнцыі з прадстаўніком Нацыянальнага камітэта кінематаграфіі Фінляндыі Кірсі Цюккюлайнен (кінаклуб "Элітарнае кіно" ладзіў паказ новага фінскага кіно).

У гэта цяжка паверыць, але штогод у Фінляндыі здымаецца дванаццаць поўнаметражных фільмаў. Дзесяць мільёнаў долараў, якія дзяржава выдзяляе на кінематограф, — грошы, з пункту гледжання развітой кінаіндустрыі, невялікія. Аднак фінскія кінематаграфісты ўзялі за мэту даказаць, што і за капейкі могуць здымаць добрае кіно. Прынамсі, спадарыня Цюккюлайнен падкрэсліла, што сёння фінскія рэжысёры шукаюць новыя формы, клапоцяцца, каб нацыянальнае кіно — а другога фіны не здымаюць — было шматвобразным, якасным, прафесійным. Новаму пакаленню кінематаграфістаў удаецца ісці ў нагу з часам, нават нягледзячы на тое, што ў Фінляндыі няма кінастудыі (адзначу, што Нацыянальны кінакамітэт цалкам спансіруе ўсе стадыі вытворчасці стужкі, адказнасць за якую нясе прадзюсер). І нацыянальным кіно не пагарджаюць: летась айчынныя фільмы паглядзела 25% гледачоў.

Наогул было цікава назіраць, як людзі розных культур, а хутчэй краін з розным палітычным укладам, імкнуліся зразумець адзін аднаго. Нашы кінематаграфісты, незалежныя кінакрытыкі перадусім запыталіся, ці існуе ў Фінляндыі цэнзура, уціск з боку тамтэйшага міністэрства культуры, праз якое ў фінскі кінакамітэт, юрыдычна самастой-

ную арганізацыю, трапляюць грошы. Фінка зразумела пытанне настолькі, наколькі магла яго зразумець. Спадарыня Цюккюлайнен адказала, што цэнзуры ніякай у Фінляндыі няма, што дзяржава зацікаўлена толькі ў якасці карцін, таму выдаткоўвае грошы нават на вельмі крытычныя, праблемныя фільмы, а што тычыцца Мінкульта, то ёй было б пажадана, каб чыноўнікі глядзелі айчынныя фільмы, неяк рэагавалі на іх. (Тут дазволю сабе лірычны адступ, каб адчуць, так бы мовіць, розніцу. Вось, напрыклад, як каменціраваў забарону дудараўскага “Прынца Мамабука” намеснік міністра культуры У. Рылатка: “Цэнзуры ў нас няма, і даўно, але я хацеў бы аддзяліць зерне ад пустазелля. Дзяржаўны тэатр, які на 80-90 працэнтаў дацíруецца з дзяржбюджэту, не можа не ўлічваць дзяржаўныя інтарэсы. Абавязак тэатра (ці кіно. — **В. Б.**) — быць выхавальнікам. Усяму ёсць мяжа. І сатыры таксама. Таму міністэрства не лічыць патрэбным фінансаваць малаэфектыўныя з пункту гледжання выхавальнай значнасці праекты” (цытуецца па газеце “Советская Белоруссия”).

А вось “Фінскі характар” (так называлася панарама фінскага кіно), спадары чыноўнікі, мае розныя рысы. Напрыклад, рэжысёр-патрыёт Акі Каурысмякі, які смяецца над Галівудам, робіць эксперыментальныя, праблемныя фільмы ў стылістыцы неарэалізму (стужка “Юха” ўяўляла з сябе чорна-белы нямы фільм, дзе ўзнімаецца гендэрная праблема, а “Дзяўчына з фабрыкі запалак” — няхітры аповед аб жыцці “маленькага чалавека”). Рэжысёр Вейка Аалтонен прыхільнік аўтарскага кіно: псіхалагічная драма “Pater Noster”, за якую ён быў уганараваны скандынаўскай прэміяй “Amanda”, распавядала аб няпростых узаемаадносінах бацькі і сына. А рэжысёру Міка Каурысмякі, напэўна, ніколі не прыйшло б у галаву, што з фільма “Россо” маглі б выразаць эпізод, у якім кілер-італьянец разам з фінскім юнаком спяваюць аднолькавую песню на розных мовах. Песня — італьянская, але фін чуў яе толькі на роднай мове, таму вымушае сябра спяваць “правільна” — па-фінску.

●

“Сёння мы хочам даведацца, хто мы такія — фіны, калі еўрапейцы, то якія мы”, — казала тады спадарыня Цюккюлайнен. Дарэчы, вызначыць гэта, толькі пра сваю нацыю, цяпер імкнуцца многія кінематаграфісты Еўропы. І сёння ў модзе — гістарычны фільм. Напрыклад, стужку “Пан Тадэвуш” польскі рэжысёр Анджэй Вайда рабіў у пошуку адказу на пытанне “хто ж яны, палякі, на самай справе?”. Рэжысёр лічыць, што грамадства, якое не мае жывой цікавасці да сваёй гісторыі, да свайго мінулага, — не больш чым сход выпадковых людзей... “На маю думку, сёння, калі ёсць імкненне стварыць сапраўды адзіную Еўропу, кожная краіна хоча ўнесці нешта сваё, нешта важнае. Такі фільм, як “Пан Тадэвуш”, можа адказаць на пытанні: хто мы такія, якімі мы жывём інтарэсамі, якія ў нас звычаі, якія нацыянальныя характары... Зварот да такіх твораў — спроба знайсці ўласную нацыянальную ідэнтычнасць” (цытуецца па газеце “Известия”).

Пасля поспеху нашумелага польскага фільма “Агнём і мячом” Е. Гофмана ўкраінскі рэжысёр Ю. Ільенка плануе зняць двухсерыйную стужку “Мазепа”. З украінскага боку на кінатвор пра Багдана Хмяльніцкага мусяць патраціць мільён долараў (сумесна з украінцамі фільм будуць таксама рабіць палякі, шведы, рускія). Сёння фільмы пра нацыянальных герояў на Украіне лічацца самымі важнымі, менавіта на іх грошы выдзяляюцца ў першую чаргу (плануецца каля трох мільёнаў штогод).

А нашы ігравікі толькі тады прыцягнуць увагу кінасвету, калі, нарэшце, паставяць якасны фільм пра Чарнобыль. Бо нават амерыканцы афрыканскага паходжання на пытанне, што вы ведаеце пра Беларусь, адказваюць — Чарнобыль. Ён — жудасная рэклама нашай краіны, за якой хаваюцца хваробы дзяцей, боль, смерць. Хочацца, каб людзі паглядзелі фільм і літаральна былі ашаломлены ўбачаным, як нядаўна былі ашаломлены гледачы новай стужкі Г. Панфілава “Раманавы. Венцаносная сям’я”, якую рэжысёр здымаў дзесяць гадоў.

А пакуль....

●

А пакуль, пераскокваючы з тралейбуса на тралейбус, я спяшалася на сустрэчу з І. Дабралюбавым, на сустрэчу-знаёмства, як вызначыў сам рэжысёр. Дзверы адчыніў невялікага росту, сівы чалавек, апрануты па-хатняму. Гутарылі ў яго рабочым кабінеце, у густым цыгарэтным дыме. Пакуль рабіла глыток кавы — аглядалася па баках: дзесяткі фотаздымкаў, дыпломы, узнагароды, газетныя выразкі. На самым вялікім здымку — настаўнік Дабралюбава рэжысёр М. Ром. Без дыктафона гутарка атрымоўвалася свабоднай: гаварылі больш пра Ахматаву, Бродскага, Таркоўскага, згадвалі біблейскія прытчы. Мне ж не цярпелася запытацца пра наш кінематограф. Нарэшце, пачула галоўнае: І. Дабралюбаў па-ранейшаму лічыць нашу краіну рэспублікай “мёртвага кіно”.

●

Мёртвага? Калі верыць афіцыйным звесткам, то ў 2000 годзе ў параўнанні з 1999 годам у 2,3 раза павялічана дзяржфінансаванне беларускага кіно. Днямі скончыла здымаць “Зорку Венеру” (сцэнарый В. Казько) рэжысёр М. Касымава, а хутка “запусціцца” з лірычнай камедыяй “Павадыр” А. Яфрэмаў.

Папярэдняя стужка М. Касымавай “Маленькі баец” была не самай удалай. А здымаць працяг кепскай карціны (як хацелася рэжысёрцы) — гэта дзівацтва. Стужка “Зорка Венера” як быццам надзённая — пра наркаманію. Аднак, прачытаўшы рэжысёрскі сцэнарый фільма, я адчула лёгкае расчараванне. Страшней за ўсё, калі рэжысёр пачынае выдумляць кіно, ствараючы на экране жыццё, ніводнаму эпізоду якога потым не паверыш. Прабачце, але я не веру, што злачынцы, якія прадаюць дзецям наркотыкі, спужаюцца сабакі, які пачне абараняць свайго гаспадара. Я не веру, што ў нашай вёсцы падлетка-наркамана, які па начах шукае мак, будуць выратоўваць абразамі. Многія вяскоўцы самі — і гэта праўда — п’юць гарэлку да “глюкаў”. Нават дзеці ў М. Касымавай нейкія міфічныя. Звычайны школьнік так добра класічную літаратуру не ведае, каб па добрай волі цытаваць сябрам вершы Пушкіна.

...На сакавіцкім з’ездзе кінематаграфістаў казалі, што трэба вельмі прадумана выдаткоўваць грошы на кіно, даваць толькі на самыя ўдалыя праекты. Як вядома, ужо па сцэнарыі відаць, ці атрымаецца стужка. Нездарма намеснік дырэктара кампаніі “Юніфранс” па Усходняй Еўропе, адзін з адборшчыкаў фільмаў для Канскага фестывалю Жоэль Шапрон лічыць, што крызіс, напрыклад, расійскага кіно — на стадыі сцэнарыяў. “Бунюэль перарабляў сцэнарыі па шэсць разоў — а ў вас уяўляюць, што ўсе можна давесці да кандыцыі ўжо на здымках. І самыя цудоўныя гісторыі рассыпаюцца” (цытуецца па газеце “Известия”).

Як вядома, разумныя людзі вучацца на чужых памылках. Мы не вучымся нават на сваіх. Няўжо немагчыма было ўважліва прачытаць сцэнарый?!

●

Дарэчы, у масоўцы фільма Касымавай быў заўважаны наш “малады” рэжысёр А. Колбышаў. Калісьці ён скончыў акцёрскае аддзяленне Кіеўскага тэатральнага інстытута, потым рэжысёрскі фалькутэт БелАМА. Аднак саракагадовы рэжысёр (сорак яму споўніцца якраз у верасні) зняў толькі некалькі кароткаметражных ігравых стужак. У бясконцым чаканні поўнаметражнага праекта, напэўна, успомніў сваё акцёрскае мінулае.

...Гартаю каталог “Беларускае кіно: маладыя рэжысёры”, які на некалькі дзён пазычала мне “малады” рэжысёр А. Трафіменка. Дзесяткі прозвішчаў. На слыху ж тыя, каму пашчасціла здымаць: В. Марчанкава, А. Трафіменка, І. Чацверыкоў, А. Ганчаронак, Р. Грыцкова, І. Волах, А. Колбышаў, А. Кудзіненка, А. Войніч (з ігравікоў); С. Галавецкі, Г. Адамовіч, В. Аслюк, К. Анціпенка, Ю. Азаронак, І. Васільева (з дакументалістаў); А. Турава, М. Карпава, А. Ленкін, В. Рыбіна, В. Цітова (з аніматараў). Я спецыяльна пералічваю прозвішчы, бо іх “мало — юных, окрыленных, не задохнувшихся в пыли...” Хаця, што “юных” — гэта не дакладна, бо сярэдні ўзрост “маладых” кінематаграфістаў — 30-35 гадоў. І большасць з іх сёння літаральна змагаецца за выжыванне. Некаторыя, каб не страціць, так бы мовіць, форму, бяруцца за любыя праекты: прынамсі, серыял “Хуткая дапамога” рабілі нашы “маладыя” рэжысёры. Іншыя глытаюць “чыстае паветра” на міжнародных фестывалях, нават спрабуюць перапісвацца з мэтрамі сусветнага кіно (і — атрымліваюць ад іх лісты). Ім проста неабходна здымаць: такім розным рэжысёрам, як А. Колбышаў ды А. Кудзіненка (ці дачакаемся іх поўнаметражных стужак). Памятаю, тады на сустрэчы І. Дабралюбаў сказаў, што для нашых дэбютантаў важна іх другая карціна. А колькі будуць здымаць дакументальныя кароткаметражкі В. Аслюк і Г. Адамовіч?! Гэтыя рэжысёры заслугоўваюць поўнаметражных карцін. У рэшце рэшт, хто не рызыкуе, той не здымае кіно.

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

*На здымках: М. ПТАШУК у жніўні 1999 — ідуць здымкі фільма; кадр з кінастужкі “Зорка Венера”.*

*Фота А. ДЗМІТРЫЕВА*

ВІНШУЕМ!

# Тая, што расчыняе дзверы “Брамы”

## ДА 50-годдзя МАСТАЦТВАЗНАЎЦЫ І ЭКСПАДЫЗАЙНЕРА Ларысы ФІНКЕЛЬШТЭЙН

***...Мастацтвазнаўцы***
***ведаюць сакрэты.***
***Яны — дасведчаныя мастакі,***
***Халодным сонцам***
***творчасці сагрэтыя,***
***не просяцца***
**да славы ў сваякі...**



Гэтыя прасякнутыя мудрасцю радкі Рыгора Барадуліна, канешне ж, будуюцца і на вялікім вопыце і на глыбокім разуменні мастацтва. А прысвечаны яны мастацтвазнаўцу Ларысе Давыдаўне Фінкельштэйн.

...Толькі назваў імя і ў той жа момант памяць паслужліва падказала процьму эпізодаў з нашага мастакоўскага жыцця, у якіх прымала актыўны ўдзел (інакш яна проста не можа!) гэтая жвавая жанчына, з вялікімі, заўсёды гатовымі да здзіўлення, блакітнымі вачыма.

...Самы ранні ўспамін тычыцца перыяду больш чым чвэрцьвяковай даўніны. Месца дзеяння — новы тады Палац мастацтваў, дзе Саюз мастакоў вырашыў наладзіць творчую вучобу для мастакоў.

Пасяджэнні, па плану кіраўніцтва, спалучалі ў сабе інфармацыю з ідэалагічнай “загартоўкай”. І што характэрна — у гэтых “нарадах” удзельнічалі і сакратары саюза, і знакамітыя мастакі і заслужаныя і народныя. Праўду кажучы, трэба адзначыць, што ў такой форме выяўлялася прага мастакоў (і навукоўцаў, і іншых прадстаўнікоў інтэлігенцыі) да дыскусіі, вольнага абмену думкамі. Хаця ўсе на падсвядомым узроўні добра разумелі, чым могуць скончыцца “нарады”, нават у адносна “спакойныя” брэжнеўскія гады.

І ўсё ж, была спакуса выказацца — і многія, нечакана для саміх сябе, “увальваліся” ў спрэчкі.

Напрыклад, мне памятаецца напружаны твар маладога Барыса Заборава.

Гэта потым ён з’ехаў у Парыж, стаў вядомым у Францыі мастаком. А колькі іх, маладых, знікла назаўсёды бясследна...

А запрашала ўсіх у Палац мастацтваў, стымулявала да выказвання думак пра жыццё і мастацтва, да стварэння неверагодных планаў і праектаў Ларыса Фінкельштэйн.

Калі выказаць сутнасць чалавека адным словам, то для Ларысы Фінкельштэйн гэта — апантанасць.

Яна ўся апантаная і жыццём, і мастацтвам. І такая спрытная на ўсялякія “шалёныя” праекты, такая смелая ў іх ажыццяўленні.

Маладыя мастакі дакладна ведалі, што ў Палацы мастацтваў ёсць “свой чалавек”. Яна не даруе нікому нават з высокага начальства, калі яно (як звычайна і было) паспрабуе ігнараваць дасягненні пачаткоўцаў.

Канешне, начальству не магла падабацца такая канструктыўная дзейнасць маладога адукаванага (нагадаем, што Ларыса скончыла гістарычны факультэт БДУ з падвышаным вывучэннем мастацтва) мастацтвазнаўцы. І зразумела, уся адкрытая пазіцыя шукальніка новага ў мастацтве, пазіцыя імкнення заўсёды мець свой пункт гледжання на стратэгію выставачных мерапрыемстваў. Згадаем, што ў большасці мастакоў адзінай рэальнай магчымасцю выйсці на сустрэчу з гледачом тады быў удзел у так званых “тэматычных” выставах, скажам, да Дня Перамогі, альбо ў сувязі з Першамаем, гадавінай Кастрычніка.

Праблему ўдзелу вырашала дырэкцыя палаца разам з прадстаўнікамі кіраўніцтва Саюза мастакоў. І шмат мастакоў (больш за ўсё, канешне, гэта тычылася маладых) заставалася за межамі запрошаных на выставу. Трэба было бачыць Ларысу Фінкельштэйн пасля пасяджэнняў падобных “выстаўкамаў”, чуць, што яна гаворыць у запале (часам, адчувалася, што яна заўсёды “на ўзводзе”, аніяк не можа выйсці са становішча “перманентнай” абароны). Маладым мастакам патрабавалася абарона і яны маглі яе атрымаць толькі з боку Ларысы Фінкельштэйн, а некаторыя змаглі “выжыць” літаральна толькі дзякуючы яе актыўнаму, баявому характару.

Між тым, над самой Ларысай паступова згушчаліся хмары.

Узаемнае непаразуменне паміж Ларысай і начальствам нарастала. Скончылася ўсё гэта “ліквідацыяй” прадпрыемства дырэкцыі выставаў Саюза мастакоў Беларусі. На яго месцы з’явілася новая рэспубліканская мастацкая галерэя з іншым штатам...

А Ларыса Фінкельштэйн заснавала першую ў рэспубліцы мастацкую галерэю і назвала яе “Брама”. Галерэя азначыла новы перыяд яе творчасці як стваральніцы, перыяд ужо прачутага на якасна іншым узроўні, прадуманага, канцэптуальнага падыходу да мастацтва.

І адначасова, стварэнне гэтай галерэі, зразумела, азначала адкрыццё новых магчымасцяў для дэманстрацыі беларускай выяўленчай культуры.

Да таго ж, з самага пачатку свайго стварэння “Брама” была заяўлена як некамерцыйная аўтарская канцэптуальная галерэя. Стрыжнем канцэпцыі з’яўлялася ўзаемадзеянне дэкаратыўнага і станковага мастацтваў.

З маніфеста, які быў абвешчаны арт-дырэктарам галерэі Л. Фінкельштэйн на пачатку 90-х, выцякала:

...”Брама” збірае калекцыю як зрэз айчыннага (а па магчымасці і сусветнага) пластычнага мастацтва розных відаў і жанраў напрыканцы XX ст. (а калі пашанцуе і пачатку XXI ст.).

...”Брама” стварае тэматычныя экспазіцыі да тэатральных спектакляў, канцэртных праграм, прэзентацый, канферэнцый...

...”Брама” бачыць сябе Беларускай Айчыннай Рамай, асновай, у якую, як у габелене, уплятаюцца ніткі, і яна аб’ядноўвае гэтую цэласную карціну сучаснага мастацтва.

...”Брама” можа быць усталявана на кожнай умоўна ўзятай мяжы: паміж відамі мастацтваў, паміж краінамі і кантынентамі, паміж стылямі і часамі ў мастацтве, каб адчыніць яе...

І сапраўды, як памятаецца з аднаго з першых з’яўленняў “Брамы” — выставы, якая называлася “духоўная прастора інтэр’ера”, галерэя прыцягнула да сябе ўвагу нетрадыцыйным, свежым падыходам да мастацтва.

У ёй, дзе б яна ні была размешчана (галерэя не мае пастаяннага месцазнаходжання), заўсёды панаваў дух вольнага сумеснага і індывідуальнага роздуму, дух акрыляльнага далучэння да мастацтва.

Лёс кожнай выставы “Брамы” быў няпросты, бо залежаў ад чужых, не заўсёды прыстасаваных памяшканняў, ад іх гаспадароў, ад не заўжды адказных кіраўнікоў фестываляў, імпрэз...

Але ўсе выставы вызначаліся тонкім густам складальніцы экспазіцыі. І гэта вызначальная рыса галерэі праяўлялася на любым месцы, дзе адбывалася выстава: у Доме дружбы, у Палацы мастацтваў, на фэсце альбо ў тэатральным памяшканні.

І сапраўды, дзе яны толькі ні былі: і на фестывалі жаночага кіно,і ў незабыўным, сканаўшым Альтэрнатыўным тэатры, і ў Доме прыроды, і ў Доме дружбы, у Нацыянальнай бібліятэцы. І такія розныя мастакі выстаўляліся ў “Браме”; і такія розныя рэчы — і жывапіс, і габелен, і графіка, і кераміка, і інсталяцыі.

А яшчэ быў удзел у Рэспубліканскім выставачным цэнтры ў Мінску (у рамках “Інтэрдызайн” 96 і 97 гг.) і ў Маскве (у Манежы і Цэнтральным доме мастака)...

Але калі згадваем іх — гэтыя выставы, — над усім лунае адухоўлены твар іх стваральніцы.

...Ідуць гады. Апошнім часам Ларыса заняла, можна сказаць, заваявала высокае месца на мастакоўскім Алімпе. Яна вядзе пастаянную рубрыку “Квартал мастакоў” у праграме “Пастфактум” Беларускага радыё і ўжо амаль 5 год рубрыку “З мінулага і сучаснага айчыннага мастацтва” ў часопісе “Асновы мастацтва”. Яна дацэнт кафедры мастацтва Інстытута сучасных ведаў, сябра Беларускага саюза дызайнераў, Беларускага саюза літаратурна-мастацкіх крытыкаў, Міжнароднай асацыяцыі мастацтвазнаўцаў.

І калі любы малады мастак загаворыць у яе прысутнасці аб мастацтве, яна ўся на вачах загараецца і быццам, проста юнацкі агонь натхнення, запаўняе ўсю атмасферу навокал...

***...Мастацтвазнаўцы***
***Слухаць фарбы рады.***
***Ім цёплы новы снег***
***і новы лёд.***
***У чэрствы дол унурыўшы***
***пагляды,***
***палітру неба бачаць навылёт.***

**Вадзім САЛЕЕЎ,**
**доктар філасофскіх навук, віцэ-прэзідэнт Беларускай эстэтычнай асацыяцыі, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь**





## Першы беларус у Аўстраліі

І ведаеце, хто ім быў? Ураджэнец Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы Ксаверы Карніцкі. Але перш чым трапіць на гэты далёкі мацярык, К. Карніцкі на працягу пятнаццаці гадоў жыў у Паўднёвай Амерыцы. Больш за ўсё ў Чылі. І наведваў нават знакаміты востраў Вялікадня, які па сённяшні дзень выклікае столькі загадак у вучоных усяго свету. Хутчэй за ўсё К. Карніцкі займаўся і кітабойным промыслам. Несумненна, калі гэта і на самай справе так, і тут яго з беларусаў ніхто не апярэдзіў. Шкада, праўда, што дакументальных пацвярджэнняў гэтаму няма. Хоць К. Карніцкі і паклапаціўся, каб збольшага занатаваць свой жыццяпіс, але яго асабісты дзённік знішчаны ў гады другой сусветнай вайны. Аднак можна сказаць пэўна, што ў Аўстралію К. Карніцкі прыехаў у 1790 годзе. Затрымаўся так ненадоўга. У наступным годзе праз Індыйскі акіян, а потым вакол Афрыкі прыплыў у Еўропу, у порт Марсель у Францыі. Памёр К. Карніцкі ў 1801 годзе ў Шэрбуры (Францыя). Чым займаўся апошнія гады — таксама невядома. Як невядома дакладна і месца нараджэння нястомлівага падарожніка. Але родам К. Карніцкі з Навагрудскага ваяводства. А нарадзіўся 250 гадоў назад, 13 жніўня 1750 года.

## Ён — нас, мы — яго

Споўнілася 80 гадоў з дня нараджэння польскага пісьменніка, перакладчыка беларускай літаратуры Ігара Сікірыцкага (памёр 2 студзеня 1985 года). Нарадзіўся ён у горадзе Брэсце, жыў і працаваў у Лодзі, на радыё, у тэатры сатыры і гумару "Арлекін". Друкаваўся пачаў у 1944 годзе. Вядомы як паэт, празаік, дзіцячы пісьменнік, аўтар многіх кніг. На польскую мову пераклаў асобныя вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Аркадзя Куляшова, Уладзіміра Жылкі, Міколы Аўрамчыка. З'яўляецца укладальнікам, аўтарам прадмовы і перакладчыкам многіх твораў у кнізе "Выбраныя вершы" Максіма Танка, што выйшла па-польску ў 1974 годзе. Сам жа І. Сікірыцкі загаварыў па-беларуску дзякуючы Максіму Танку, Рыгору Барадуліну і Нілу Гілевічу.

## Шукаючы сябе...

Мікалай Арахоўскі не дажыў да свайго 50-годдзя тры гады: не стала Мікалая Аляксандравіча ў 1997 годзе. Жыццё яго не песціла. Нарадзіўся ў вёсцы Сялец Бярозаўскага раёна. Скончыўшы дзевяць класаў мясцовай сярэдняй школы, вучыўся ў Мінскім мастацкім вучылішчы, служыў у арміі, працаваў на розных работах. У 1974 годзе паступіў у Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Здавалася б, блізка да ажыццяўлення мары, але ў выніку няшчаснага выпадку ў 1977 годзе быў паралізаваны. Духоўную аддушыну знаходзіў у літаратуры. І сам узяўся за пяро. Пачынаў з п'ес для лялечных тэатраў. Адна з іх — "Калі дракон прачнуўся" — выконвалася па радыё. Друкаваўся М. Арахоўскі з 1979 года. Пісаў апавяданні, артыкулы, а прызванне знайшоў у драматургіі. Яго драма "Напярэдадні" была пастаўлена Бярозаўскім народным тэатрам, выконвалася па радыё. Трагікамедыя "Машэка" знайшла ўвасабленне на сцэне Брэсцкага абласнога тэатра драмы. Паводле яе была створана тэлепастаноўка. П'есай "Ку-ку" зацікавіўся тэатр-лабараторыя беларускай драматургіі "Вольная сцэна". Гэты твор М. Арахоўскага быў адзначаны 1-й прэміяй на Рэспубліканскім конкурсе драматургіі.

## "Мастацтва", № 6

Да 80-годдзя Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы прымеркавана публікацыя гутарак А. Ахметшына з Г. Аўсяннікавым ("Поспех вызначае "інтэлігентны глядач") і А. Лабушам ("Хачу зрабіцца акцёрам"). Змешчаны артыкулы Алены Яскевіч "Традыцыі "залатога веку" старабеларускай культуры", А. Шамрук "Пра што думае А. С. Пушкін на беразе Свіслачы?", М. Жбанкова "Кінематограф масавы і элітарны", Ю. Барысевіча "Камунікацыйная рэвалюцыя", Р. Раманава "Чарэйскія святыні", У. Рынкевіча "Акварэлі А. Астаповіча", Я. Ленсу "Зорка сімвалізуе... месяц", Д. Стэльмах "Не вер вачам сваім, або Запомніце іх імёны". С. Нямцова ("Слоўнікавых выданняў пабольшала") узяла інтэрв'ю ў аднаго з удзельнікаў аўтарскага калектыву "Беларуска-рускага і руска-беларускага музычнага слоўніка" Н. Юнчанкі. Н. Ганул ("Шчасце — быць запатрабаваным") сустрэлася з дырэктарам ансамбля "Бліскавіца" І. Канавальчык. А. Шамрук ("Калі святло становіцца пасланнем") расказвае пра мастака М. Басава. Ёсць у нумары падборкі матэрыялаў "Дыскаграфія", "Хроніка мастацкага жыцця", "Старонкі календара: ліпень 2000".

"ЛіМ"-ФОТА



Аднадумцы

Элем КЛІМАЎ і Алесь АДАМОВІЧ.

Фота Я. КОКТЫША.

ФЕСТЫВАЛІ

# Польскія прыгоды "Ліцвіноў"

Першы ліцвіноўскі Live-action я ўбачыў на канцэрце-прэзентацыі першага альбома гурта "Галуб на чарзшні, галубка на вішні" (1992). Гэта сапраўды было круцей за многія рок-шоу: дыхтоўныя строі, мажная пастава музыкаў, еўрапейскі гук беларускай дуды і цымбалаў, а праз усё гэта — сапраўдная глыбіня разумення народных песень, якія яны выконвалі.

Пазней, калі на радыё "Liberty" я вёў беларускі хіт-парад, зноў гэтак жа нечакана пераканаўся, што фальклор у такім дыхтоўным выглядзе можа канкураваць з любымі рок-зоркамі нават у маладзёжным асяроддзі, бо мае надзвычай моцны эмацыйны і духовы патэнцыял. Першым супер-гітам, які ад "Ліцвіноў" трапіў у гіт-парад, была песня "Туман ярам" (люты, 1993 г.), а па выхадзе другога альбома калектыву ("Неба і земля", 1994) гэтая традыцыя была падоўжана аж да лідэрства ў гарачай беларускай дзесятцы.

Няцяжка заўважыць, што кіраўнік гэтага фальклорнага калектыву Уладзімір Бярбераў дасканала засвоў самыя перадавыя прынцыпы менеджменту і прамоцыі сучаснага шоу-бізнесу: рэгулярны выхад альбомаў (а былі ж яшчэ "Пятае сакавіка", 1996; "Ой, у лузе-лузе...", 1998), удзел у радыё-гіт-парадах, арганізацыя канцэртаў-прэзентацый.

Ці варта здзіўляцца, што "Ліцвіны", засвоіўшы прынцыпы сусветнага шоу-бізнесу, неўзабаве і самі ўвайшлі ў ягоныя структуры. Найбольш прыкметная заваёва тут — запіс некальвіх трэкаў для амерыканскай фірмы "Ellypsis Arts", той самай, дзе сусветнавядомы Джон Андэрсан з гурта "Yes" запісваў свой альбом "Earth Mother Earth".

Хтосьці можа назваць гэта чыста выпадковым поспехам, але мне асабіста давялося пераканацца ў заканамернасці развіцця падзей, калі ў ліпені г.г. я атрымаў запрашэнне прыняць удзел у польскім туры гурта "Ліцвіны". А іх запрасіла міжнародная арганізацыя "Folk Art Agency".

Пачнем з таго, што лох, атрымаўшы такое запрашэнне, узяў бы чамадан і паехаў. Уладзімір Бярбераў жа напазычаў грошай і з дапамогай лэйбла "БМAgroup" зрабіў фірмовы наклад свайго апошняга CD-альбома "Ой, у лузе-лузе...". Польскі тур меўся стаць прэзентацыйным для новага праекта, на які не адважваюцца нават раскручаныя рок-каманды, цікаючы свао "мас-культуру" на самаробных CD-R копіях. Маўляў, а ці пойдзе ў Беларусі свой мас-прадукт? Забягаючы наперад зазначым, што к канцу тура У. Бярбераў меў падставы гаварыць ужо аб скасаванні толькі часткі доўгу. Так што хлусня, што беларуская музыка не здольна акупіць затраты на сябе. Фольк-аўтэнтык-гурт "Ліцвіны" асабіста пераканаў у гэтым, заключыўшы пагадненні аб продажы сваіх альбомаў з гандлёвымі фірмамі Варшавы, Беластока, Вроцлава. Адкуль жа там попыт на такую прадукцыю? Ды якасна выступаць часцей трэба ў культурных (і багатых) цэнтрах.

Раней "Ліцвіны" паказвалі сваё мастацтва палякам у Лодзі, Варшаве, Беластоку, Нарве, Чарэмшы. Пачыналі, натуральна, з рэгіёнаў са значным беларускім элементам. Запісваліся там на тэлебачанні.

І вось у ліпені міжнародная арганізацыя "Folk Art Agency" запрасіла "Ліцвіноў" прыняць удзел у грандыёзным фальклорным фэсце (16—22. VII. 2000), які праходзіў у рамках святкавання 1000-годдзя горада Вроцлава. Прычым беларускі калектыў атрымаў гонар звацца хэдлайнерам спіса запрошаных сусветных славутасцей (а далей ішлі "Kusztarowcy" з Славакіі, "Kuzmir" з Турцыі, "Syrbacy" з Польшчы, "Affairs" з Нямеччыны і г.д.).

З-за звыклых для нас памежных праблемаў (шматсутачныя чэргі, каб пераадолець якія, трэба ледзь не па ўсім памежным перыметры, шукаць адказнае начальства) мы прыбылі ў Вроцлаў акурат апоўначы, напярэдадні дня выступу. Здавалася, ніхто нас ужо не сустрэне. Але сам старшыня FAA Марэк Каім арганізаваў для нашага "KIAmotors" эскорт да месца збору творчай інтэлігенцыі Вроцлава — кафэ-клуба "OKIS".

І гэта была не проста кармёжка з дарогі. Гэта быў першы дзень плённых творчых сустрэч. Акурат напярэдадні на прэстыжнай фестывальнай сцэне ля замка на Выспе Слодовэй выступаў славуты ўкраінскі гурт з Кракава "Дзэркало", які агучваў бліскучы фільм Ежы Гофмана "Агнём і мячом", вядомы ўжо і ў Галівудзе. Развітальная імпрэза "Дзэркала" ў "OKISe" якраз і супала з прыездам "Ліцвіноў". Яны недзе чулі ўжо пра беларускі калектыў і з прыемнасцю саступілі порцыю глядацкай увагі беларусам.

Акапэльнае пяянне Уладзіміра Бярберава і ягоных таленавітых дзяўчат Надзеі Драковіч, Вольгі Ліннік, Веры Яршовай не на жарт узрушыла прысутных. Там-сям чуваць былі захопленыя воклічы: "Гэта проста цуд!!!" Веру Яршову пажадалі нават асобна паслухаць сола.

Лідэр гурта "Дзэркало" прапанаваў нават абмяняцца кампакт-дыскамі сваіх калектываў, каб замацаваць і гэтыя бліскучыя ўражанні, і больш трывалыя на будучыню. Бадай, неўзабаве дыхтоўны "ліцвіноўскі" альбом "Ой, у лузе-лузе..." будзе слухаць у Галівудзе сам Ежы Гофман, а мінчукі цяпер ацэньваюць CD "Зэлэна Україна" з музыкай да яго фільма "Агнём і мячом".

Засялілі беларускіх музыкаў у адзін з лепшых гатэляў Вроцлава "Шлёнск", дзе яны маглі адсыпацца, адпачываць і сілкавацца хоць да абеду наступнага дня. А 15-й гадзіне пачынаўся выступ "Ліцвіноў" на Выспе Слодовэй.

Я размясціўся ля музычнага кіёска паблізу сцэны, адкуль мог назіраць і за ўразлівым шоу, і за камерцыйным попытам на нашую прадукцыю.

У гадзінную праграму выступу "Ліцвіноў" на гэтай імпрэзе ўваходзілі і знакамітыя ізхнія трэкі з апошніх альбомаў "Польскі марш", "Обэрэк", "Літоўскі вальс", "Кракавяк" (здаўна папулярныя ў Беларусі), якія знаходзілі жывы водгук у польскай аўдыторыі, і проста экзатычныя для тамтэйшай публікі творы "Ой, дубе мой, дубе", "Грозныя тучкі", "Да было ў Юр'я", якія прывабілі або арыгінальнасцю басавай партыі вакалу самога Уладзіміра Бярберава, або мажнымі еўрапейскімі гукамі ягонай дуды, або проста віртуозным майстэрствам цымбалісткі Марыны Калечыц. Пра апошнюю, зрэшты, крыху пазней.

А ўвогуле першы ўздых захаплення сярод публікі ў пачуў яшчэ перад першымі гукамі музыкі "Ліцвіноў", як толькі музыканты выйшлі на сцэну: дыхтоўныя аўтэнтычныя строі дзевяцісасбовага калектыву, годная пастава на сцэне, а потым і змястоўная музыка не маглі не ўразіць шчырага гледача. Сярод публікі пранеслася пагалоска: "Fajnie ruskie bleda spieuac!" Я паспрабаваў удакладніць адну з рэплікантаў: "Дык гэта ж не рускія, а беларускі калектыў", на што атрымаў просты адказ:

— Ja i nie mowia, ze moskalie. Ruskie!

Не магу сабе ўявіць, каб наша моладзь, захопленая чужым фальклорам, пацягнулася да музычных ятак, а палякі пацягнуліся, вышукваючы і "тыя piosenki, што толькі цяпер гучалі", і ўзоры дахрысціянскага фальклору ранніх "Ліцвіноў", і выданні канцэртных праграм беларускага калектыву, а больш дасведчаныя раіліся, якія творы ад "Ліцвіноў" апынуліся на славутым амерыканскім альбоме 3 CD "Und Locked", і — раскупілі другі студыйнік "Неба і зе́мля".

Жывую рэакцыю публікі заўважылі і арганізатары імпрэзы. А мо і самі былі захопленыя. Ва ўсялякім разе "Ліцвіны" аказаліся адным з тых нямногіх удзельнікаў фэсту, якія былі запрошаны на незапланаваныя папярэдне клубныя канцэрты. Учора такога гонару ўдастоіўся ўкраінскі "Дзэркало", а гэтым разам нашы "Ліцвіны" і славацкі фальклорны гурт "Kusztarowcy".

І вось на гэтым другім канцэрце ў клубе творчай інтэлігенцыі "OKIS" надзвычай уразліва праявілі сябе інструменталісткі "Ліцвіноў". Скрыпачцы Вользе Сягла польскія калегі-музыканты нават у каханні потым прызнаваліся. Але асабліва зваліла ўсіх з катушак цымбалістка Марына Калечыц.

У праграму клубнага канцэрта быў уключаны абыдзены раней цымбальны гіт "Саўка ды Грышка". Публіка проста ў здранцвенні слухала яго, зачараваная грацыёзнай гармоніяй пластыкі і гукаў інструмента Марыны Калечыц, якая нібы злівалася ў нешта адзінае з сваімі цымбаламі, выягваючы з іх шквал інтэнсіўных гукаў, якія шыхтаваліся ў бездакорную мелодыю. А мне асабіста кінулася ў вушы яшчэ і тое, што цымбалы лепш гучаць у жывым акустычным варыянце, чым у электрычнай версіі на вялікай сцэне (хоць, зрэшты, грэх было скардзіцца на Выспе Слодовэй, бо цудам гукаўзмацняльная тэхніка фірмы "Yamaha" мае нейкія хібы).

Фестываль скончыўся, пакінуўшы ў душах палякаў запамінальныя ўражанні аб жывой энергетыцы культуры прыхаванага раней для іх народа Еўропы — беларусаў, а нашым музыкам падарыўшы і веру ў запатрабаванасць іхняе працы, і запамінальныя сустрэчы з выдатнымі дзеячамі культуры — Алэсем Андрыеўскім, украінскім музыкам з Кракава; Тадэвушам Конадорам, польскім прадзюсерам і музыколагам з Варшавы; Марэкам Каімам, польскім музычным менеджэрам з Вроцлава ды іншымі. А яшчэ ён падарыў цудоўную магчымасць далейшых творчых кантактаў.

На наступны дзень, па абедзе, утульны "KIAmotors" рушыў з уражанымі плённай паездкай музыкамі дадому. Але і гэта былі не ўсе ўражанні. Недзе пасля Варшавы, ля мястэчка Рудкі наш транспарт вымушаны быў зрабіць тэхнічны прыпынак у адным з мэтэляў. Музыкі вырашылі адпачыць у бары і, так ужо здарылася, прафесійнае адчуванне рытму дазволіла "ліцвіноўскаму" бубначу Вадзіму Шамянкову, акардэаністу Юзафу Міхайлоўскаму, дзяўчатам і дудару Уладзю Бярберава ўразіць прысутных сваімі танцамі ў дыскатэцы. Удзячны гаспадар прапанаваў ім піва за свой кошт. А калі Бярбераў на такую шчырасць вырашыў адказаць адэкватна ды падарыў гаспадару апошні альбом "Ліцвіноў", дык мала таго, што той адразу загучаў у танцзале, але ж і прысутныя кінуліся частаваць півам усіх беларускіх музыкаў. І гэта працягвалася доўга, аж да элегантных польскіх пацалункаў ручкі "ліцвіноўскім" дамам.

Мы везлі дадому незабыўныя ўражанні ад цёплых польскіх сустрэч, але ж і ў Польшчы дзякуючы "Ліцвінам" застаюцца ўразлівы кавалак жывой Беларусі.

**Вітаўт МАРТЫНЕНКА**

# Яны спаткаліся, каб не расстацца

## ГІСТОРЫЯ КАХАННЯ Марыі КАМЕНСКАЙ і Якуба КОЛАСА

КАНСТАНЦІН Міцкевіч мо не стаў бы Якубам Коласам, класікам беларускай літаратуры, калі б побач з ім не было разумнай, чулай, далікатнай, клапатлівай жанчыны — спадарожніцы яго жыцця Марыі Дзмітраўны Каменскай. Іх каханне было сапраўдным, яно саграваліа ім сэрцы доўгія дзесяткі гадоў. Раслі дзеці, мяняліся часы, з'яўляліся і адыходзілі сябры, а высакароднае пачуццё заставалася ранейшым, не гаснучы, а разгараючыся ўсё ярчэй. Дзякуючы яму лягчэй удавалася перанесці розныя нягоды і выпрабаванні лёсу, не вельмі ласкавага да сям'і Міцкевічаў. Але мiналася благое, надыходзілі радасныя падзеі, забывалася непрыемнае і горкае. З гадамі саюз рабіўся мацнейшым; яго вынікамі сталі не толькі трывалая дружная сям'я, у якой кожны чалавек быў асобай і талентам, але і — самае галоўнае — мноства геніяльных твораў, напісаных Якубам Коласам менавіта дзеля яе, у імя яе, яго каханай музы Марыі Дзмітраўны.

Аб акалічнасцях біяграфіі Марыі Каменскай, абставінах яе знаёмства з Канстанцінам Міцкевічам, будучым знакамітым пісьменнікам, падрабязнасцях іх сумеснага жыцця мне расказалі і дапамаглі знайсці патрэбную літаратуру нашчадкі песняра: Вера Данілаўна Міцкевіч, унучка, і стрыечны пляменнік Канстанцін Аляксандравіч Самахвал. Многа цікавых звестак адшукала таксама ў кнізе Данілы Канстанцінавіча, сына Якуба Коласа, выдадзенай зусім нядаўна пад назвай "Любіць і помніць". У літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа, у якім працуе Вера Міцкевіч, ёсць матэрыялы пра многія не зусім вядомыя шырокай публіцы старонкі жыцця і творчасці нашага песняра.

Марыя Каменская нарадзілася 7 лютага 1891 года ў Ашмянах у сям'і праваслаўнага псаломшчыка. Яе бацька быў рускім і паходзіў з Яраслаўля, маці мела нямецкія карані. У Каменскіх было пяцёра сыноў і дзве дачкі, адна з якіх трагічна загінула ў маладосці. Усё сваё свядомае жыццё Марыя Дзмітраўна потым шкадавала, што ў яе няма ні сясцёр, ні дачок. Таму ў яе дома, калі яна ўжо выйшла замуж, часта надоўга заставаліся гасцяваць выхаванкі-дзяўчаткі: пляменніцы, дзеці знаёмых. З маленства Марыя вылучалася спакойным, ціхім характарам, які пазней дапамог ёй стварыць цёплую, утульную атмасферу, спрыяльную для яе мужа-пісьменніка. Вучылася Марыя ў духоўным вучылішчы, дзе сутыкнулася з жорсткасцю: настаўнікі абыходзіліся з навучэнкамі вельмі сурова, — што выпрацавала ў дзяўчыне складаныя адносіны да рэлігіі. Марыя Дзмітраўна, унучка святара, заяўляла аб сваім... атэізме. Магчыма, гэтае выказванне ўяўляла проста выклік незалежнага, свабодалюбівага чалавека, бо якраз усе яе далейшыя ўчынкі сведчаць аб тым, што яна была добрай хрысціянкай.

Нейкі час Марыя Каменская была настаўніцай пачатковых класаў. Сваю дзейнасць яна імкнулася будаваць на прынцыпах гуманізму. Вучні яе любілі за дабрыню і душэўнасць. Жыла і працавала яна спачатку ў Вільні, дзе Каменскія пабудавалі дом. Потым, у 1910—1911 гадах, пераехала ў Пінск і ўладкавалася ў чыгуначную школу. Сюды ж, працаваць у прыходскім вучылішчы, у 1912 годзе накіраваўся і Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч. Ён ужо актыўна друкаваўся, за плячамі ў яго засталіся ўдзел у настаўніцкім з'ездзе, турма. Гэта быў сталы, 30-гадовы чалавек са сфарміраваным светапоглядам. З ім сябравалі многія жанчыны, некаторыя з якіх прызнаваліся яму ў каханні. Вядома, што ён перапісваўся з Зотавай-Рамановіч, Малчановіч (Моўчан), Салаўёвай і іншымі. Яны засталіся ў гісторыі як захапленні, як натхняльніцы вялікага генія. Аднак свой далейшы лёс Якуб Колас звязаў менавіта з Марыяй Каменскай, маладой дзяўчынай, якой тады быў усяго 21 год. Яна прывабіла яго выхаванасцю, добразычлівасцю, гаспадарлівасцю. У яе ж з'явілася цудоўная магчымасць падзяліць і шчасце, і гора з незвычайна, выключна таленавітым паэтам і пісьменнікам. На жаль, абставіны знаёмства Канстанціна з Марыяй, відаць, так і застануцца загадкай для нашчадкаў. Але, безумоўна, гэта было каханне з першага позірку. Інакш гэтыя людзі не здолелі б прайсці разам праз усё жыццё, не расстаючыся амаль ні на хвіліну.

Пасля вяселля (а яно адбылося прыблізна праз год пасля знаёмства) у Пінску, летам 1913 года, маладыя паехалі ў шлюбнае падарожжа ў Вільню. Неўзабаве ў іх нарадзіўся сын Даніла. Пачалася першая сусветная вайна, сям'я Міцкевічаў апынулася ў бежанстве. Нейкі час жылі ў Расіі, дзе нарадзіўся другі сын — Юрка. Настаўнічалі на Куршчыне, цяжка працавалі, пакутавалі ад беднасці. У 20-я гады, з пераездам у Мінск, Марыя Дзмітраўна стала хатняй гаспадыняй. Потым нараджаецца трэці сын — Міхась. Вялікая сям'я — разам з Міцкевічамі жывуць бабуля, дзядзька, у розны час чацвёра выхаванцаў (у тым ліку тры дзяўчынкі) — не перашкаджала Марыі Дзмітраўне займацца грамадскімі справамі, удзельнічаць у бацькоўскіх камітэтах школ, і, зразумела, выхоўваць сваіх дзяцей у духу вернасці самым высокім ідэалам: служэння Бацькаўшчыне, умення развіваць і выкарыстоўваць прыродныя здольнасці, глыбока мысліць, лагічна разважаць. Усе дзеці выраслі таленавітымі, адукаванымі і сумленнымі людзьмі.



*Марыя Дзмітраўна з маці і братамі.*

Амаль усе творы Якуба Коласа маюць аўтабіяграфічны характар. У многіх з іх знайшоў сваё адлюстраванне і светлы вобраз яго каханай жонкі. Так, даследчыкі мяркуюць, што некаторыя рысы характару Ганны з паэмы "Сымон-музыка" навеяны Коласу асаблівасцямі натуры Марыі. Яшчэ да шлюбу Якуб Колас напісаў пра сваю будучую жонку цэлую кніжку вершаў. Але да нашага часу з усіх іх дайшоў толькі адзін — верш "Дзяўчыне". І як жа захоплена, замілавана апявае паэт сваю лірычную гераіню! А ёсць жа і мноства пісьмаў Якуба Коласа, адрасаваных Марыі Дзмітраўне, — пяшчотных, клапатлівых, поўных шчырага і непасрэднага пачуцця. Жонка пісьменніка з'яўлялася і першым літаратурным крытыкам яго новых твораў. Менавіта ёй ён аддаваў іх на суд. Яна падказвала, што ў іх варта змяніць, палепшыць. Марыя Дзмітраўна разбіралася ў літаратуры, выдатна ведала беларускую мову, любіла спяваць народныя песні, таму яна магла даць Якубу Коласу карысныя парады. Дарэчы, захаваліся лісты Марыі Дзмітраўны да Коласа, напісаныя правільнай беларускай літаратурнай мовай, цікавыя паводле зместу, якія сведчаць аб наяўнасці ў ёй творчых здольнасцей.



*Якуб Колас з сям'ёй.*

У доме Коласа часта бывалі госці. Прыходзілі ў асноўным калегі па пяры: Янка Купала, Максім Лужанін, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, завітвалі туды і рускія, украінскія пісьменнікі. Усіх цёпла прымала, частавала смачнымі стравамі Марыя Дзмітраўна. Яна ўмела з кожным пагаварыць, кожнага падбадзёрыць, натхніць, акружыць увагай. Асабліва частымі гасцямі, у прыватнасці ў даваенныя гады, былі Янка Купала і яго Уладзіслава Францаўна. Трэба сказаць, што наогул сям'я Коласа жыла сціпла: у ёй лічылася непрыстойным хваліцца дарагімі моднымі рэчамі, вопраткай. Неяк Колас падарыў сваёй жонцы футравую гаржэтку, але, надзеўшы адзін раз, Марыя Дзмітраўна схавала яе, саромеючыся паказвацца на людзях у такім шыкоўным убранні. Ды і сам Колас (у адрозненне, дарэчы, ад Купалы) апранаўся проста, звычайна — як сельскі настаўнік. Госці ў іх доме ў асноўным збіраліся дзеля таго, каб пагаварыць, абмяняцца навінамі. На стол падаваліся нацыянальныя стравы беларускай кухні: дранікі, бабка, калдуны, булён. Але ў святы гасцей Міцкевічаў уражвалі раскоша і разнастайнасць далікатэсаў — сям'я мела слаўтую кнігу "Падарунак маладым гаспадыням" рускай кулінарнай "багіні" Алены Малахавец. Па ёй умела гатаваць далёка не кожная гаспадыня: патрабаваліся адмысловы набор прадуктаў, цярплівасць, вопыт, пачуццё меры. А Марыя Дзмітраўна спраўлялася з любімымі, нават самымі складанымі стравамі. Нават рабіла торт "Баумкухен". Адным словам, на ўсё ёй хапала часу...

Цяжка перажыла сям'я пару сталінскіх рэпрэсій. Родны брат Марыі Дзмітраўны Аляксандр Дзмітравіч быў засуджаны і знік без вестак у лагерах. І гэта нягледзячы на старанні Якуба Коласа яго вызваліць!.. А Вялікая Айчынная вайна й зусім падкасіла Марыю Дзмітраўну: прапаў без вестак сын Юрка — прыгожы, таварыскі, вясёлы, разумны хлопец. Пайшоў на фронт і не вярнуўся... Чакалі яго да самай Перамогі.

У час вайны Марыя Дзмітраўна разам з мужам і двума сынамі была ў эвакуацыі ў Ташкенце, там захварэла. Неўзабаве пасля вяртання ў Мінск памерла — у 1945 годзе. Якуб Колас перажыў жонку на адзінаццаць гадоў, вельмі сумаваў па ёй, часта прыходзіў да яе на магілу (на Вайсковых могілках), напісаў шмат роспачных вершаў, у якіх выказаў свае смутак і боль... Яна не дачакалася ні аднаго ўнука — першы з іх нарадзіўся ўжо пасля яе смерці, у 1947 годзе.

З адлегласці часу асабліва кідаюцца ў вочы незвычайныя сціпласць, прастата, дэмакратычнасць, якія панавалі ў Коласавай сям'і. Так, напрыклад, народны пісьменнік Якуб Колас ніколі не меў сваёй дачы. На лета сям'я, як правіла, выязджала ў вёску — Колас жартаваў, што "ні ў Крым, ні ў Рым". Адпачывалі ў Воўчкавічах, Ждановічах, Пухавічах, у іншых мясцінах. Гэта рабілася найперш дзеля дзяцей.

З сардэчнасцю, увагай ставіліся ў сям'і Міцкевічаў не толькі да сваіх родных і блізкіх, але і да чужых людзей, прычым нават да зусім незнаёмых. І ў гэтым галоўную ролю адыгрывала гаспадыня дома Марыя Дзмітраўна. Сведкам яе душэўнай прыгажосці і чуласці ў адносінах да людзей быў адзін з тых, хто асабіста ведаў яе, — Канстанцін Аляксандравіч Самахвал, траюрадны брат Данілы Канстанцінавіча Міцкевіча; яго маці была стрыечнай сястрой Якуба Коласа, дачкой яго роднага дзядзькі Пятра Казіміравіча Міцкевіча і паходзіла з Мікалаеўшчыны, радзімы Якуба Коласа. Канстанціну Аляксандравічу зараз 85 гадоў, ён удзельнічаў у Айчыннай вайне, працаваў на розных будоўлях, у праектным інстытуце, у Міністэрстве прамысловага будаўніцтва Беларусі. Марыя Дзмітраўна дапамагала яго маці ў яго выхаванні, а потым накіроўвала на правільны шлях карысннай парадай, словамі падтрымкі і заахвочвання да працы, навукі. Назаўсёды запомніліся яму пяшчота і абаяльнасць, знешняя прывабнасць і ўнутраная прыцягальнасць Марыі Дзмітраўны, Марусі, як ласкава называлі яе ўсе, хто быў з ёй знаёмы.

Па сваім характары Марыя Дзмітраўна была поўнай супрацьлегласцю жвавай і бойкай жонцы Янкі Купалы Уладзіславе Францаўне. Лагодная, ураўнаважаная, яна рэдка адкрыта выказвала свае сімпатыі або антыпатыі. Ніколі ні на кога не павышала голасу, не крычала. Яе і так слухаліся, паважалі. Яна ўмела ўплываць на людзей. Не цярпела спрэчак і сварак, у такіх выпадках пераводзіла размову на іншую тэму. Была шчодрай, не брала ніякіх падарункаў, якія адрасоўваліся Коласу прыхільнікамі яго таленту, частавала суседскіх дзяцей цукеркамі, любіла і ўмела гаварыць з імі. Усю ўвагу, калі ў яе былі госці, скіроўвала менавіта на дзяцей. У ёй шчасліва спалучаліся інтэлігентнасць і сціпласць. Яна была сапраўды шляхетнай — і паводле паходжання, і па сваіх паводзінах. Яе добрае сэрца падказала ёй дапамагчы сыну роднага дзядзькі Якуба Коласа, рэпрэсаванага "нацдэма" Язэпа Лёсіка, Юрку (з жонкай Язэпа Вандай яна блізка сябравала). Дзякуючы заступніцтву Марыі Дзмітраўны ён уратаваўся ад сталінскіх лагераў, скончыў школу, інстытут, жыў і працаваў у Расіі (памёр у 1996 г.). Яна спрабавала хадайнічаць і аб вызваленні незаконна асуджанага ў 30-я гады сябра Коласа Сымона Самахвала (прататып Янкі Тукалы ў трылогіі "На ростанях", родны дзядзька К. А. Самахвала), але атрымала ад ДПУ адказ, што "памёр у турме". Яна вельмі пакутавала ад такіх падзей. За яе ўвагу, цікавасць да жыцця іншых многія захавалі аб ёй добрыя ўспаміны.

Найбольш блізкім да Марыі Дзмітраўны, падобным на яе быў яе сын Даніла Канстанцінавіч. Шмат гадоў ён быў дырэктарам Літаратурнага музея Якуба Коласа, актыўна займаўся зборам матэрыялаў пра бацьку і маці. У кнізе "Любіць і помніць" ён прыводзіць цытаты з некалькіх вершаў Якуба Коласа, прысвечаных Марыі Дзмітраўне. Узгадаем і мы асобныя радкі:

***Я радасці большай***
***не ведаў бы ў свеце,***
***Каб толькі была ты здарова!***
***Ачнувай жа, зорка, ачнувай,***
***мой квеце,***
***Пачуй маё шчырае слова!..***

***Я знаю — шмат ты мела гора***
***І горыч дум піла да дна,***
***І шмат было тваіх дакораў,***
***Хоць ты ў душы маёй адна...***

***А я, мой дружа, што скажу?***
***Калі жыва будзе Маруся,***
***Я выйду ў поле на мяжу,***
***Зямлі і небу пакланюся...***

***Аб табе, сваім дню,***
***І аб Беларусі***
***Я гадаю і сню***
***Мілая Маруся...***

Шумяць-гамоняць высокія старыя дрэвы ў двары Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа. Найначай гамоняць і аб той непаўторнай атмасферы, якая панавала ў сям'і песняра: творчай, поўнай любові і дабрыні, самаахвярнасці, спрыяльнай для руплівай працы. Падарункам нябёсаў была сустрэча дваіх закаханых, падарункам і для іх, і для усіх нас...

**Святлана ЯВАР**

## Артысты з вёскі Пагост

**Калектыву мастацкай самадзейнасці пры Пагосцкім сельскім клубе хутка давядзецца спраўляць залаты юбілей. Праўда, быў час, калі яго праца крыху затухала, ды потым зноў разгаралася — на радасць гледачам.**

**У цяперашні час тут змястоўна і мэтанакіравана працуе абноўлены калектыў мастацкай самадзейнасці, на рахунку якога нямала цікавых, карысных спраў. У ягоным складзе — рознага ўзросту жанчыны нашай вёскі. Усе яны ў асноўным занятыя працай, маюць гаспадарку. Але знаходзяць час, каб увечары пайсці на рэпетыцыю, выступіць дзе-нідзе з канцэртам. Кожны нумар праграмы ўдзячныя гледачы сустракаюць воплескамі. Так было нядаўна, калі пагосцкія самадзейныя артысты, дзякуючы дапамозе (выдзеліў транспарт пры недахопе гаручага) старшыні калгаса "Савецкая Беларусь" Валерыя Зямляніка, выступалі ў вёсцы Малы Малешаў Верасніцкага сельсавета. На развітанне малешаўцы прасілі часцей прыязджаць і радаваць іх артыстычным майстэрствам.**

**Самадзейныя артысты заслугоўваюць таго, каб успомніць іх паіменна. Гэта — загадчыца клуба Кацярына Панчэня, старшы бібліятэкар Валянціна Маркевіч, калгасніцы-пенсіянеркі Аляксандра Зохна, Нона Панчэня, Ліда Лазарчук (шматдзетная маці — нарадзіла і выхавала 12 дзяцей), Зося Кузьміч, Надзея Астаповіч, Марыя Валанцова, Ніна Арэшчанка, рабочая Марыя Кузьміч, калгасніца Ніна Саскевіч, хатняя гаспадыня Вольга Леўкавец, прыбіральшчыца клуба Наталля Марозава. Поспеху шматлікіх выступленняў актыўна садзейнічае адмысловы баяніст-самавук Сяргей Яфімовіч, які працуе шафёрам у нацыянальным парку "Прыпяцкі".**

**Бадай, няма той вёскі на Тураўшчыне, дзе б пагосцкія артысты-аматары не пабывалі два ці тры разы. Праўда, у апошні час цяжкавата з транспартам з-за недахопу паліва. Таму актыўнасць крыху прытухла, хаця рэпетыцыі ідуць рэгулярна і напружана.**

**На базе калектыву самадзейнасці створаны цудоўны фальклорны гурт "Міжрэчча". Гэтай суполцы заўжды спадарожнічае поспех. Летась "Міжрэчча" гасцявала ў гарадскім пасёлку Акцябрскі на фальклорным свяце "Берагіня-99", прысвечаным 60-годдзю ўтварэння тамтэйшага раёна. Калектыў даў канцэрт, які працягваўся больш за гадзіну. Публіка выказала сваё захапленне гучнымі, дружнымі воплескамі. І назаўтра фальклорны гурт удзельнічаў у конкурснай праграме з песень ды танцаў. Тады нават строгае журы не ўтрымалася — пляскала ў ладкі разам з усімі гледачамі. У выніку — дыплом першай ступені, відэамагнітафон у якасці прыза, а таксама каштоўныя падарункі кожнаму ўдзельніку "Міжрэчча".**

**Ёсць у клубе і сямейны калектыў самадзейных артыстаў, які ўзначальвае Кацярына Панчэня. У яго складзе — сын-баяніст, нявесткі, стрыечныя сёстры, кумы. Гэты калектыў заняў 1-е месца на аглядзе-конкурсе аналагічных сямейных ансамбляў Жыткавіцкага раёна.**

**Упершыню за доўгія гады існавання вёскі паказалі каляднае прадстаўленне на сцэне, якое, на агульную думку гледачоў, удалося на славу. Самадзейныя артысты водзяць па вёсцы калядныя і шчадроўныя карагоды. Радасна, гасцінна сустракаюць іх у кожнай хаце, дзякуючы ад душы за добрую справу.**

**Беларускае тэлебачанне ўдала зняло і паказала "Жаніцьбу коміна" — каляднае прадстаўленне. Праграма "Запрашаем на вячоркі" паказала ў выкананні пагосцкіх самадзейных артыстаў вясковае вяселле, якое гэтым разам здымалася непасрэдна на месцы, у вёсцы. Дарэчы, здымачнай пляцоўкай "Жаніцьбы коміна" быў не павільён студыі, а хата дзеда Антончыка — Антона Літвінкі, равесніка веку, якому сёлета споўніцца 100 гадоў. Ён выступаў у ролі кансультанта, "рэжысёра-пастаноўшчыка", сціплага ўдзельніка і патрабавальнага гледача. Значна дапамагала канкрэтнымі парадамі, што садзейнічала няўменнаму поспеху, яго жонка Кацярына Літвінка.**

**Нездарма менавіта ў нас быў наладжаны абласны семінар па прапагандзе народных абрадаў і звычаяў. Прызнана ўдалым сцэнічнае ўвасабленне іх на тэлеэкране. "У нашай вёсцы заўсёды спраўлялася шмат народных святаў і абрадаў, — зазначыла загадчыца клуба Кацярына Панчэня. — У засуху існаваў абрад выклікання дажджу. Былі абрады, прысвечаныя выгану кароў, засцярозе вёскі ад нечаканай бяды, непагадзі, прымеркаваныя да пачатку сяўбы, і многія іншыя".**

**Вельмі карысна, што ва ўзнаўленні народных абрадаў, звычаяў і традыцый абавязкова ўдзельнічаюць дзеці. Такім чынам, яны непрыкметна і надзейна навучаюцца надта патрэбнай справе, прымаюць эстафету далейшага развіцця і ўдасканалення фальклорнай творчасці.**

**Васіль МАРКЕВІЧ,**
**настаўнік-пенсіянер**

*Жыткавіцкі раён*

# ДВА АПАВЯДАННІ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9)*

З "Васькам" у мяне свая гісторыя. Мне вельмі хацелася на ім праехацца, але ён, горды і непрыступны, не даваўся, каб нават начапіць на яго аброць, а калі я пачынаў чапляцца, то не супраць быў кусануць альбо ўбрыкнуць. Бачыце, на ім хоча праехацца нейкі жэўжык! Праўда, калі Кураглядаў уведаў, што яго любімца абсек такі на першы позірк задрыпанец, як "Ангор", то даў суровы прысуд: "Слегчать — и в плуг, если поддался какой-то молявке!"

Канавал зрабіў сваё, "Васька" стаў звычайным канём, але нораў ягоны не змяніўся, ён нават па-ранейшаму плішчыўся да былых сваіх каханак, да маладых кабылак, хоць цяпер ужо... Ні да плуга, ні ў аглоблі калёс не станавіўся, а калі ўсё ж яго запрагалі, то вялікага цяжару цягнуць не хацеў, хоць ты яго забі. Настоіш — перакуліць воз, зломіць аглоблі, саб'е з ног чалавека, але не паддасца стаць звычайным рабочым канём.

У перадапошнія мае школьныя канікулы бацька пакінуў канюшню і вярнуўся ў кузню, але я яшчэ па брыгадзіравай просьбе ўсё лета быў пры конях. Дык проста замроіў: хоць раз ды праехацца на "Ваську"! Ён падазрона глядзеў на мае ахапкі самай лепшай канюшыны, хлебныя кавалачкі, стрыг вушамі і не падпускаў да сябе; тады я пачаў заваражваць яго воляй: бачачы, што ў стойле ў яго кепскі смач, дык часта выпускаў яго не толькі на калідор, але разам з іншымі коньмі на двор.

Мая мяккая настойлівасць зрабіла сваё: аднойчы, чапляючыся за жэрдкі і пераходзячы па іх, я здолеў начапіць на "Ваську" аброць, закілзаць, а пасля ўскочыць на яго і выехаць з канюшні. "Васька" не скінуў мяне, але нібы сказаў: ну, трымайся! Не зважаючы, што я стрымліваю цуглямі, рэжу яму рот, ён так паімчаў, што ў мяне перахоплівала дых, абрывалася сэрца. Я вішчэў ад задавальнення і страху, чым здзівіў Кураглядава, які пры ферме стаяў з даглядчыкамі; на пашы, дзе было не так тупка, "Васька" суцішыўся, а пасля і паслухмяна стаў, прызнаючы ўжо і мяне за свайго гаспадара. Калі я саскочыў з яго спіны, ён апусціў галаву, каб я зняў з яго аброць; на міг мы сустрэліся позіркамі: у яго вачах ужо не было маладога агню, дзёрзкасці, яны былі нібы цьмяныя, ацішэлыя і нібыта запытлівыя: ну што, задаволіўся? Гэта мяне так кранула, што не змог болей сузірацца, адвёў вочы ўбок, а пасля падаўся да канюшні. А калі азірнуўся, то ўбачыў: "Васька" ўжо ціхамірна грызе траву.

"Смотри ты, какой шустрый! — упершыню рукаючыся са мной каля свайго "козліка", здзівіўся Кураглядаў. — "Ваську" обуздал! Я несколько закладов выиграл по этому поводу у высокого начальства! Никому, кроме меня, "Васька" не позволял сесть на себя!"

З таго дня я ўжо спакойна заходзіў у стойла, начэпліваў аброць, выводзіў "Ваську" на двор і ўсчэпліваўся на яго, а ён паслухмяна вёз мяне. Змяніўся "Васька" і ў іншым. Пазней крыху, калі Кураглядаў перасеў з "козліка" на Волгу і пачаў забывацца на свайго любімца, "Ваську" паволі прывучылі да калёс і плуга. А нам ён увогуле паспрыяў-памог: у пушчы нямала пацягаў-патраляваў даўжэзных і тоўстых бярвёнаў з лесу да дарогі — дрэва на нашу новую хату ў вёсцы.

Ішоў час; спачатку, студэнтам, часта, пазней, калі занастаўнічаў, радзей заяўляўся дома, але не мог не заязджаць: некаторыя коні састарэлі, а некаторых ужо няма, іх звезлі, як і таго ж незабыўнага для мяне "Ваську", замест іх ужо новыя. Тая канюшня ёсць яшчэ і цяпер — зусім ужо маленькая, прагнутая і ў шмат якіх месцах нахіленая, падпёртая бярвёнамі, ёсць з дзесятак коней, без якіх не абысціся, як і некалі, ёсць конюх (пасля Антонавай смерці ўжо адзін, без памочніка), як казалі, былі і пасля мяне такія падменшчыкі, як я, але не ведаю, ці шмат для іх гэта значыла, як у свой час было ўсё вельмі важным мне.

## ДУБІНА

*Светлай памяці*
*суседа-вяскоўца Івана*

Дубіна — ніякая не абраза, гэта — сапраўднае прозвішча чалавека, нашага ў Янкавінах самага блізкага суседа.

Ён — не тутэйшы, нават і не з Хатоўкі, адкуль перабраўся да нас яшчэ ў пяцідзесятыя гады. Ён родам з рускай Браншчыны, у наш край, як сам казаў, яго "занесла маладая і дурная любоў". Яго бацька загінуў на фронце, маці спачатку ў акупацыі, пасля ў "бабскім калгасе" на чале з аднарукім былым франтавіком, паўпісьменным, але п'янчужлівым і сапсаваным ад улады старшынёй засталася ўдавой з малымі дзецьмі, дык, як і многія ў вёсцы, нямала паахаладалі і агаладаліся ды пакармілі вошай; Іван-марак скончыў пазней, чым трэба, пачатковую і ўслед за старэйшымі пайшоў зарабляць працадні ў свой бедны калгас — быў падпаскам, пастухом, прычэпшчыкам і памочнікам камбайнера. Пасля — на тры гады строгая, "жукаўская", армія, дзе ён даслужыўся да малодшага сяржанта, але дамоў вярнуўся радавым (лычкі страціў за самаволку); у арміі, як і часта бывае з заморкамі з-за недаядання, выцягнуўся, апляччэў, наліўся мужчынскай сілаю. Пасля службы, крыху пабачыўшы свет, не захацеў вяртацца ў свой па-ранейшаму нямоглы калгас, хоць яго там чакалі і хацелі паслаць вучыцца на трактарыста, зажадаў і добрых заробкаў, і па складзе рускай душы летуценнасці, то трапіў за сотні вёрст ад роднага дому на маладзёжную новабудоўлю, дзе сабралася таких, як і ён, і іншых вельмі шмат, хто хацеў і свет пабачыць, і капейку зарабіць, а хто яшчэ адбываў там пакаранне, хоць пра гэта ўголас амаль не гаварылі. "Камсамольска-маладзёжная ўдарная новабудоўля". Пазней некаторыя з тых, хто, як гаварыў Дубіна, "не столькі працаваў з рыдлёўкай альбо кельмаю, а ўзлазіў на трыбуну і крычаў а-ля-ля", павыскоквалі ў Маскве на высокія камсамольскія і партыйныя пасады. На таго-сяго з іх Дубіна не мог глядзець па тэлевізары: "Жулік! Каб ты, Генік, ведаў, якое гэта жуллё!Але ведай: калі хочаш прабрацца туды, наверх, то таксама вучыся балабаніць а-ля-ля! У нас, хто ўмее добра мянташыць языком, ідзе ў начальства. А мы..."

Сам жа ён... Хоць і меў камсамольскі білет, не толькі ў сяброўскіх кампаніях, але і на вялікіх канцэртах іграў на гармоніку, але з чатырма класамі ды яшчэ з унутранай непрыязнасцю да балбатлівага начальства, а гэта, можна лічыць, і з пэўнай антыідэйнасцю, па службовай лесвіцы не падняўся ні на адну прыступку, быў "рабацягам", "Іванкам-дурачком". Так гаварыў ён сам (а яго, сапраўды, звалі Іванам), але ён усё ж трошкі перабольшваў, бо не быў там, на новабудоўлі, апошні: ягоны высокі рост, стройная выпраўка, беларусявы чуб, добрыя блакітныя вочы, маладая зухаватасць ды гармонік выдзялілі яго сярод не адной сотні хлопцаў і дзяўчат, асабліва, як і ён, простых, чыя душа, не зважаючы на цяжкую працу і палаточны побыт, патрабавала музыкі, танцаў і песень. Карацей, Іван альбо Ваня для гэтай моладзі быў сваім, блізкім, нават вадаром, пра што ён пазней не любіў успамінаць. "Малады і дурны быў".

Вакол яго было шмат цнатлівых і тых, хто даўно ўжо забыліся, што гэта такое, цнатлівасць, прыгожых і схільных да яго дзяўчат, але ён чамусьці, чаго не мог зразумець і сам, выбраў нашу зямлячку, Гэлю з Хатоўкі — поўненькую, лытканогую, паўнагрудую, але зусім не красуню, густа ўсееную вяснушкамі і крыху хамзелістую, таксама з пачатковай адукацыяй. Гэлька не паддалася яму, зуху, чым — абачлівасцю, сарамлівасцю, чысцінёй і гаспадарлівасцю — яго вабіла ўсё больш і больш, не зважаючы, што з-за гэтага нямала пачуў ухмылак і насмешак ад тых дзяўчат, хто гатовы быў пайсці з ім у блізкі лес па першым ягоным нават не слове, а кіўку пальцам.

Гэльцы, што супраць волі бацькоў з сяброўкай марсянула з вёскі, ад гаспадаркі ў чужы свет, не спадабаліся вольныя норавы, што панавалі на новабудоўлі, ды яна пранікнёна па-жаночы адчула: тут Іван не ўтрывае, ранапозна ўлезе ў бойку, сядзе, а то яго калі не звядуць, дык спакусяць распусніцы. Яна, не вельмі паглядная, цвёрда сказала прыгажуну-зуху: выйду замуж за цябе толькі тады, калі з'едзем адсюль.

Іван паслухаў: з'ехалі. Спачатку падаліся ў яго вёску, што Гэлі адразу ж стала не па душы ўбогасцю і беднасцю ("Там нават не кожны не толькі карову, свіней, авечак, але і сад, плот мае"), дык яны, яшчэ не распісаны, з-за Гэльчынай упартасці не зведаўшы блізкасці, прыехалі на яе бацькаўшчыну, у Хатоўку. Гэльчыны бацькі былі злыя на дачку-непаслушніцу за яе ўцёкі з дому, а цяпер, як амаль усе ў нашых мясцінах, каталікі, неўзлюбілі, што яна прывезла з сабой "кацапа", хоць іх, "кацапаў", пасля 1939-га і асабліва пасля вайны заявілася ў нас нямала — на кіруючых пасадах, у школах, і яны, хто быў халасты, пачалі жаніцца і з тутэйшымі дзяўчатамі. Іван выцерпеў гнеўныя шэпты гаспадароў з дачкою, маўклівую вайну, вытрываў "каранцін" і дабіўся таго, што асямеіўся з Гэлькаю — праўда, без шлюбу ў касцёле, толькі праз запіс у сельсавеце.

Маладыя пажылі ў Хатоўцы мала, неўзабаве яны перабраліся да нас, у Янкавіны, да Гэлінай адзінокай цёткі, сталі, як і ўсе, калгаснікамі у нашай брыгадзе — працавалі там, куды пашле брыгадзір. Тады, у канцы пяцідзесятых, калі я аціраўся на канюшні, упершыню і ўбачыў Івана, не ведаючы, што пазней ён пасуседзіцца з намі, хоць і старэйшы, стане маім прыяцелем. Тады ён быў яшчэ ў салдацкай форме, праўда, паношанай ужо, з мноствам значкоў на грудзіне, у фуражцы, якая заўсёды была набакір і з-пад якой гарэзна вытыркалася пасма маладых светлых валасоў. У хуткім часе некалькі значкоў з Іванавай гімнасцёркі красаваліся ўжо на маёй кашулі. А яшчэ праз год-другі ўсе Іванавы "ордэны і медалі" апынуліся ў вясковых падшыванцаў, а ягоны камсамольскі білет знік у агні грубкі. Але Іван аддаў свае "ўзнагароды" не кожнаму сустрэчнаму, а тым, каго ўпадабаў за ўвагу да яго, за любоў да музыкі.

Ён не мог не захапіць з сабой свой любімы гармонік, што прыносіў яму славу, але цяпер, у нас, не вельмі прыйшоўся даспадобы вяскоўцам. У нас за ўсе лета былі дзве-тры гулянкі з песнямі і танцамі (хрэсьбіны, забавы), амаль усе вяселлі выпадалі на восень альбо зіму, калі сыходзіў ці не надыходзіў пост. Івана, які прывык да "атэізму", здзіўляла, што ў нас і моладзь па нядзелях не водзіць карагоды, а гуртам шыбуе да касцёла, вельмі не ладзіць гульбішчы вечарамі; ён па сваёй натуры не мог жыць такім ладам, найперш для работы ў калгасе і дома, дык каб хоць неяк пацешыць сваю душу, выходзіў увечар з хаты, садзіўся на лаўцы, апускаў галаву і іграў розныя свае "страдания". Яго пажылыя суседзі абураліся, што не дае спаць, а мы, дзятва, прыходзілі слухаць ягоныя музыку і крыху хрыплаваты голас, за што і ўзнагароджваліся яго значкамі. Якраз нам, жэўжыкам, ён, тады яшчэ гаворачы па-руску, нараказ: "Скучно, ребята, вы здеся живете! Хозяева, да, но глухари!"

Як думаю, крыху пазней Іван, можа, ужо і каяўся, што сарваўся з той новабудоўлі і без прывязі пацягнуўся за Гэляю, можа, яму было сумна ў нас з нашым набожным і гаспадарскім побытам; неяк аднаго разу, калі Гэля была ўжо добра ўцяжараная, ён знік з вёскі, яго доўга не было. Гэля ўсім казала, што ён паехаў лячыцца, але па яе заплаканых вачах выходзіла, што гэта не зусім так. Іван вярнуўся праз некалькі месяцаў, але ўжо зусім іншым чалавекам. Больш не браўся за свой гармонік, сцішэў, не зухаваціўся чубам, прызвычаіўся да чаркі, а калі не піў, то ўпадаў у задуменную маркотлівасць, сумлівасць альбо ціхую роспач, пачаў наракаць на жыццё, і адзін з усіх прысезджых лаяў уладу, парадкі, начальства, што, па-ягонаму, вінаваты, што амаль ва ўсіх такое вось нікчэмнае жыццё. Ды, можа, з-за таго, што ўслед за сынам-першынцам

пайшлі яшчэ адно за адным дзеці, можа, і таму, што пачаў сталець і душэўна перабродждваць, паволі і сам ацецыяруковіўся-аглушэчыўся, уцягнуўся ў калгасную і прыхатнюю працу, узяўся ставіць свой дом, абгароджваць яго, садзіць сад, завёў карову, свіней — як жартаваў, цяпер і ён перад сваімі землякамі "куркуль". Зжываючыся з нашай вёскаю, як прышчэпка на дрэве, прызвычаіўся не толькі да яе ладу, нораваў, але і да нашай мовы — маючы добры музычны слых, навучыўся на ёй і гаварыць,і мысліць.

Ды памыліліся тыя, хто палічыў, што Іван-зух скарыўся жыццёваму цёку, стаў тут, як і ўсе. Аднойчы, калі я ўжо заканчваў дзесяцігодку, быў сведкам, як ён не толькі ажывіўся, але і яшчэ раз паказаў, на якія нечаканасці здольна рускае сэрца. Тады я падышоў да канюшні па каня і каля яе ўбачыў гурт нашых мужчын і спрэчку. Не, янкавінцы маўчалі, раззлавана крычалі адзін на аднаго землякі — Кураглядаў, старшыня калгаса, і Дубіна. Кураглядаў — невысокі, таўсматы, са смуглым, багатым на шчэць заўсёды сярдзітым тварам, ужо не ў сталінцы, а ў касцюме, пры кашулі і гальштуку, крычаў Івану, які таксама ўжо быў не ў салдацкай форме, а ў кірзовіках, картовых штанах і палатанай кашулі: "Будешь делать то, что я тебе скажу!" — "Не буду". — "Будешь!" — "Не, хваціць табе памыкаць! Мы табе не быдла!" — "Я председатель и имею право приказать тебе делать то, что нужно!" — "Прадсядацель! Што б ты, невуч, сын лайдака, значыў бы, каб не яны, гаспадары, але якія ты ў грош не ставіш! Запалохаў і прынізіў!" — "Ты замахиваешься на мой авторитет, на авторитет руководителя! А это..." — "Які ў цябе аўтарыцет! Як і ў вашай парціі, уласці! Усё на вашай мане і на людскім страху! Жулікі вы і зладзеі! Бабнікі і п'яніцы!"

Усе нашы мужчыны анямелі, я таксама, прызнаюся, замёр: хоць ужо з дзесятак гадоў не было Сталіна і Кураглядаў больш не страшыў, што здасць у органы, і перастаў махаць перад носам пісталетам, але да гэтага дня ніхто так не гаварыў з ім ні пра яго, ні пра партыю і ўладу.

Кураглядаў усаджваўся ў сваю "Волгу", трасучы кулаком і лаючыся: "Ну, погоди! Я тебе покажу!"; не "паказаў", але Іван сам выйшаў з калгаса і падаўся да меліяратараў дагледжваць канавы — ён там мог і сена сабе накасіць, і неблагую капейчыну зарабіць. Некаторы час нашы вяскоўцы яго асцерагаліся, каб Кураглядаў не ўведаў, што яны з ім знаюцца, а потым пачалі паважаць, прызнаючы, што ў яго ёсць тое, чаго няма ў іх...

Калі я студэнтам, вясковым настаўнікам, а потым і мінскім літаратарам прыязджаў да бацькоў, то ён заўсёды заходзіў да нас, распытваў пра гарадскія навіны, яшчэ больш заўзята лаяў лад і начальства, ужо і тутэйшае, як і свой, тутэйшы чалавек; што да яго жыцця, то яно пачало, як тут лепш сказаць? — скасабочвацца ці што: пала на ногі па спадчыннай хваробе Гэля, з кожным годам ходзячы ўсё горш і горш, а пасля зусім злегла, захварэў і Іван, даўно ўжо носячы ў сабе нейкую халеру — можа, і радыяцыю — яшчэ з арміі; Гэля памерла, Іван застаўся з самым малодшым сынам, а потым, калі таго забрала ў горад ужо замужняя дачка, у перадпенсійныя гады пачаў звядваць лёс адзінокага нездаровага чалавека. Звёў карову, свіней, жыў з магазіна, а на пенсіі стаў затворнікам, мучачыся ад болю і чакаючы суботы, калі прыязджала дачка, прыбірала ў хаце і мыла ягоную бялізну.

...Летась, увосень, ходзячы па бацькавым двары, перасаджваючы на агародзе смародзінныя кусты, здзівіўся, што не паказваецца, не вітаецца і не заходзіць да нас Іван, ды і ўвогуле двор яго нейкі надта ціхі: ні курэй, ні сабакі, ні святла ці дыму з коміна.

"Я ж табе не сказаў, — схамянуўся на маё недаўменне бацька. — Памёр Іван". — "Калі?" — усклікнуў я, паколькі ведаў пра вясковыя навіны ад тых, з кім перазвоньваюся па тэлефоне. "Ды з месяц таму. Паехаў у Стоўбцы дабівацца большай пенсіі, стала кепска, дык зайшоў у аптэку. Там і брыкнуў..."

Бывай, сусед-прыяцель! Няхай пухам табе будзе наша зямля, якую ты палюбіў і за якую заступаўся!

ПАМЯЦЬ

***У свой час выдавецтва "Мастацкая літаратура" выпусціла кнігу ўспамінаў пра вядомага беларускага пісьменніка Уладзіміра Карпава. Сталася аднак так, што асобныя матэрыялы, прапанаваныя тымі, хто добра ведаў Уладзіміра Барысавіча, у зборнік не ўвайшлі. Але, думаецца, з асобнымі з іх і сёння цікава пазнаёміцца чытачам "ЛіМа", якія знаёмы з творчасцю У. Карпава і, як звычайна бывае ў падобных выпадках, хацелі б больш даведацца пра яго як пра чалавека.***

# Узыходжанне

Да вайны Уладзіміра Карпава не ведаў і ні разу не сустракаўся з ім.

Дэмабілізаваўся я з арміі у пачатку 1946 года. Хутка ўладзіў некаторыя свае справы ў разбураным Мінску. Спыніліся мы часова з Алесем Бачылам у маленькім пакойчыку яго брата пры 44-й чыгуначнай школе па Маскоўскай вуліцы. Бачыла таксама толькі што дэмабілізаваўся. Становішча наша было незайздроснае. Як вядома, з вайны салдат прыносіць, апрача шыняля, ботаў і рэчавага мяшка, яшчэ салдацкую славу, на якой доўга не пражывеш. Трэба ўладкоўвацца на працу. Параіўшыся з Алесем, вырашылі, што трэба схадзіць у рэдакцыю газеты "Літаратура і мастацтва". Там да вайны на працягу многіх год мы часта друкаваліся, і нас павінны ведаць.

У рэдакцыі тады працавалі Аркадзь Куляшоў, Алесь Кучар, Анатоль Вялюгін, Рыгор Шкраба, Алесь Есакоў, Георгі Таран. Потым прыйшлі Кастусь Губарэвіч, Алесь Бачыла, Уладзімір Шахавец і іншыя. У штаце лічыўся таксама Антон Бялевіч, але ён жыў у Маскве. Тут я і пазнаёміўся з Уладзімірам Карпавым, з якім у далейшым вельмі зблізіўся. Ён выступаў тады з ваяўнічымі напорыстымі артыкуламі аб літаратуры, і да яго голасу ўсё больш прыслухоўваліся, лічыліся з яго думкай. Шмат пісаў ён і пра тэатр. І толькі потым у размовах пачало высвятляцца, што ён рыхтуецца і да сур'ёзнай прозы аб вайне, асабліва аб Мінску, з якім быў цесна звязаны па падпольнай барацьбе. Прыкладна такую ж работу мне прыходзілася выконваць у акупіраваным Кіеве, і мы адразу адзін аднаго зразумелі.

Першай яго празаічнай кнігай стала аповесць "Без нейтральнай паласы". Мне было цікава наглядаць, як суровы, патрабавальны крытык сам становіцца празаікам. І трэба сказаць, што яго проза вызначалася лаканічнасцю, суровай праўдзівасцю, без традыцыйных лірычных адступленняў. Відаць, гэтага вымагала сама тэма — суровая праўда вайны. Яна падказвала і стыль, і жанр, і творчы метад, падыход да матэрыялу.

Бывала, загаворымся дапазна. Валодзя нахмурыцца, наморшчыць лоб і пытае:

— Чуеце? Гадзіннік адбівае хвіліны. Але гэта не гадзіннік. Гэта міна, пастаўленая на завадны механізм. Хутка яна ўзарвецца!..

Карпаў жыў вайной, думаў аб ёй, асэнсоўваў яе падзеі, асабліва што датычылася Мінска і яго ваколіц. У часе акупацыі ён уваходзіў у аператыўную групу мінскага падпольнага абкома партыі, якая працавала непасрэдна на Мінск.

Ёсць такая даўно ўсталяваная ісціна, што чалавек стараецца найбольш пісаць аб тым, што яму добра вядома, што перажыў ён сам. Так было і з Карпавым. Яго кніжкі — гэта абагульненне таго, што ён бачыў сам, у чым удзельнічаў непасрэдна. Таму яны звярнулі на сябе ўвагу сваёй праўдзівасцю, даверлівасцю. Ён на ўсю шырыню паставіў пытанне адносін пісьменніка да падзей, і стварыў творы, у якіх аўтар быў галоўнай дзеючай асобай.

З кожным годам яго творчасць набывала ўсё большую папулярнасць. Ён лічыўся сваім чалавекам і ў асяроддзі былых партызан і падпольшчыкаў, у шматлікіх калектывах рабочых аўтамабільнага і трактарнага завода. Там неаднойчы праводзіліся канферэнцыі чытачоў па яго творах, выказваліся пажаданні і заўвагі. Вяртаўся ён адтуль заўсёды ўзнёслым і вясёлым. З новымі сіламі браўся за работу.

Увогуле, калі гаварыць праўду, то той непасрэдны ўклад, які ён унёс у падпольную барацьбу з фашызмам, як воін і як літаратурны гісторык гэтай барацьбы, то яго гэты агульнаўзяты ўклад варта было б ацаніць званнем "Ганаровы грамадзянін Мінска".

Ідэальным бывае такое становішча, калі пісьменнік тое, аб чым піша, сам сцвярджае сваім жыццём, сваёю практычнай дзейнасцю, як грамадзянін. У Карпава слова не разыходзілася са справай. Памятаецца, як падоўгу яны гутарылі з Алесем Матусевічам, таксама адным з актыўных удзельнікаў мінскага падполля, успаміналі, удакладнялі факты і падзеі, прозвішчы некаторых людзей. Гэта патрэбна было для літаратуры, для паказу актыўнай барацьбы мінчан і ўсяго беларускага народа супраць фашызму.

Пасля амаль дзесяцігадовай сумеснай працы ў "ЛіМе" нам яшчэ некалькі год давялося працаваць у часопісе "Полымя". Уладзімір Барысавіч рэдагаваў там прозу. Хочацца сказаць аб ім некалькі добрых слоў, і як аб рэдактару. Усе празаікі з нейкай непрыхільнасцю пазіралі на яго карычневы аловак. Рэдактар ён быў уважлівы, і гэтым алоўкам ставіў на палях рукапісу птушачкі, як быццам, цэлы вырай іх сабраўся на кожнай старонцы да адлёту. Паглядзіш, разбярэшся і бачыш: нічога страшнага. Проста рэдактарскія заўвагі. Уладзімір Барысавіч быў такі ўважлівы рэдактар, што не прапускаў нават найменшай драбніцы ў рукапісе.



Размовы з ім былі цікавымі і карыснымі, бо круг пытанняў, якія яго цікавілі, быў вельмі шырокі і разнастайны.

Мы часам разам бывалі ў Доме творчасці ў Каралішчавічах, асабліва ў зімовы час. Там можна было іншы раз адчуць і яго творчую лабараторыю. Калі ён пісаў, яго не цікавілі ніякія нашы мерапрыемствы, ад ранку да вечара сядзеў за сваім рабочым сталом і дробным-дробным почыркам спісваў старонку за старонкай, часамі прасіў паслухаць урывак, "кусок", як любіў гаварыць. З шырокім жа кругам людзей ён не вельмі любіў дзяліцца сваімі ўспамінамі аб падпольнай і партызанскай барацьбе. Толькі ў коле людзей, якія былі ў курсе тых складаных спраў, ішла адкрытая размова. Думаю, што ў гэтым адбілася старая звычка трымаць язык за зубамі, якая засталася ў яго пасля вайны. І гэта, магчыма, правільна, бо не аб усім была патрэба расказваць, што даводзілася рабіць у часе акупацыі падпольшчыкам і партызанам.

Шмат разоў, пасля таго, калі Уладзімір Барысавіч захварэў, мы дамаўляліся сабрацца на "капітальную" размову, але ўсё не знаходзілі часу, адкладвалі на потым, а таго "потым" так і не атрымалася. Пайшоў ад нас Уладзімір Барысавіч нек раптоўна і нечакана. І нам, яго сябрам і паплечнікам, увесь час некага не стае.

**Рыгор НЯХАЙ**

# Іскрынка...

Упершыню сустрэцца з Уладзімірам Барысавічам мне пашчасціла ў 1961 годзе ў Доме творчасці пісьменнікаў у Каралішчавічах. У сталоўцы мы сядзелі за адным сталом. Ён, як мне здалося, спачатку не мог зразумець, адкуль і навошта тут, у Доме творчасці, армейскі старшына. Пацікавіўся ў сястры-гаспадыні: хто такі? Адказала:

— Як і вы — раман піша.

Праверыў, сапраўды — піша. У кутнім пакоі ноч навылёт святло гарыць.

І неяк нечаканы стук у акенца: "Выходзь! Выйшаў.

Узяў ён мяне пад руку, павёў.

— Што-небудзь раней выходзіла?

— Некалькі апавяданняў у газетах...

— І адразу раман?

— Угу...

— Пачытаеш, можа? Я ж не толькі пісьменнік, я сто гадоў рэдактар, глядзі і падкіну ў тваё вогнішча неабходную іскрынку.

— Дзякуй, Уладзімір Барысавіч. З задавальненнем пачытаю. І, вядома, з вялікім страхам...

— Ну-ну-ну, не шумі, салдат, не шумі...

Прачытаў яму за некалькі дзён амаль увесь раман. Як зараз памятаю: адкінуўшыся на спінку канапы, заплюшчыўшы вочы, — быццам бы заснуў, — ён слухаў, не перабіваючы... Часам памячаў штосьці ў блакноце, з гэтых паметак нараджаліся потым тыя самыя "іскрынкі", якія так былі неабходны мне няопытнаму пачынаючаму пісьменніку. І колькі іх было, гэтых іскрынак!

Хадзілі вакол Дома творчасці, размаўлялі, і ў гэтых размовах ён мог нея сцерці мяжу паміж сабою — масцітым пісьменнікам і мною, пачынаючым. І пасля гэтых гутарак я адчуваў у сабе нейкую акрыленасць, упэўненасць у сваіх сілах і, прачнуўшыся ўначы, прыс654аў нашыя. 

Значна пазней мне неаднойчы даводзілася выступаць разам з Уладзімірам Барысавічам у розных аўдыторыях: рабочых, вясковых, армейскіх. Асабліва ўспамінаецца чытацкая канферэнцыя па яго рамане "Вясенція ліўні" на Мінскім аўтамабільным заводзе. Колькі цёплых слоў было там сказана чытачамі ў адрас аўтара рамана! Не менш гадзіны ён адказваў на пытанні чытачоў, зацікаўленых узнятымі ім глыбіннымі праблемамі нашага сучаснага жыцця. Я глядзеў на яго і адчуваў: шчаслівы Уладзімір Барысавіч, слова яго не пусты гук, яно хвалюе, яно дайшло да сэрца яго народа.

Успамінаецца адна з нарад у Маскве, дзе сабраліся пісьменнікі, якія распрацоўвалі ў сваіх творах ваенна-патрыятычную тэму.

Нас, прадстаўнікоў усіх рэспублік, павезлі ў Зорны гарадок, дзе перад намі выступіў лётчык-касманаўт Герой Савецкага Саюза Герман Цітоў.

Калі вярталіся да аўтобуса, Уладзімір Барысавіч, нязвыкла ўзбударажаны, усклікнуў:

— Скінуць бы гадкоў дваццаць, дваццаць пяць — пайшоў бы ў лётчыкі і абавязкова — у касманаўты, каб бліжэй да зор, да зорачак. Шкада, што зрабіць гэтага немагчыма.

"Да зорачак"... "Іскрынка"... Дарэчы, і апошнюю аповесць, над якой працаваў, назваў "Адкрытая зорка". Ён любіў усё тое, што іскрылася, нараджалася і давала святло...

А як прымалі ў Акружным доме афіцэраў, у вайсковых гарнізонах! Прымалі як байца — старэйшага, багатага вопытам, воіна, падпольшчыка, партызана, разведчыка глыбокага тылу, які сказаў чыстую праўду пра вайну, пра подзвіг у ёй савецкага чалавека.

Здарылася так, што мне з групай таварышаў давялося везці ў Дом літаратара дамавіну, якую праз некалькі гадзін вынеслі на плячах аднадумцы-пабрацімы, праводзячы яго ў апошні шлях. Я глядзеў у абрысы яго твару і мне не хацелася верыць у тое, што адбылося. Здавалася, ён заснуў. Зараз прачнецца і скажа:

— Хочаш, падкіну табе іскрынку?

Такім — жывым, абаяльным, цёплым — я яго і запомніў. Запомніў назаўсёды.

**Мікалай КРУГАВЫХ**

МУЗЫКА

# Творчая радасць — праз жыццё

***Спасцігаць жыццё глыбока і эмацыянальна — не проста. Тут і боль, і радасць, захопленасць і самаадданасць... Жыццё...***

***А за ўсім гэтым — жаданне зберагчы свой унутраны свет, што так неабходны мастаку для творчасці.***

***Шлях у жыццё пачынаецца з дому. А за вокнамі дома яе дзяцінства быў цудоўны краявід. І ў доме было ўсё тое, што называецца чалавечым шчасцем: дабрыня, шчырасць узаемаадносін, турбота пра душу бліжняга. Можа, таму і сёння яе вочы адлюстроўваюць дапытлівасць і маладосць, выпраменьваюць светлы розум і духоўнасць.***

Эльфрыда Мікалаеўна Азарэвіч — асоба, пра якую нельга не расказаць. Яна, таленавіты і ўдумлівы настаўнік, выхавала плеяду музыкантаў, якія годна ўвасабляюць праз сябе высокае мастацтва.

Сёння вядома шмат таленавітых выканаўцаў на баяне, выпускнікоў Беларускай акадэміі музыкі, адзначаных высокімі званнямі ды ўзнагародамі. А вось адным з першых арганізатараў вышэйшай музычнай адукацыі па спецыяльнасці баян на Беларусі называюць яе, Э. Азарэвіч.

Адметнасць яе педагагічнай творчасці зыходзіла з разумення праблем мастацкай адукацыі, іх удумлівага асэнсавання, дзе ўлічваўся важкі момант успрымання сукупнасці музычных традыцый.

Разумець гармонію гукаў яна навучылася ў дзяцінстве. Таму, магчыма, гэтак аргументавана вызначала свой шлях да мастацкага ўдасканалення свядомасці, развіцця індывідуальнасці музыканта і педагога. Таму ў гісторыі баяннага мастацтва на Беларусі імя Эльфрыды Мікалаеўны Азарэвіч займае месца першае — і высакароднае.

А шлях яе быў доўгі і няпросты. Ахвяры вайны, страты і вяртанне да мірнага жыцця з яго штодзённымі праблемамі...

1935 год. З энтузіязмам маладосці і таленту дзяўчынка спасцігае прафесійнае мастацтва ў Мінскім музычным тэхнікуме.

Дзяржаўны экзамен прайшоў бліскуча. І старшыня камісіі рэкамендаваў ёй паступаць у кансерваторыю. Гэта быў рэктар — Міхаіл Аркадзьевіч Бергер.

Натхнёная ў працы, свабодная і ўзнёслая ў сваіх гарманічных стасунках з мастацтвам, у 1940 годзе яна становіцца першай студэнткай Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі па класе баяна.

1941 год... Эвакуацыя і два — апошнія — лісты ад брата з фронту...

Пасля жыццёвых выпрабаванняў Эльфрыда Мікалаеўна знаходзіць сваё апірышча ў мастацтве. Выкладчык музычнага тэхнікума з 1945 г., артыстка Дзяржаўнага народнага аркестра пад кіраўніцтвам І. Жыновіча, у 1949 г. яна працягвае вучобу ў кансерваторыі. А ўжо ў 1950 г. працуе асістэнтам Іосіфа Іосіфавіча, які ў той час быў загадчыкам кафедры народных інструментаў БДК.

Сёння ў гутарцы з Эльфрыдай Мікалаеўнай, таленавітым чалавекам, адчуваеш, наколькі не схільная яна да дэманстрацыі асабістых якасцей. Але часам спыняе ўвагу на такіх "дробязях", якія даюць падставу для шырокіх абагульненняў.

І разумееш, што рэпертуар яе вучняў быў куды больш разнастайны, чым у той час дазваляла баянная літаратура. Яна імкнулася пашыраць яго. І аднойчы звярнулася да Іосіфа Іосіфавіча з просьбай паспрыяць творчым зносінам баяністаў з як мага большай колькасцю музыкантаў розных спецыяльнасцей. Жыновіч, таленавіты музыкант і арганізатар, зразумеў праблему і паспрыяў таму, каб акадэмічныя канцэрты праходзілі аднachасова пры адной камісіі: фартэпіяна, скрыпка, віяланчэль, баян... Глыбокае вывучэнне музыкі, творчае тлумачэнне і дакладнае ўзнаўленне яе садзейнічала пералажэнням класікі. Пры гэтым Эльфрыда Мікалаеўна адкрывала ўсё новыя магчымасці баяна. Сталасць думкі і строгая акадэмічнасць у працы заслугоўвалі ўсеагульную павагу да яе.

Прафесар Акадэміі музыкі, яе колішні выпускнік Валянцін Чабан пра сваю настаўніцу гаворыць з цеплынёй: "Пранікнёнасць кожнага гуку і майстэрства ўвасаблення таго, да чаго трэба імкнуцца ў выканальніцкай творчасці, на уроках Эльфрыды Мікалаеўны было галоўным мастацкім кірункам. Мастацтва пераўвасаблення яна несла як адзін з ідэалаў выканальніцкай творчасці. Творы, разнастайныя паводле жанру і стылю, у класе вывучаліся дасканала. Захаплялі ў ёй не толькі дар змястоўнай працы, але і пераносіны сучаснага творчага мыслення на пералажэнні класікі. А з якой непасрэднасцю, асабістай зацікаўленасцю Эльфрыда Мікалаеўна апрацоўвала ўлюбёныя інтанацыі нацыянальнай музыкі! Ну, хто не помніць "Фантазію" Яўгена Глебава, рэдактарам якой яна была! Тонкая суадпаведнасць прыроды гуку інструмента і гарманічнага ладу музычнага твора заўсёды выклікала адчуванне праўдзівасці і шчырасці ў яе пералажэннях".

Эльфрыда Мікалаеўна ў сваіх вучнях раскрывала талент бачыць усе дэталі, здатныя перадаць найтанчэйшыя нюансы высокай класікі і жыватворных народных традыцый.

Так, метадычныя прынцыпы кожнага будучага настаўніка фарміруюцца на падмурку той школы, якую ён прайшоў сам. Шмат дае асабісты вопыт, але тое, што набываеш у гады навучання, застаецца кіруючым, прафесійна-маральным у выбары шляху да ўдасканальвання.

У 1999 годзе да юбілею Эльфрыды Мікалаеўны Азарэвіч у часопісе "Мастацтва Беларусі" з'явіўся артыкул яе выпускніцы, а сёння дацэнта Акадэміі музыкі Т. Кароткай (Брагінец), якая піша так: "Адна з найбольш каштоўных якасцей Азарэвіч-педагога — уменне раскрыць і развіць індывідуальнасць вучня... Інтуітыўнае выканаўства яна пераўтварала ў глыбока асэнсаванае і вяла маладых музыкантаў да разумення законаў выканальніцкага майстэрства. Мэты, пастаўленыя перад намі, былі дакладныя: сваёй дзейнасцю спрыяць развіццю баяннай школы, пастаянна ўдасканальваць веды, імкнуцца да прафесійнага росту".

Складаны і нялёгкі шлях у мастацтве. Ад многіх абставін залежыць яго пасяховасць. Але ж галоўнае — сустрэць настаўніка, які здолее вывесці цябе на гэты шлях, што дае ўплыў творчай радасці на ўсё жыццё.

**Альбіна ЦАРОВА**

ПАРОДЫІ

Павел САКОВІЧ

## *Рыбацкія мроі*

*Браслаўскі край.*
*Эдэм для ўсіх жывых...*
*Бульбаш, я тут з жанчынаю —*
*як Бог, —*
*І рай тут у будане пад кустам.*
*Шчаслівы, быццам заяц у капусце,*
*Тулюся да яе азяблых ног.*

**Кастусь ЖУК**

***Я цар Няптун, а можа, й Бог!***
***Жыву шчаслівы ў будане пад кустам.***
***Лаўлю русалак у марской капусце,***
***Шкада вось толькі — каб ім пуста! —***
***Хвасты ўсё лашчу замест ног.***

## *Скнара*

*Я жыву. Нетаропка. З густам.*
*Паважаючы дзён хаду.*
*Мёд у соты...*
*Табе ж на вусны*
*Пацалункі свае кладу.*

**Зміцер ЦЕХАНОВІЧ**

***Ем я многа. Няспешна. З густам.***
***Паважаючы ўсю яду:***
***Моркву, яблыкі і капусту,***
***Мёд у сотах... Табе ж на вусны***
***Пацалункі адны кладу.***

## *Чым зняць гаркоту ў суботу?*

*Не, я з дэпрэсіі выйшаў даўно,*
*То ад рабіны такая гаркота,*
*Заўтра нядзеля, сёння — субота.*
*Хоць панядзелак, усё мне адно.*

**Алесь ЖЫГУНОЎ**

***Я ўжо з дэпрэсіі выйшаў даўно,***
***Ды ад рабінаўкі ў роце гаркота.***
***Збегаю ў лазню, сёння ж — субота,***
***Там пахмялюся піўком заадно.***

ВЕРНІСАЖ



*"Генеральная рэпетыцыя"*



TAXI

*— З Вас яшчэ даплата за рачную прагулку!*

*Малюнкі Аляксандра БУЛАЯ.*

Юрась СВІРКА

# Наскае і парнаскае

## *Дзяга*

***Я не датумкаю ні ў якім разе,***
***Як дзірак дабаўляць у дзязе.***
***Не ў бок пупка, а ў бок хрыбта.***
***Адкуль такая (смех сказаць) бяда?***
***Наводзіць дзяга чорную тугу:***
***Заціснуць бы тужэй, ды не магу.***
***І гэтаму адзіная прычына —***
***Баюся, пераломіцца хрыбціна,***
***Як жыць далей?***
***Пара, відаць, да Бога.***
***Апроч білетаў — льготнага нічога.***
***Ды я нікуды ехаць не магу:***
***Апошняе здароўе берагу...***
***Сусед сказаў былому рабацягу:***
***"Бубніш ты пра жывот свой і пра дзягу,***
***Не ный і не наводзь на дзягу звягу.***
***Аперазаць бы тых, хто у падцяжках,***
***Канцом, што з важкай***
***Металічнай пражкай.***
***Пакуль жывы, ты не мудры, Андрэй, —***
***Купляй штаны вузейшыя хутчэй"...***

## *Юбілейны маналог*

*Адольфу Варановічу, аўтару кнігі прозы "Высокі падмурак", у дзень 60-годдзя*

***Дамок мой на капу кругоў***
***У чэрвені падняўся.***
***Ды я памысліў зноў і зноў:***
***"Няўжо адбудаваўся?"***

***Не хмарыцца святло вачэй,***
***Я маляваць прывычны.***
***І нешта бачыцца яшчэ***
***Ў рэзервах празаічных.***

***Свой дом прыгожа нарашчу,***
***Каб вабіў ён здалёку.***
***У нізкім жыць я не хачу:***
***Падмурак мой высокі.***

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

Прыватызацыя адкрыла шырокія гарызонты. Амаль за нішто набыў маёнтак. Суцішаю цяпер прадпрымальніцкі сверб у клопатах пра адпаведны герб. З часам будзе можна набыць і больш шляхетнае прозвішча. Ладжу пакуль пад маім кіраваннем канферэнцыю па гісторыі панскіх уладанняў. На мае запрашэнні-кампліменты адгукнуліся першыя прафесары і дацэнты.

**Наступны нумар штотыднёвіка "ЛіМ" выйдзе 1 верасня 2000 года.**


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Павел ВЕРАБ'ЁЎ** — *намеснік галоўнага рэдактара,*
**Алесь ГАЎРОН** — *адказны сакратар,*
**Мікола ГІЛЬ,**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Яўген РАГІН,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП** — *першы намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**
**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**
**паэзіі і прозы — 284-8204**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462**
**навін — 284-8462**
**мастацкага афармлення — 284-8204**
**фотакарэспандэнт — 284-8462**
**бухгалтэрыя — 284-8462**





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 2812
Нумар падпісаны ў друк 17.08.2000 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 4264.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12